


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

18 МАЯ 2001г. № 20/4104 КОШТ 127 РУБ.








# Сведкі ледавіка




Каб трапіць у гэты музей на ўскраіне горада, ва Уруччы, не трэба ўваходны білет. Жыхары наваколля ўвогуле ўспрымаюць яго як парк, як зону адпачынку — пра што сведчыць непрыбранае смецце і рэшткі вогнішчаў. Але гэта самы сапраўдны музей, хоць і не зусім звыкла ўспрымаць звычайныя валуны экспанатамі, што маюць гістарычную і навуковую каштоўнасць. Так. З развіццём урбанізацыі наспела патрэба ствараць ахоўныя зоны для рэшткаў прыроды, звозіць у спецыяльна адведзеныя месцы ўзоры старой драўлянай архітэктуры і вясковага побыту, збіраць камяні...

Калісьці традыцыйны беларускі краявід стваралі тры прыродныя чыннікі — сосны, валуны і жыта. Сёння Беларусь, як збольшага і ўся астатняя Еўропа — асфальт і бетон. Знікаюць прыгарадныя вёскі, пакінуўшы свае імёны новым гарадскім раёнам. Мабыць, і сосны сёння не тыя, што сто-дзвесце гадоў назад. Застаюцца камяні. Сярод гэтых валуноў, што нагнаў сюды яшчэ вялікі ледавік, адчуваеш сябе эфемерным экспанатам касмічнага музея камянёў. Камяні застаюцца...

**П. В.**



*Фота М. ПРУПАСА*



## КОЛА ДЗЁН

***Сёння пачаў сваю працу другі Усебеларускі народны сход, у якім удзельнічае больш двух з паловай тысяч дэлегатаў і гасцей не толькі з нашай краіны, але і з замежжа, дзе жывуць беларусы. Напярэдадні сходу ў друку быў абнародаваны праект "Асноўных палажэнняў Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001—2005 гады". У сходзе ўдзельнічае 755 жанчын, 221 рабочы, 273 работнікі сельскай гаспадаркі, 272 інжынерна-тэхнічныя работнікі, 519 работнікаў сацыяльна-культурнай сферы, 497 кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама 718 студэнтаў, прадпрымальнікаў, ваеннаслужачых, пенсіянераў і асоб іншых катэгорый. Сярод дэлегатаў— 17 Герояў Савецкага Саюза і Герояў Сацыялістычнай Працы. Іншых дзяржаўных узнагарод удастоены 513 чалавек, ганаровыя званні маюць 175 чалавек. Дэлегатамі сходу з'яўляюцца таксама 505 дэпутатаў мясцовых Саветаў, 251 прадстаўнік палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Перад дэлегатамі сходу выступіць прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.***

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Святкуюць юбілеі не толькі людзі, але, як вядома, і ўстановы. У адных гэта ўжо салідныя лічбы, а ў другіх першыя дзесяткі. Дзесяцігоддзе з дня стварэння адзначае найбуйнейшая мытня Беларусі "Заходні Буг", у складзе якой цяпер сем пагранічных і тры ўнутраныя пасты. Працы мытнікам хапае. Маркуйце самі. Штосутачна праз мытню праходзіць звыш 7 тысяч адзінак транспарту і звыш 20 тысяч пасажыраў. Калі браць у працэнтах, то праз "Заходні Буг" праходзіць 51 працэнт усіх экспартна-імпартных грузаў нашай краіны, 53 працэнты ўсіх транзітных грузаў і 31 працэнт усяго пасажырапатоку. Толькі за 4 месяцы гэтага года праз юбілярку праследавалі звыш 2 мільёнаў чалавек і звыш 752 тысяч адзінак транспарту. Словам, "Заходні Буг"—гэта нашы галоўныя вароты ў Еўропу, і хочацца, каб і надалей яны прыносілі нашай дзяржаве прыбытак. А прыбытак ёсць—толькі ў 2001 годзе ў бюджэт Беларусі пералічана 14,9 мільярда рублёў...

### ПЕРСПЕКТЫВЫ ТЫДНЯ

Гледзячы расійскае тэлебачанне, бачыш на экране, як у нашай суседкі не толькі ў Чачні гарады ў развалінах, але і па ўсёй яе тэрыторыі хапае развалюх. Зрэдку паказваюць, што недзе нешта будуецца. А яно так і на самай справе, у адрозненне ад нашай краіны. У нас толькі ў першым квартале 2001 года ўведзена ў строй 674,4 тысячы квадратных метраў жылля, што складае 22,5 працэнта ад гадавога задання. Гэта добры паказчык, і трэба спадзявацца, што гадавы план будзе выкананы. І ўсё ж жылля як не хапала, так і не хапае. Але, як гаворыцца, дарогу асіліць той, хто ідзе...

### МАРШРУТ ТЫДНЯ

Не за гарамі лета—час адпачынкаў і вандровак. Нехта будзе корпацца на сваім лецішчы, а нехта, назбіраўшы за зіму грошай, выберацца ў дарогу. Але, як бы там ні было, няма аднолькавых дарог, а тым больш няма аднолькавых цэн на білеты. Таму многія з радасцю ўспрымуць паведамленне, што цягнік "Санкт-Пецярбург—Калінінград", які раней хадзіў праз Латвію, з 10 чэрвеня пачне хадзіць праз нашу краіну (Маладзечна—Віцебск—Полацк) і Літву. Маршрут змяніўся, бо Латвія ўвяла транзітныя візы для асоб, канчатковая мэта руху якіх не знаходзіцца ў Латвійскай Рэспубліцы. Кошт білета на зменены маршрут будзе ніжэйшы, чым на былы маршрут плюс кошт транзітнай візы праз Латвію. "А быў жа час..."—нехта ўздыхне і нікуды не паедзе, як нікуды і раней не ездзіў.

### ПЕРАХОД ТЫДНЯ

Закончыўся чэмпіянат свету па хакеі. На гэты раз зборная Беларусі не апраўдала спадзяванняў сваіх заўзятараў. Гэта стала фактам пасля таго, як каманда Латвіі перайграла ў заключным матчы суцяшальнага турніру за права застацца ў сусветнай эліце зборную Нарвегіі з лікам 3:0 і апярэдзіла беларусаў па лепшай розніцы забітых-прапушчаных шайбаў. Цяпер зборныя Беларусі і Нарвегіі пераходзяць у першую лігу. Іх месца на першынстве-2002 года, якое пройдзе з 25 красавіка па 11 мая ў Швецыі, зоймуць каманды Польшчы і Славеніі. Нам жа ў наступным годзе разам са зборнымі Нарвегіі, Галандыі, Эстоніі, Венгрыі і Казахстана прыйдзецца змагацца за адну з дзвюх пуцёвак у сусветную эліту. Што ж, будзем хваляваца і далей за нашых хлопцаў...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень у абменных пунктах можна спакойна і без асаблівай чаргі здаць і купіць валюту па 1375 рублёў за адзін долар. Па прагнозах спецыялістаў, курс беларускага рубля ў адносінах да долара на канец 2001 года будзе ў межах 1620 рублёў за долар. Праўда, прагнозы прагнозамі, але... За першы квартал насельніцтва нашай краіны купіла ў абменных пунктах валюты на 33,2 мільёна долараў больш, чым ім было здадзена. Лічба салідная,тым больш, што большасць насельніцтва жыве ад зарплаты да зарплаты, ад пенсіі да пенсіі, а не купляе долары...

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Нікога ўжо не здзівіш тым, што павысілася цана на алкагольную прадукцыю. На гэты раз на 4 працэнты. Цяперашняе павышэнне цаны на гарэлку стала сёлета пятым. Апошняе было 3 красавіка. І тое, што падаражэла гарэлка,—нястрашна, бо без яе можна абысціся. Не даражэлі б іншыя тавары...

### ПРАДКАЗАННІ ТЫДНЯ

Верыць ці не верыць астролагам? Адны адназначна кажуць: "Не!" Другія: "Трэба верыць, але..." А многія вераць без усякіх "але", нават не ўспамінаюць тыя прагнозы, якія былі 10 гадоў назад і якія зусім не спраўдзіліся. Праўда, не кожны астролаг астролагу раўня. Да прыкладу, Павел Глоба адзін з самых аўтарытэтных і вядомых астролагаў. Шмат што ён прадказваў, але амаль нічога не спраўдзілася. І ўсё ж Глоба працягвае прадказваць. Нядаўна ён быў у Віцебску. На адной са сваіх лекцый ён сказаў, што ў 2004 годзе развалiцца ЗША, бо там пры кіраўніцтве 44-га прэзідэнта адбудуцца жудасныя катастрофы і т.д. Ад ЗША застанецца некалькі штатаў, якія будуць варагаваць паміж сабой. Нялепшая доля чакае Лондан і Японію, якія будуць агорнуты цемрай і знікнуць у марскіх глыбінях. НАТА таксама развалiцца і больш ніколі не будзе гаспадарыць у свеце. Сусветныя перамены закрануць і нашу Беларусь. Праўда, нас чакае росквіт. Дзякуючы беларусам, адбудзецца новае славянскае ўз'яднанне. Сённяшні прэзідэнт нашай краіны будзе кіраваць да 2008 года і ў гэты ж год сталіцай Беларусі стане Віцебск. Другім прэзідэнтам будзе выхадзец з зямлі Полацкай, які названы "будаўніком", прадоўжыць справу Лукашэнкі. Аднак, нягледзячы на ўсё добрае, у гэтым тысячагоддзі наш свет знікне зусім. Словам, такія вось у нас перспектывы...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Традыцыйны семінар маладых літаратараў сёлета прыйшоўся на май. Больш за пяцьдзесят пачынаючых паэтаў, празаікаў, драматургаў, літаратурных крытыкаў з нецярпеннем чакалі гэтага дня. Дарэчы, своеасаблівым падарункам для іх і мінулагодніх удзельнікаў семінара стала кніга "Анталогія маладога верша", якая выйшла ў выдавецтве "Ураджай" і куды ўвайшлі паэтычныя падборкі 67 маладых аўтараў.

Адкрыўся семінар у вялікай зале Дома літаратара. Перад яго ўдзельнікамі і гасцямі выступілі в. а. старшыні СБП В. Іпатава, першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку У. Глушакоў, народны паэт Беларусі Н. Гілевіч, пісьменнікі А. Савіцкі, А. Камароўскі, М. Мятліцкі, У. Някляеў...

Семінарысты мелі магчымасць сустрэцца з прадстаўнікамі літаратурна-мастацкіх выданняў Б. Пятровічам, А. Бадаком, А. Канапелькай.

Добра і зладжана працавалі секцыі, якімі кіравалі М. Мятліцкі, Я. Каршукоў, А. Сульянаў, А. Глобус, Г. Кісліцына, А. Масарэнка.

А завяршыўся семінар вечарынай паэзіі, у якой разам з семінарыстамі бралі ўдзел М. Мятліцкі, Н. Гальпяровіч, Л. Дранько-Майсюк, Н. Загорская, І. Чыгрын, А. Гуцаў, В. Слінко, М. Мажар, З. Вішнёў. Удзельнікаў семінара на паэтычнай пераклічцы прадстаўлялі В. Калеева, В. Кустава, І. Клепікаў, Т. Хмарка, І. Тоўсцік, Д. Кандрацьеў, Г. Міклашэвіч, Я. Булка, В. Ласаева, А. Кузняцоў, В. Сямашка.

Больш падрабязна пра работу семінара маладых літаратараў можна будзе прачытаць у наступных нумарах "ЛіМа".

●

Да праекта помніка Барысу Сачанку на Маскоўскіх могілках прыступіў скульптар Барыс Пуставой. Заказ пасля неаднаразовых зваротаў СБП ажыццяўляе Міністэрства культуры і Мінгарвыканкам. Пасля грамадскага абмеркавання помніка, ён будзе ўстаноўлены ў максімальна кароткі тэрмін.

●

Цёпла сустракалі ў вёсцы Драганава Асіповіцкага раёна пісьменнікаў Навума Гальпяровіча і Паўла Вераб'ёва. СБП, як вядома, узяў шэфства над юнымі талентамі з Асіповіччыны, дапамог у арганізацыі літаратурнага аб'яднання пры раённым аддзеле адукацыі.

Нядаўняя сустрэча з вучнямі і настаўнікамі Драганаўскай сярэдняй школы з'явілася канкрэтным працягам творчага шэфства. У ёй прынялі ўдзел выкладчыкі беларускай мовы з іншых школ раёна.

Госці таксама наведалі школьны музей, мелі цікавыя гутаркі з мясцовымі літаратарамі, прапагандыстамі роднага слова. Нямала было сказана і пра штотыднёвік "ЛіМ", які карыстаецца папулярнасцю ў мясцовай інтэлігенцыі.

**Н. К.**

*ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ТРЫБУНА*

# Шукаць гаспадара

Пісьменнікі выдаюць свае творы за ўласны або спонсарскі кошт. У далейшай працы перашкаджае нулявое фінансаванне (адсутнасць рахунку ў аддзяленні СП) і неакрэсленасць прававога статуса Саюза беларускіх пісьменнікаў увогуле.

Трэба пашукаць гаспадара, магчыма, камітэт па друку і інфармацыі, паколькі ён мае казённыя выдавецтвы, а на правінцыі — упраўленні па друку і інфармацыі.

Давайце найперш перастанем плакаць аб лёсе роднай мовы і што нас не запрашаюць у школы. З лёсам нічога не зробіш. Школы належаць Міністэрству народнай асветы.

Нам важна ад дзяржавы мець рэальны бюджэт, няхай малы; трымаць на ім як мага болей літаратараў, а не персаналу Дома літаратара ў Мінску.

У нас павінна быць выдавецтва, план работы якога мае вызначаць рада СП — так, як гэта робяць капітулы Інстытута Гётэ ці Інстытута Франсэ. Колькі зможа той бюджэт прафінансаваць аўтараў, столькі і выйдзе кніжак.

У гэтай радзе павінны быць аўтаматычна сакратары з Фрунзе, 5 і сакратары з абласцей.

Шэф СП мае быць намеснікам міністра па друку ці загадчыкам аддзела міністэрства па літаратуры. Тое — і ў абласцях.

Усе "брацкія магілы" ў выдавецкіх рэдакцыях за 10-15 гадоў павінны быць разабраны.

Аўтар, калі здае ў выдавецтва кнігу, павінен атрымаць афіцыйны дакумент, што яго кніга ўзята і будзе надрукавана ў пэўны тэрмін.

Калі кнігу трэба дапрацаваць, аўтар мае атрымаць рукапіс і афіцыйнае пасведчанне. Аўтар мае падаць апеляцыю ў раду: як вырашыць рада — так павінна быць.

Аўтар, якога выдавецтва ў друк не бярэ, павінен атрымаць назад кнігу, рэцэнзію і канкрэтна вызначаную прычыну, чаму не бярэ.

Планам кнігадруку і арбітражам паміж аўтарам і выдавецтвам мае займацца рада. Другая функцыя рады — планаванне бюджэту.

Перад пачаткам фінансавага года рада мае падаць у камітэт па друку і Міністэрства фінансаў канкрэтную выразную паперу: чаго хочуць, а чаго не хочуць літаратары.

Спіс мае быць "па ранжыру", улічваючы, што міністр фінансаў скарачае планы прыкладна ўдвая, а то і болей. Таму і аўтары маюць быць расстаўлены "па ранжыру", у спісе павінны быць і жывыя, і памерлыя аўтары.

Такі спіс павінны мець усе, хто належыць да СП.

Рада СП мае паклапаціцца пра дадатковыя пенсіі за літаратурную работу (паколькі прыналежнасць да СП залічваецца ў працоўны стаж); стыпендыі для тых, хто да пенсіі яшчэ не дажыў, сродкі на санаторнае, амбулаторнае лячэнне для інвалідаў, ветэранаў і хворых. Рада павінна ведаць — як хто жыве, а не разважаць у секцыях пра тое — як хто і што піша, не ведаючы — чаго хоча. Рада павінна скончыць з дыскрымінацыяй літаратараў з прычыны мовы, бо не прыняць у СП чалавека за тое, што ён піша па-руску ці па-польску — гэта тое самае, што ў гастраноме плюнуць у твар таму, хто гаворыць па-беларуску.

Не кепска было б змяніць працэдуру прыёму ў СП, успомніўшы, што працэдура гэтая ўведзена ў 1934 г., па версіі І. Сталіна і А. Жданава.

Будучы з'езд можа пастанавіць, што аўтар, які прысылае ў любую ўстанову СБП з кнігай ці 10 публікацыямі і пакідае для даведак маленькую кардонку (імя, прозвішча, год нараджэння, адрас і тэлефон), — атрымоўвае білет СП.

Нічога страшнага, што ў нас "прападзе" літаратура ад таго, што ў Саюзе будзе не 500, а 5 ці 15 тысяч, што да "творцаў" набягуць графаманы, шызафрэнікі і ўсіх патопчуць.

Варта падумаць пра стварэнне Акадэміі літаратуры для даўно працуючых майстроў — накшталт Французскай Акадэміі Бессмяротных з 40 чалавек (ніколі не прымаюць 41, прымаюць 40-га, калі застанецца 39), прымаюць таго, каго самі захочуць... Такая акадэмія па-за функцыяй шанавання мела б практычную задачу адну — раз у год працавала б як капітула і дзяліла б літаратурныя прэміі закрытым тайным галасаваннем.

Перад тым, як бегаць па школах, вёсках, дажынках, неафіцыйных мітынгах, афіцыйных міністэрствах, еўрапейскіх Хельсінках, цягніках дружбы, лецішчавых 6 сотках і плакаць пра горкі лёс беларускай мовы, было б добра навесці нейкі парадак у Саюзе пісьменнікаў увогуле і кожнаму ў сваёй галаве ў прыватнасці: як працуем, што пішам, якой гэта якасці і каму гэта трэба...

Перастаньма жыць у Савецкім Саюзе, пачнём жыць у сябе дома. Таму мусім памяняць арганізацыю работы так, як было пададзена вышэй.

**Данута БІЧЭЛЬ**

# Нацыянальнаму фестывалю беларускай песні і паэзіі — быць!

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне "Аб правядзенні Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі", у якім гаворыцца:***

1. Правесці з 8 па 10 чэрвеня 2001 г. Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі ў г. Маладзечна.

2. Зацвердзіць арганізацыйны камітэт Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў наступным складзе: намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь (старшыня арганізацыйнага камітэта)**Міхаіл Дзямчук**, міністр культуры (намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта) **Леанід Гуляка**, старшыня Мінскага аблвыканкама (намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта)**Мікалай Дамашкевіч**, начальнік упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама **Анатолій Акушэвіч**, першы намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкама **Яфім Ідзельчык**, выконваючы абавязкі старшыні грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**Вольга Іпатава**, старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз кампазітараў" **Ігар Лучанок**, старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку **Міхаіл Падгайны**, першы намеснік старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі**Ягор Рыбакоў**, першы намеснік міністра культуры**Уладзімір Рылатка**, намеснік міністра фінансаў **Анатолій Сверж**, начальнік упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі Апарату Савета міністраў Рэспублікі Беларусь **Алена Сівалобава**, мастацкі кіраўнік — дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь**Міхаіл Фінберг**, начальнік упраўлення па каардынацыі ідэалагічнай, інфармацыйнай дзейнасці дзяржаўных органаў галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**Валерый Харавец**, старшыня Маладзечанскага гарвыканкама **Мікалай Чурсін**, першы намеснік міністра ўнутраных спраў — начальнік міліцыі грамадскай бяспекі і спецыяльнай міліцыі **Аляксандр Шчурко.**

ВІНШУЕМ!

## Заслужанае званне

"Ніна Антонаўна!.." — заўсміхаюцца зараз многія з нашых чытачоў, пазнаўшы твар на фотаздымку. Знаёмае абліччa любімай актрысы яны не так і даўно бачылі на старонках "ЛіМа". Прыгадвалі яе сёлетні бенефіс. Чыталі яе інтэрв'ю, перажываючы складаны лёс нашай зямлячкі, чыя музычна-сцэнічная кар'ера бліскуча складвалася далёка ад роднага Мінска, пакуль ужо ў сталыя гады не пашчасціла вярнуцца на радзіму і апынуцца ля вытокаў новага, маладога тэатра. Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі. Цяпер гэта Дзяржаўны музычны тэатр, а Ніна Антонаўна Равінская — адна з яго славутасцяў і легенд.

Да нядаўняга часу яна мела ганаровае званне "Заслужаная артыстка РСФСР". Днямі яе адметнае і адданае служэнне роднай мінскай сцэне атрымала высокае афіцыйныe прызнанне: Ніну Равінскую ганаравалі званнем заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь. Што ж да папулярнасці... Такое прызнанне, такую любоў публікі, як мае Ніна Антонаўна, зведаў мала хто і з "народных".

**С. Б.**



*На здымку: заслужаная артыстка Беларусі Ніна РАВІНСКАЯ ў спектаклі "Баядэра".*

ДАТЫ

## "Маліся, сыне..."

***У сакавіку сусветная, у тым ліку беларуская, грамадскасць адзначыла 187-ю гадавіну з дня нараджэння і 140-я ўгодкі з дня смерці вялікага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі, які спачатку быў пахаваны ў Пецярбургу, а 22 мая 1861 года труна з ягоным прахам была перавезена і перазахавана на Чарнечай гары пад Каневам.***

***На працягу дзесяцігоддзяў у дзень перазахавання вялікага Кабзара каля ягоных помнікаў вольналюбівай часткай творчай моладзі традыцыйна праводзіліся Шаўчэнкаўскія чытанні. З 1987 года гэтыя чытанні ператварыліся ў афіцыйнае Міжнароднае Шаўчэнкаўскае літаратурна-мастацкае свята "У сям'і вольнай, новай...", якое праводзіцца штогод, кожны раз у іншай вобласці Украіны. Летась гэта была Хмяльніччына, сёлета будзе Івана-Франкоўшчына. Звычайна туды запрашаюцца і беларускія пісьменнікі.***

***Прапануем увазе чытачоў вершы Тараса Шаўчэнкі ў перакладзе Валерыя Стралко, удзельніка леташняга Шаўчэнкаўскага свята.***

### Тарас ШАЎЧЭНКА

●

*Мінаюць дні,*
*мінаюць ночы,*
*Мінае лета. Шапаціць*
*Ліст пажаўцелы, гаснуць вочы,*
*Заснулі думы, сэрца спіць,*
*І ўсё заснула, і не знаю,*
*Ці я жыву, ці дажываю,*
*Ці так па свеце валачуся,*
*Бо ўжо не плачу й не смяюся...*
*Доля, дзе ты! Доля, дзе ты?*
*Мець бы хоць якую;*
*Калі шкода добрай, Божа,*
*Дай хоць злую, злую!*
*Не дай спаці хадзячаму,*
*Сэрцам зацінацца*
*І гнілою калодаю*
*Па свеце валяцца.*
*А дай жыць душою, сэрцам*
*І людзей любіці,*
*А як не... дык праклінаць*
*І свет запаліці!*
*У кайданы страшна ўлезці,*
*Памерці ў няволі,*
*Яшчэ горш — у сон упасці,*
*Спаць і спаць на волі, —*
*І заснуць зусім, навекі,*
*Следу не пакінуць*
*Ніякага — аднолькава,*
*Жыў ці гніў мякінай!*
*Доля, дзе ты, доля, дзе ты?*
*Мець бы хоць якую;*
*Калі шкода добрай, Божа,*
*Дай хоць злую! Злую!*

1845

●

*Мне абыякава, ці буду*
*Жыць на Ўкраіне я, ці не.*
*Ці хто згадае, ці забудзе*
*Ў чужыне выстылай мяне—*
*Аднолькава ўсё роўна мне.*
*Ў няволі вырас між чужымі,*
*І, неаплаканы сваімі,*
*У няволі, плачучы, памру,*
*Малога следу не пакіну*
*На нашай слаўнай Украіне,*
*На нашай— не сваёй зямлі.*
*Не памяне і бацька з сынам,*
*Не скажа сыну ў час якісь:*
*"Маліся, сыне: за Ўкраіну*
*Яго замучылі калісь".*
*Мне абыякава, ці будзе*
*Той сын маліцца, а ці не*
*Ды не ўсё роўна будзе мне,*
*Як Украіну злыя людзі*
*Прысыпяць,*
*а толькі палыхне—*
*Яе, абкрадзеную, збудзяць*
*Ох, не ўсё роўна будзе мне.*

1847

ГАСТРОЛІ

## Гродзенскі рок-канцэрт

15 мая ў Мінску распачаліся гастролі Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. На працягу дванаццаці дзён на сцэне Рускага тэатра гродзенцы пакажуць лепшыя спектаклі рэпертуару: сцэнічную версію рамана У. Набокова "Кароль, дама, валет" (19, 26 мая), сцэнічную фантазію на аснове трох сюжэтаў Р. Горына "Рок-канцэрт з Рыгорам Горыным" (25, 27 мая), "Татуіраваную ружу" (18 мая), — усе тры спектаклі паставіў рэжысёр Г. Мушперт — "Таццяна" Н. Птушкінай (яшчэ адну гісторыю пра каханне, якую паставіў славуты Р. Таліпаў, можна будзе паглядзець 20—21, 24 мая, камедыю "Лялька" паводле п'есы Б. Шоу "Пігмаліён" у рэжысуры У. Савіцкага (22—23 мая).

Адзначым, што ў бягучым тэатральным сезоне сапраўдны ажыятаж сярод гродзенскай публікі меў спектакль Г. Мушперта "Рок-канцэрт з Рыгорам Горыным" (прынамсі, у сакавіку намеснік дырэктара тэатра казаў, што квіткі на гэты спектакль раскуплены на два месяцы наперад).



"Рок-канцэрт з Рыгорам Горыным" гучыць актуальна, злабадзённа, свежа, дзякуючы перадусім цудоўным тэкстам Р. Горына (інсцэніроўка зроблена па апавяданні "Выпадак на фабрыцы № 6" і п'есе "Рэінкарнацыя", а таксама несумненнай вынаходлівасці рэжысёра, якіўвёў у спектакль "вандроўны" рок-гурт, удзельнікі якога спяваюць знакамітыя песні Б. Грабеншчыкова, А. Макарэвіча, Г. Сукачова, Ю. Шаўчука.

**В. Б.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Рок-канцэрт з Рыгорам Горыным".*
*Фота І. ЛУЦЭНКІ*

## Запрашае дзіцячы кірмаш

Ужо трэці год запар па ініцыятыве Беларускага фонду культуры ў Траецкім прадмесці ладзяцца нацыянальныя кірмашы — своеасаблівыя святы культуры нашай і мастацтва. Сёлетні кірмашовы сезон быў распачаты 5 траўня. Тады над Свіслаччу заяўлялі аб сабе беларускія культурна-асветніцкія аб'яднанні.

Заўтра, 19 траўня, адбудзецца гарадскі дзіцячы кірмаш. Як паведамляе намеснік старшыні БФК Людміла Касяк, ён, як і летась, стане сапраўдным кірмашовым сукцэсам. Траецкае прадмесце ў суботу ўпрыгожыць традыцыйны Горад Майстроў з ужо знаёмымі мінчукам падворкамі, на якіх можна будзе пабачыць і прыдбаць самыя розныя вырабы народнага мастацтва як сталых майстроў, так і іх вучняў. Будзе арганізавана, тэатралізаванае відовішча. З канцэртамі мастацкай самадзейнасці выступяць самыя лепшыя дзіцячыя калектывы Мінска. Пройдзе агляд-конкурс. Будуць наладжаны святочны карагод, забаўляльныя мерапрыемствы, дзіцячы цырк.

Упершыню на дзіцячым кірмашы — прадстаўнікі армянскай культурна-асветнай суполкі Мінска. Як зазначае Людміла Касяк, да ўдзелу ў суботнім святце ўпершыню запрошаны й дзеці-інваліды, дзеці-сіроты...

А 9 чэрвеня на чарговым Траецкім кірмашы культуру і мастацтва Гродзеншчыны будзе прадстаўляць Смаргонь.

**Наш кар.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## "Голасу Веткаўшчыны" — 70

Дваццатага траўня, семдзесят год таму, выйшаў першы нумар Веткаўскай раённай газеты. За гэты час мяняліся назвы раёнкі, але нязменнай засталася журналісцкая пазіцыя — аб'ектыўнае асвятленне жыцця багатага традыцыямі раёна. У газеце, якая зараз прыходзіць да чытача пад назовам "Голас Веткаўшчыны", працавалі ў розныя гады пісьменнікі Яўген Каршукоў, Анатоль Сыс, Віктар Стрыжак...

Гэтымі днямі творчы калектыў раёнкі адзначае юбілей сваёй газеты. "ЛіМ" далучаецца да святочных віншаванняў!

**Наш кар.**

## Навуковая канферэнцыя

У Гомельскім грамадска-культурным цэнтры прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Славянскі свет на рубяжы трэцяга тысячагоддзя", у якой бралі ўдзел навукоўцы і літаратары Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, краін Балтыі, На ёй працавалі секцыі па тэмах "Гісторыя, лёсы і перспектывы развіцця славянскіх народаў", "Традыцыйная народная духоўная культура славян", "Славянская мова ў новых грамадска-палітычных умовах", "Роля хрысціянства ў славянскай культуры". На канферэнцыі абмяркоўваліся і перспектывы выдання Славянскай энцыклапедыі.

## Творы дырэктара школы

У абласной карціннай галерэі экспануюцца творы сябра СМ, дырэктара Гомельскай мастацкай школы Васіля Бондарава. Ён плённа працуе ў тэхніцы алею і пастэлі. Асноўныя жанры ягоных твораў — пейзаж і партрэт. Сярод выстаўленых работ — "Раніца над Дняпром", "Пахмурны дзень", "Жанчына ў чырвоным"...

## Фестываль юных

У Мазыры прайшоў фестываль юных талентаў, якія выступалі ў розных краінах музычнага мастацтва. Канцэрты былі арганізаваны ў Палацы культуры нафтаперапрацоўшчыкаў. Уразілі гледачоў мазырскія ансамбль танца "Фантазія" і балет-студыя "Алексіс", светлагорскі рытм-балет "Эўрыдзікі", рэчыцкі ўзорны ансамбль танца "Асарці", фальклорныя калектывы са Жлобіна, Жыткавіч і гарпасёлка Акцябрскі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Карціны, кнігі, кветкі...

У Глыбокім з'явіўся салон-магазін "Мастацтва". Гэта не проста крама. Тут адчуваеш нейкую ўзнёсласць, цеплыню, асаблівы настрой. На сцяне — карціны. У пакоі — арыгінальныя вырабы з керамікі, вазы, пано. Шмат кніг. Тут можна набыць творы рускіх і замежных класікаў. Але цэнтральнае месца адведзена кнігам беларускіх пісьменнікаў. Ёсць Якуб Колас і Янка Купала, Іван Шамякін і Мікола Мятліцкі, Ларыса Геніюш і Іван Пташнікаў, Алесь Жук і Алесь Пісьмянкоў... А яшчэ ў салоне шмат жывых кветак. Уладальнік крамы, прадпрымальнік Віктар Лабунька з вёскі Чарневічы жартуе, што менавіта з-за кветак уклаў у гэтую справу грошы. Аднойчы ішоў у госці, патрэбны былі кветкі, а нідзе ў Глыбокім іх не знайшоў. Цяпер вось будзе сабе й людзям. А сама ідэя адкрыцця салона належыць камерцыйнаму дырэктару крамы Таццяне Сауліч. Гэта пад яе кіраўніцтвам адбывалася рэканструкцыя занядбанага памяшкання, вылучаны асноўныя накірункі гандлю, устаноўлены стасункі з выдавецтвамі, мастакамі і народнымі майстрамі.

**Уладзімір СМЫК**

## Запрашае Сафійскі сабор

У Сафійскім саборы ў Полацку адбыўся канцэрт сімфанічнага аркестра Белтэлерадыёкампаніі (галоўны дырыжор Анатоль Лапуноў, саліст — Мануэль дэ Хуан Аяла, скрыпка (Іспанія). Выступілі таксама ансамбль трубачоў з Мінска, арганіст, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі Канстанцін Шароў (у праграме творы кампазітараў XVIII—XX стагоддзяў), Ліна Мкртчан (меца-сапрана) і Яўген Талісман (фартэпіяна) з Расіі. Прайшоў і канцэрт фартэпіяннай музыкі "Настаўнік і вучні". І ўсё гэта на працягу аднаго месяца. Акрамя таго, адбылося адкрыццё XV Міжнароднага фестывалю старажытнай і сучаснай камернай музыкі. Фестываль доўжыўся да шостага траўня.

## Полацкія выставы

У старажытнай сталіцы Беларусі працягваюцца старыя выставы і з'яўляюцца новыя. Прайшла персанальная выстава полацкага мастака А. Канавалава "Грані рэальнага". Там жа (у музеі беларускага кнігадрукавання) можна пабачыць і выставу "Лепшыя кнігі Беларусі 2000 года". А ў Гарадскім цэнтры нацыянальных культур і рамёстваў — выставу дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Таццяна ХМАРКА**

*БРЭСТЧЫНА...*

## З музея — у гарады

Да 60-годдзя абароны Брэсцкай крэпасці і 30-годдзя пачатку будаўніцтва на яе тэрыторыі мемарыяльнага комплексу арганізавана вялікая перасоўная выстава, якая пабывае ў кожным раённым цэнтры вобласці. У яе экспазіцыі — рэчы, дакументы, творы выяўленчага мастацтва, у тым ліку, створаныя нядаўна. Яны і выклікаюць найбольшую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва ў школьнікаў.

## Дэкор, жывапіс, графіка

Багатая персанальная выстава прац сябра СМ Леаніда Рацько адкрылася ў Брэсце. Яна прымеркавана да 50-годдзя з дня нараджэння аўтара — майстра дэкаратыўных пано і вырабаў з металу, жывапісца, графіка, пераможцы рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў.

## "Вясновыя рытмы"

У Пінску прайшоў першы гарадскі фестываль дзіцячых эстрадна-канцэртных праграм "Вясновыя рытмы-2001". Аснову журы склалі выхаванцы школ мастацтваў горада. А ўзначаліў яго педагог і спявак, лаўрэат міжнародных конкурсаў Аляксандр Чаркас. Юным артыстам былі аддадзены лепшыя эстрадныя пляцоўкі, дзе канцэрты ладзіліся на працягу чатырох дзён. Фестываль вырашана зрабіць традыцыйным і праводзіць праз кожныя два гады.

**Сымон АКСЕНІН**

*МІНШЧЫНА...*

## Тыдзень экалогіі

У дзіцячай бібліятэцы № 3 імя Аркадзя Гайдара, што ў сталічным мікраёне Шабаны, прайшоў тыдзень экалогіі. Да юных чытачоў, сярод якіх нямала чарнобыльскіх перасяленцаў, завітаў пісьменнік і публіцыст Васіль Якавенка — кіраўнік Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль". На сустрэчы прысутнічалі бібліятэкары, настаўнікі, школьнікі. Пасля свайго выступлення Васіль Цімафеевіч з задавальненнем адказаў на процьму дзіцячых пытанняў наконт чарнобыльскай катастрофы, наконт беларускай літаратуры і нашага супярэчлівага жыцця.

Пісьменнік падараваў юным чытачам свае кніжкі "Чорная рука", "Смяльчак Лузь". Сустрэча атрымалася нефармальнай і вельмі цёплай.

**Наш кар.**

## Творчыя сустрэчы

**У Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэкі ёсць даўняя і добрая традыцыя арганізоўваць і праводзіць сустрэчы з вядомымі і цікавымі людзьмі, святкаваць юбілеі дзеячаў беларускай культуры, рабіць прэзентацыі кніг. Часцей за ўсё гэта адбываецца ў Маладзечне, але нярэдка супрацоўнікі цэнтральнай бібліятэкі праводзяць свае мерапрыемствы далёка за межамі не толькі горада, але і раёна.**

**Апошнім часам супрацоўнікамі бібліятэкі пры ўдзеле дырэктара гімназіі г. Смаргоні Уладзіміра Прыхача і настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Залескай СШ Тамары Казлоўскай, у гэтых навучальных установах былі праведзены творчыя сустрэчы з паэтам, першым намеснікам галоўнага рэдактара штотыднёвіка "ЛіМ" Віктарам Шніпам і супрацоўнікам Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэкі, рэдактарам часопіса "Куфэрак Віленшчыны" Міхасём Казлоўскім. Вучні старэйшых класаў маглі пазнаёміцца з творчасцю В. Шніпа, даведацца ад М. Казлоўскага, як краязнаўцы, пра гістарычнае мінулае іх родных мясцін, пра знакамітых людзей, якія тут жылі і працавалі раней.**

**Н.К.**

## Незвычайнае свята

**Творчыя асобы заўсёды неардынарныя — гэта факт вядомы. І тое, што танцоры ўмеюць і любяць святкаваць неардынарна, скажа кожны, хто, так альбо іначай, далучаўся да дзівосна цудоўнага свету танца. А што ўжо і казаць, калі іх прафесійныя святы (для сапраўднага танцора конкурс — заўсёды свята) супадаюць з агульнанацыянальнымі. У такім выпадку звычайнае прадстаўленне ператвараецца ў самую сапраўдную фабрыку мрояў... Падобнай феерыі і ўдастоіліся аматары, якія вечарам 9 Мая, у самы разгар святкавання Дня Перамогі сабраліся ў Мінскім Палацы дзяцей і моладзі. Сабраліся для таго, каб па вартасці ацаніць эфектны заключны акорд сезона, што адыходзіць, — трэці тур чэмпіянату РБ па спартыўных танцах.**

**Новыя касцюмы, новыя кампазіцыі і вясенні настрой у сукупнасці з разуменнем таго, што да восені ў Беларусі танцаваць на конкурсах больш не давядзецца, стварылі ў зале незвычайную атмасферу. Пасля кожнай мелодыі гледачы проста купалі танцораў у апладысментах. І, вядома, сваю долю ўнеслі пуцёўкі на чэмпіянат свету, за якія, уласна кажучы, і разгарнулася самая ўпартая барацьба ва ўзроставых групах "Юніёры-2" (14-15 гадоў) і "Дарослыя" (за 18 гадоў).**

**У групе "Юніёры-2", якая танцавала еўрапейскую праграму, для паездкі на сусветнае першынства адбіраліся дзве лепшыя пары. Імі сталі нашы госці з Брэста — Аляксандр Шайдораў і Ганна Козіч (клуб "Вікторыя"), якія занялі 1-е месца, і сярэбраныя прызёры чэмпіянату — Дзмітрый Вайтуль і Аляксандра Выдрук (клуб "Фантазія", горад Мінск). "Дарослыя" ў гэты дзень танцавалі самую сур'ёзную праграму, што складалася з дзесяці танцаў і вымагала ад танцораў не толькі бездакорнай тэхнікі выканання, але і самага сапраўднага дару пераўвасаблення. І ў гэтай групе судзейская калегія практычна аднагалосна прызнала лепшымі Антона Кукарэку і Алену Феакціставу (клуб "Сігма", горад Мінск). Ім і дасталіся кубкі чэмпіёнаў і адзіная ў гэтай групе пуцёўка на чэмпіянат свету.**

**Пасля ўзнагароджання прызёраў адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння пасведчанняў і значкоў майстроў спорту адзінаму ў Беларусі ансамблю-"формейшн" "Мара". Гэтыя ганаровыя званні танцорам па хадайніцтве Беларускай Федэрацыі спартыўнага танца прысвоіў Дзяржкамспорту за выдатнае выступленне на чэмпіянаце свету, што прайшоў у снежні 2000 г. у нямецкім горадзе Брауншвайне.**

**Аляксандр ДУДЗІК**

САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ

Ніл ГІЛЕВІЧ

# У літаратуры трэба працаваць сур'ёзна, шчыра, самаахвярна. Або не працаваць зусім...

З ВЫСТУПЛЕННЯ НА НАРАДЗЕ МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ 11 ТРАЎНЯ 2001 ГОДА

Віншую вас, маладыя людзі, з гэтым святочным днём, з гэтай важнай падзеяй у вашым жыцці. Так, дзень гэты незвычайны і настрой у вас павінен быць святочны. Мяркую па сабе, успамінаючы нараду маладых, на якую я, у свае няпоўныя шаснаццаць, быў запрошаны. Было гэта амаль 54 гады таму, летам 1947-га. Гэта была першая пасля вайны Рэспубліканская нарада маладых пісьменнікаў Беларусі. Дагэтуль помню, як моцна я хваляваўся, збіраючыся ў дарогу, і затым ужо ў Мінску, калі нясмела заявіўся ў Дом урада, у Саюз пісьменнікаў, дзе нарада праводзілася. Найбольшае ж хваляванне зведаў на адкрыцці нарады, калі ў прэзідыуме ўбачыў самога Якуба Коласа і многіх іншых вядомых паэтаў і пісьменнікаў, якіх пазнаў па партрэтах у падручніках, у часопісах і газетах.

Мне, праўда, трохі не пашанцавала: маё свята здорава падсапсаваў адзін вядомы ў той час крытык-разбойнік, якога звалі Лукаш Бэнда. У 30-ыя гады гэта быў самы страшны далакоп беларускай літаратуры, які ўчыняў разносныя пагромы Купалу і Коласу за іх нібыта нацыяналістычна-контррэвалюцыйную творчасць. Пасля вайны ён жыў у Ленінградзе, аднак жа падчас нарады апынуўся ў Мінску і на абмеркаванні маіх вершаў узяў слова. Як зараз чую яго скрыпучы голас: "Што вы тут хваліце вершы гэтага хлапчука! У іх нічога няма, што падавала б надзеі, і трэба яму сказаць адкрыта, каб шукаў іншую дарогу ў жыцці". Помню, што мне было ў тую хвіліну аж горача ад сораму-ганьбы, ад пачуцця віны і ад крыўды, што самая светлая мара мая пахавана. Хай бы лепш я не ехаў на гэтую нараду!.. Але ў абарону выступілі Янка Маўр, Алесь Якімовіч, Павел Кавалёў, і мне стала трохі лягчэй. І ўрэшце — вяртаўся праз пяць дзён дадому амаль шчаслівы. Ну, а Бэнду ўзненавідзеў на ўсё жыццё. За тое, што ён зрабіў спробу знішчыць мяне на самым пачатку дарогі — яшчэ зусім зялёнага вершатворца. І што сапсаваў мне тое вялікае свята.

Сам я ў сталыя гады ніколі не дазваляў сабе крытыкаваць "пачаткоўцаў" жорстка, стараўся, па магчымасці, падтрымаць і дапамагчы — хоць добрым словам, калі не практычный справай. Знакаміты нямецкі пісьменнік XX ст. Ліон Фейхтвангер у наскрозь іранічнай аўтабіяграфіі "Аўтар пра самога сябе" пісаў, што ён за жыццё зрабіў нямала добрых спраў, а іменна: вырataваў адну дзяўчынку, не даўшы ёй утапіцца, аднаго юнака, не даўшы яму стаць акцёрам, і 6 здольных маладых людзей, не даўшы ім стаць пісьменнікамі. Але ў 106 падобных выпадках, як ні стараўся, нічога не мог зрабіць — не "ўратаваў". Бліскучы жарт, вядома, якім Фейхтвангер хацеў падкрэсліць, што цяжкі, небяспечны і няшчасны лёс пісьменніка раўназначны смерці. І, аднак жа, мала каго са "здольных маладых людзей" можна ад гэтага перасцерагчы, таленавітыя такога лёсу не баяцца і ідуць яму насустрач: мэта даражэй. У адрозненне ад нямецкага класіка, я здольных пачаткоўцаў не ратаваў ад лёсу пісьменніка. Наадварот — спрыяў ім у гэтым. Яшчэ і таму, што наша краіна мае пільную патрэбу ў вялікай колькасці працаўнікоў на ніве нацыянальнай літаратуры. Так, нам трэба вельмі шмат і паэтаў, і празаікаў, і драматургаў, і публіцыстаў, і крытыкаў. Гэтага вымагае сама гістарычная сітуацыя, у якой знаходзіцца Беларусь, вымагаюць задачы дзяржаўнага і культурнага адраджэння Беларусі. На гэтым я і хацеў бы засяродзіць вашу ўвагу.

Помніце: вы прыходзіце ў літаратуру ў вельмі складаны, я сказаў бы, разломны час. Разбурылася і бурыцца далей многае з таго, што здавалася непарушным. Вырашаецца лёс краіны, лёс нацыі. І вось тут слова пісьменніка можа значыць вельмі шмат — калі пісьменнік мае не толькі талент, але і мужнасць грамадзяніна, патрыёта сваёй Радзімы.

Помніце: якіх бы розных грамадска-палітычных поглядаў і перакананняў мы ні былі — Беларусь ва ўсіх у нас адна, другой Беларусі няма, ёсць толькі гэта, у якой мы жывём. І мова беларуская ў нас адна — другой беларускай мовы няма і не будзе; дык жа трэба шанаваць і любіць яе, трэба даражыць гэтым унікальным скарбам народа. І беларуская культура, нацыянальная духоўная спадчына ў нас таксама адна, мы не можам яе дзяліць на "сваё" і "чужое", на "наша" і "не наша", мы абавязаны берагчы яе і ўзбагачаць плёнам сваёй працы.

Помніце: у літаратуры трэба працаваць сур'ёзна, шчыра і самаахвярна. Або — не працаваць зусім. Дбайце пра свой творчы рост, пра пашырэнне свайго светапогляднага і эстэтычнага кругагляду. Вам пашанцавала: да вашых паслуг уся сусветная літаратурная класіка, у тым ліку — кнігі знакамітых філосафаў свету, — тое, чым былі абдзелены некалькі пакаленняў беларускіх пісьменнікаў. Хай вас не напаткае той сорам, які перажыў у 1966 годзе я на курсах славенскай мовы і літаратуры ў Любляне: сабраліся ў пакоі аспіратны і студэнты заходнееўрапейскіх краін, спрачаюцца аб творчасці "зуброў" сучаснай еўрапейскай эстэтыкі, а я, выкладчык універсістэта, нават прозвішчаў іх не чуў, не ведаю. А дзе, адкуль я мог іх пачуць? Такой магчымасці не было. Іх імёны і іх творы знаходзіліся ў нас пад забаронай. Даводзіцца наганяць упушчанае цяпер, на старасці гадоў. А ў вас усе ўмовы для росту ёсць. Скарыстайце ж іх!

Жывіце ў літаратуры сумленна і мудра, у дружбе з калегамі і пабрацімамі, не дазваляйце сабе ставіцца зняважліва да творчых набыткаў як папярэднікаў, так і сучаснікаў. Гэта вельмі непрыгожа і вельмі нядобра, калі самі літаратары бэсцяць творчасць або асобу выдатнага майстра слова, аўтара цудоўных кніг, якія сталі часткай нашага нацыянальнага гонару і славы. Часцей прыслухоўвайцеся да голасу сваёй душы і сэрца, а душу і сэрца настройвайце на музыку нашага бурлівага, неспакойнага часу і старайцеся пачуць у ёй тое, што падыме ваш творчы дух, узвысіць думку, акрыліць мару. Працуйце — помнячы пра Беларусь і пра свой сыноўскі абавязак перад ёю.

І яшчэ адна парада: часцей звяртайцеся да Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага і іншых вялікіх, шукайце адказу на балючыя пытанні ў іх, звярайце свае думкі і меркаванні з іхнімі — і яны вам дапамогуць.

# А ядловец уваскрэс... Ядловец зелянее...

...Ліст з Мінску выправіўся ў дарогу пасля полудня (мяркуючы па паштовым штэмпелі) — 27 жніўня 1995 года. І кіраваўся ў прыхільны Музам Дом, атулены гаманкім птушыным лесам. На беразе наравістай прыгажуні Іслачы. Паэт сам выхадзіў там уласнымі нагамі ўсе лясныя сцежкі і прырэчныя — між стромых берагоў — лугавіны, расшытыя духмяным шытвом непаўторных беларускіх красак і траў.

...Ліст быў адказам на адказ-заданне чалавеку, які ехаў і меўся быць далучаным да тае боскае благадаці... А заданне было такое: "Як толькі заедзеш і добра там агледзішся, пра ўсё напішы: пра лес, які ён у гэтую пару, пра птушыны шчэбет, пра надрэчны аер і мяту..."

Заданне было споўнена, і ў той лясны Дом прыйшоў — не затрымаўся водгук-падзяка.

"Любая Леначка,

дзякуй, што ўспомніла, паведаміўшы ўцешныя весткі: пра тыя мясціны, дрэвы, расліны, птушыныя галасы на стромых і западзістых берагах Іслачы. Парадаваўшы, што ажыў, уваскрэс і зазелянеў, некалі здавалася, безнадзейна засохлы ядловец, мой любімы беларускі кіпарыс. У мяне ёсць верш пра яго, запаветнага, у той кніжачцы, якую адкрывае твая прадмова.

Дзякуй, дарагая.

Ты не паведаміла, да якое пары там будзеш, і я, асцерагаючыся, каб не здарылася так, як было летась з маім пісьмом, якое так і не дайшло да цябе, не буду пісаць доўга. Пра настрой і аб той струне, якая гучыць у маёй душы, выпішу табе з дзённікавых занатовак некалькі мініяцюрак.

Васіль ВІТКА

## Дзяцінства

*Здаўна не церпячы слова "дзяцінства",*
*Каюся, кінуўшы родны дзядзінец,*
*Дзяцінець пачаў у казённым Мінску,*
*Дзе назаўсёды мушу здзяцінець.*

●

*Шкада, што часу зямнога замнога*
*Патрачанага, убачанага ўвачавідкі,*
*Ды не пазначанага ні духам, ні плоццю*
*Ні ў клопаце дзённым, ні ў памяці анікога*
*Ні прыдарожнай віткай,*
*Ні повіткаю ў заплоцці!*

●

*Мову як адняло.*
*Слова адольвае боязь.*
*На адно прыпадаю крыло,*
*Сугуччаў трацячы повязь.*

*Цьмее і слых і зрок,*
*Як васілёк пагаслы.*
*Позняе пожні радок —*
*Снапок без перавясла.*

●

*— А ты яшчэ жывеш?*
*— Жыву.*
*— І хлеб жуеш?*
*— Жую...*
*— І як табе не брыдка —*
*Жывеш, не заўважаеш,*
*Што сам на хлеба скібку*
*Ужо не зарабляеш.*

●

*На дзевятым дзесятку*
*Трэці год мой мінае,*
*А чацьвёрты, мой братку,*
*Ці дацягнеш да маю?*

*За табою і пяты гадок*
*Як зарок, няхай клятва,*
*Каб убачыць яшчэ хоць радок*
*Развітальнае кнігі дзятла.*

## Пяць клубніц

*Быў пэўны, сяголета анідзе*
*Летняга сонца няма ў людзей,*
*А неўзабаве мусіў прызнацца,*
*Самога сябе павініць —*
*Наташа за тысячу "зайцаў",*
*Купіла ажно пяць клубніц!*

## Душа і цела

*Душа малілася,*
*Грашыла цела.*
*Цела спахапілася —*
*Душа адляцела.*

## Гарэтнік

*Гарую, не гару, а тлею,*
*Перагарэў, далей не ўмею.*
*Даруй гарэтніку, мой Божа, —*
*Перагарэлае гарэць не можа.*

## На дзяды

*Вінюся перад вамі, дзеці,*
*Што лішняе жыву на свеце,*
*Не па наўмыснаму намеру*
*Сваю перабіраю меру.*
*Сам у трывозе і ў скрусе —*
*Даруйце, каюся, вінюся.*

## Памяці Б. П.

"Быть знаменитым некрасиво"

*Зямнога займеў нямнога,*
*Не дамагаўся славы абранца*
*І адышоў без некралога*
*З імем жывога*
*У чорнай рамцы.*

## Паклон вясне

*Госпадзі Ісусе,*
*Я і сам дзіўлюся*
*Наяве, а не ў сне:*
*У кішэні напашэве*
*Нітрагліцэрын пры мне —*
*Выйду пакланюся*
*Яшчэ адной вясне.*

## Яшчэ пра бяссонніцу

*Дарэмна да апошніх дзён змагацца*
*З адзінай ёй, хто дапаможа разабрацца,*
*Як век пражыў,*
*Як многа награшыў.*
*Не ў тым уцеха, што камусьці спіцца,*
*Не бачыцца нічога і не сніцца.*
*Адна бяссонніца якраз уночы*
*Нам зразумець дае, чаго ніхто не хоча,*

*Апроч, як з ёй дадумаць да канца*
*толькі з ёй адзінаю бяссонніцай,*
*Сяброўкай, палюбоўніцай і супрацоўніцай,*
*Апошняй жонкай без вянца.*
*І г. д."*

...Так у бяссонні і спальванні ўласнае душы — ад апошняга дня жыцця! — прысутнічае на зямлі Паэт. А калі і назаўсёды адыходзіць.

Усё роўна — ядловец уваскрасае. Ядловец зелянее. Ці сніцца ён Паэту на дарованых яму сажнях пясчанай пустэльні на Паўночных могілках?..

**Публікацыя Алены ВАСІЛЕВІЧ**

# Пошукі ісціны

Лідзія АРАБЕЙ



АБРАЗКІ

### Творчасць

Яго раманы былі няпраўдзівыя, героі выдуманыя, але ён быў глыбока перакананы, што так і трэба пісаць, што літаратура патрабуе не праўды жыцця, а прыкладу, узору. Ён плёў гэты шэры ўзор і той рабіўся яшчэ больш шэры ад пылу, што пакрываў яго ў бібліятэках і кнігарнях, дзе па шмат гадоў, некранутыя, стаялі яго тамы.

### З дапатопных часоў

Хабарніцтва жыве сярод людзей з дапатопных часоў. Калі нашы далёкія продкі прыносілі ахвяры багам, то хіба гэта не быў хабар? "Я табе ахвярую ягня, а ты зрабі так, каб я займеў вялікі статак..." І дажыло такое ахвяраванне да нашых дзён, толькі ахвяруюць таго ягня ўжо не багам, а чыноўнікам, якія ў сваіх крэслах адчуваюць сябе няйнакш багамі. І дажыве гэты рытуал, напэўна, да скону дзён чалавечых.

зняла і скруціла вяровачкаю. Дрэва вырасла высокае, з пышнаю кронаю, але ў тым месцы, дзе я скруціла галінкі вяровачкаю, так і вырасла скручанае. Я падумала: так, мусіць, і з чалавекам: як закруціш яго з маленства, такі ён і вырасце.

### Праўда

Першая кніга "Палескай хронікі" Івана Мележа "Людзі на балоце" была як глыток свежага паветра ў затхлай літаратурнай атмасферы таго часу. Праўдзівыя вобразы, праўдзівыя сітуацыі, мова герояў, якая рабіла іх яшчэ больш жывымі, цікавымі. А ў наступных кнігах "Палескай хронікі" цікавасць чытача да герояў і сітуацый пайшла на спад. Думаю, таму, што Мележ, як сумленны пісьменнік, і далей шукаў у жыцці праўду, але шукаў яе там, дзе яна не ляжала, дзе яе не было. Ён шукаў праўду ў калгасным ладзе, у бальшавіцкіх метадах кіравання. Далейшы лёс Ганны быў ужо прыдуманы. Аўтар не мог сабе дазволіць пайсці іншым шляхам. Можа, глыбокімі былі яго перакананні ў праўдзе бальшавіцкага кіравання, а можа, не хапіла адвагі падумаць іначай? Не змог вылузацца з рамак, у якія заціснула літаратуру тая ж бальшавіцкая партыйнасць?

***Паміраць нам***
***Ранавата...***

Доктарка ўвайшла ў палату. Хворыя жанчыны, лежачы на ложках, спявалі, а кіравала тымі спевамі новенькая, не маладая, з не вельмі простым дыягназам, як аказалася пасля — кіраўніца народнага хору.

Не была б то прафесіяналка...

### Язда

Некалі пісьменнік Валянцін Зуб купіў аўтамабіль, вучыўся ездзіць і трымаўся ў машыне з вялікім напружаннем. Аднойчы сеў у тралейбус і зрабіў для сябе вялікае адкрыццё:

—Як жа добра ездзіць у тралейбусе!

### Трымайцеся!

Ведаю жанчын, якім пад восемдзесят гадоў, а яны маюць паклоннікаў, тыя дораць ім кветкі, гавораць кампліменты. Так што, жанчынкі, не трацьце надзеі, трымайцеся!

Але мінаюць год, другі, а яна не памірае, а насіць няма чаго. Выцягнула тую сукенку з чамаданчыка, уздзела на сябе. А нішто, пасуе.

Так і пайшла насіць тую смяротную сукенку.

### Жанравая сцэнка

Пад дахам Камароўскага базару, на лесвіцы, сядзяць дзве дзяўчынкі гадоў па дзевяць, з усходніх краёў, і з вялікім азартам пералічваюць пакамечаныя купюры — нажабраваную выручку.

Насупраць іх стаіць дзяўчынка гадоў трынаццаці, іх жа супляменніца, і з вялікай зайздрасцю паглядае і на дзяўчынак, і на тую выручку.

### Зайздрасць

Некалі Алесь Пальчэўскі гаварыў, што баіцца апрануць новы гарнітур, баіцца сказаць людзям пра свой ганарар — каб не выклікаць зайздрасці. Чалавек з вялікім і горкім жыццёвым вопытам, ён ведаў злосную, агідную сілу зайздрасці і хацеў сябе ад яе абараніць.

### Парыж пада мною

У Парыжы бываюць такія ж казусы, як і ў Мінску. Мы чакалі, пакуль спусціцца ліфт, каб падняць нас на Эйфелеву вежу, але ліфт зламаўся, і мы па жалезнай вітой лесвіцы падымаліся вышэй, вышэй, да рэстарана. І быў абед, дзе вышкаленыя афіцыянты галантна падносілі нам салаты і адбіўныя, віно, каву, сыры, якімі ў Парыжы заканчваецца амаль кожны урачысты абед.

А потым з вышыні той вежы мы глядзелі на Парыж, які, у ружовым тумане, ляжаў пад намі. Слаба вырысоўваліся спічастыя вежы Нотр-Дама, круглыя вежы царквы Сакра Кер на ўзгорку Манмартра, недзе там, у ружовым тумане, хаваліся Трыумфальная Арка і плошча Канкорд з Егіпецкім абеліскам, Дом інвалідаў з труною Напалеона Банапарта, Луўр з крылатаю багіняю перамогі. Тады ўсё гэта здавалася звычайным. А сёння ўспамінаю тыя хвіліны як свята, што падарыў мне лёс.

### Сірата

Яна змалку засталася сіратою, жыла ў дзіцячым доме, так што бацькі аніяк не маглі дапамагчы ёй уладкавацца ў жыцці. Але, не пакінуўшы дачцэ багацця, яны пакінулі ёй таленавітыя гены, упорны характар, адвагу і гэта вывела яе ў людзі, узняло высока. Так што спадчына бывае розная.

### Несправядлівасць

Калі славуты чалавек скажа нават глупства, гэта глупства будуць паўтараць як нешта разумнае, шукаць у ім глыбокага сэнсу.

Калі не славуты чалавек скажа нешта нават вельмі разумнае, на гэта не звернуць увагі.

### Як яно будзе?

Канчаецца адпушчаны мне тэрмін быцця на гэтым свеце. Хутка перабірацца на той. Цікава, як там будзе?

### Каб ведала

Каб ведала Алаіза Пашкевіч, наша славутая Цётка, што цара Мікалая, якога ў пачатку дваццатага стагоддзя народ называў крывавым, якому яна, Цётка, патрабавала ў сваіх вершах вісельні:

***Народ чуе голас з неба,***
***Што цара павесіць трэба!***

Каб ведала Цётка, што ў канцы дваццатага стагоддзя таго ж Мікалая царква кананізуе як святога!

Несапведныя шляхі твае, Госпадзе!

### Мыльныя оперы

Колькі б ні смяяліся мы з так званых мыльных опер, трэба аддаць належнае іх аўтарам — як умеюць яны будаваць сюжэт, плесці доўгую інтрыгу. Акрамя таго, яны, хоць і прымітыўна, ухваляюць дабро і караюць зло. Лепш глядзець мыльныя оперы, чым тыя баевікі ды трылеры, дзе бясконца жорстка і крывава забіваюць.

### Бог ёсць

Старая кабета з глыбокім перакананнем гаварыла журналісту:

—Я веру ў Бога, веру, што Бог ёсць, іначай — адкуль бы мы ўзяліся?

—Гэта падобна на довад, якім другая бабка даказвала, што зямля не можа круціцца: —Каб зямля круцілася, то вада з калодзежаў павылівалася б.

Вось і паспрачайся з імі.

### Не думаюць

Калі памёр Іван Паўлавіч Мележ, я сказала:

—Чаму ж гэта добрыя людзі паміраюць, а нягоднікі жывуць?

—І нягоднікі паміраюць, — сказала Вера Палтаран.

—Але ж нягоднікі жывуць і не думаюць, што і яны некалі памруць, — адказала я.

### Алыча

Маладое дрэўца алычы расло дзвюма галінкамі ў розныя бакі. Я тыя галінкі

### Разумны і дурны

Жылі ў вялікай беднасці, апранаць не было чаго, і маці, уздзяваючы на мяне нешта абы-як пераліцаванае, прыгаворвала:

—Разумны не зверне ўвагі, а дурны падумае, што так і трэба.

З тою мудрасцю жыву і сёння.

### Герой

З аўтамата Калашнікава забіты мільёны людзей. Забіта і шмат расіян. І вусцішна робіцца, калі аўтару аўтамата чапляюць на грудзі зорку Героя Расіі.

### Энцыклапедыст

Адзін наш пісьменнік, калі ўводзіў у тэкст свайго рамана якую-небудзь птушачку ці звера, разгортваў энцыклапедыю і адтуль спісваў усе яе прыкметы. Напрыклад, сініца. У рамане яна апісвалася: "Атраду вераб'іных, шэсцьдзесят пяць відаў, жыве пераважна ў лесе, гнёзды робіць у большасці ў дуплах..." І г. д.

### Спрэчка

Сусед жаліўся:

—Я спартсмен, хачу глядзець Алімпіяду, а жонка хоча глядзець"Санту-Барбару"...

Па тым, што жонка засталася пры тэлевізары, а муж пайшоў з дому, можна было здагадацца, што "Санта-Барбара" перамагла.

### Расстрэл

Нявыдуманая гісторыя... Злачынца прысудзілі да пакарання смерцю. Ён ведаў, што хутка гэты прысуд прывядуць у выкананне, і прыняў атруту, якая была пры ім на ўсякі выпадак. Але яго завезлі ў бальніцу, адкачалі, вярнулі да жыцця, а потым расстралялі.

### Беларусы

***— А хто там ідзе, а хто там ідзе***
***у агромністай такой грамадзе?***
***— Беларусы,***

— пісаў некалі Янка Купала.

Дзе тая агромністая грамада?
Дзе тыя беларусы?
Разбрыліся па дарозе?
І не хочуць больш людзьмі звацца?

### Хор

Доктарка ішла па бальнічным калідоры, і раптам з адной палаты пачуліся спевы:

***Зорка Венера***
***Узышла над зямлёю...***

Доктарка спынілася каля дзвярэй. Пяялі хораша, зладжана. Скончылі "Зорку Венеру" і грымнулі:

### На бальнічных харчах

Лежачы ў бальніцы, падчас сняданкаў, абедаў ды вячэры яна спецыяльна пакідала кавалачак катлеты, лыжку кашы, складала ўсё ў поліэтыленавы мяшэчак. Вечарам прыходзіла дачка і забірала тыя недаедкі — кату.

Тоўсты і лянівы, ён, крывячы носам, з'ядаў той харч і забіраўся на канапу — спаць. Так і пражыў кот тры тыдні на бальнічных харчах.

### Вера

У час вайны ў яе загінула двое сыноў. Але яна да смерці верыла, што яны не загінулі.

—Хлопчыкі жывыя Яны недзе там, на захадзе... Пабаяліся вярнуцца дадому, — тоячыся, гаварыла яна.

Хаця ясна было — сыны ні ў чым не вінаватыя перад радзімаю і каб былі жывыя — адазваліся б.

Але маці верыла.

### Крыўда

Чытаеш свой твор, надрукаваны ў часопісе, і яскрава бачыш, дзе ўлезла чужая рука і не паправіла, а напаскудзіла. Напрыклад. Замест "кінуцца да яго на грудзі" зроблена: "кінуцца да яго на грудзіну". замест "яе скаланула" правяць на "яе перасмыкнула" і г. д., і без усялякай згоды аўтара, у яго нават нічога не спытаўшы. Знаходзіш тыя перлы толькі ў надрукаваным тэксце, і потым дакажы чытачу, што гэта не ты напісала, а табе ўпісалі.

### Каб жа хто...

У пераходзе на плошчы Перамогі стаіць сівая бабулька з кіёчкам, нешта падспяўвае — жабруе. Паўз яе ідуць і ідуць людзі і каб жа хто азірнуўся на бабульку, каб жа хто падаў хоць рубель.

### Кроў зямлі

Плывуць, як шырокія рэкі, патокі машын ва ўсіх гарадах свету. Гэта ж колькі трэба высмактаць з зямлі нафты, каб напаіць бензінам усіх гэтых пачвар. А кажуць жа, што нафта — кроў зямлі. Некалі зямля адпомсціць чалавецтву за такі здзек з яе. А мо і ўжо помсціць— землятрусамі, абваламі, вулканамі...

### Ён і я

Калі пра чалавека адны гавораць кепска, а другія добра, то людзі чамусьці створаны так, што хутчэй паверыць кепскаму. Напэўна, паверыць кепскаму ў чалавеку, значыць, нейкім чынам абяліць сябе, даравацъ сабе свае грахі. І чамусьці зусім не хочуць верыць добраму ў чалавеку. Маўляў, прыкідваецца добранькім.

### Сукенка

Купіла сукенку — на смерць, каб на тым свеце выглядаць прыстойна. Схавала сукенку ў чамаданчык, разам з іншым скарбам, падрыхтаваным для падарожжа ў іншы свет.

### Перачытаць

Бывае, цікава перачытаць кнігу альбо другі, трэці раз паглядзець выдатны кінафільм— звяртаеш увагу на дэталі, на дыялогі, якія раней прапусціў.

І як хацелася б мне "перачытаць" Рым з яго саборамі, плошчамі, фантанамі, Афіны з Акропалем, Токіо з яго еўрапейскім і разам самабытным, традыцыйным аблічам, Нью-Йорк з хмарачосамі, Каір з пірамідамі і сфінксамі, ну і, вядома, Парыж, які я гатова "перачытваць" бясконца.

### Ратуйце!

Уключаеш тэлевізар, і тут жа на цябе з экрана цэліцца пісталет ці аўтамат. Націскаеш на кнопку, каб пераключыць на іншую праграму, але і адтуль у цябе цэляцца, і ўзрываюцца бомбы, і адчайна б'юцца азвярэлыя мужчыны, і ліецца кроў. І хочацца крыкнуць: ратуйце, людзі!

### Формула

Некалі сярод інтэлігенцыі, афіцэрства існавалі чэсць і гонар, за абразу выклікалі на дуэль, чалавеку, які ўчыніў подласць, не падавалі рукі, выкідалі са свайго асяродка.

Цяпер грамадства так пагрузла ў подласці, што яна ўспрымаецца як норма жыцця, і хоць людзі ведаюць, што гэты чалавек — нягоднік, падаюць яму руку і трымаюць побач з сабою. Мусібыць, такая ліберальнасць трымаецца на формуле — я табе дарую, а ты — мне

### Навечна

Неаднойчы была на пахаваннях, але апошнім разам асабліва востра адчула, што чалавека, хоць і ў труне, проста закідваюць зямлёю, навечна адлучаючы ад неба, сонца, навечна адлучаючы ад жывых людзей. А ён ляжыць там, у зямлі, прыбраны, як на свята, склаўшы на грудзях рукі

### Дзяўчаты

Доўгая сукеначка з гарсэцікам, танюткі стан, капялюшык, пальчаткі, парасончык... Ад кавалера патрабуе да сябе глыбокай павагі, не вельмі скора атрымае той дазвол на пацалунак і ў зацішным куточку, каб ніхто, бронь бог, не бачыў. Гэта — дзяўчына дзевятнаццатага стагоддзя.

Адзенне — відаць голы пупок, штонікі ў абцяжачку, раскудлачаныя, дыбам, валасы. Цалуецца са сваім кавалерам у тралейбусе, на вуліцы, у метро — сёння з адным, заўтра з другім. Гэта— дзяўчына канца дваццатага стагоддзя.

*(Працяг на стар. 15)*

## “Бяздоннае багацце”



**Апавяданні, легенды, казкі, аповесці Вацлава Ластоўскага, аб’яднаныя агульнай назвай “Бяздоннае багацце”, пабачылі свет у выдавецтве “Юнацтва”. Кніга (укладанне, прадмова і заўвагі Язэпа Янушкевіча, каляровыя ілюстрацыі Галіны Хінко-Янушкевіч) у першую чаргу адрасавана чытачам старэйшага школьнага ўзросту. Тым самым ёсць магчымасць пазнаёміцца з творчасцю таго, хто з’яўляўся не толькі выдатным дзяржаўным і грамадскім дзеячам, вучоным, але і пісьменнікам. Дарэчы, не лішне нагадаць, што першым вярнуў В. Ластоўскага з небыцця Барыс Сачанка, апублікаваўшы ў “ЛіМе” (22 верасня 1989 года) яго верш “На радуніцу”, некалькі навел і “Мае ўспаміны аб М. Багдановічу”. Між іншым, гэтыя публікацыі павінны былі выйсці раней, але ўсясільны тады “Галоўліт” зняў іх. Справа ў тым, што не адно дзесяцігоддзе згадванне імя В. Ластоўскага было забаронена, і толькі ў чэрвені 1988 года крымінальная справа ў адносінах да яго з-за адсутнасці складу злачынства была пасмяротна спынена. Сярод іншых твораў, змешчаных тады ў “ЛіМе”, была і казка “Сож і Дняпро”, з якой можна пазнаёміцца і ў кнізе. Пісьменнік расказвае, як “сярод глухіх пушч, цёмных бораў, на прыгорку, стаялі калісь старыя-прастарыя харомы вялікага валадара, сівавалосага старца Рыдана”. Багатым ён быў, але асабліва славілася яго карона, “скрытая за дванаццаццю дзвярамі, дванаццаццю замкамі”. Аднойчы яна была выкрадзена...**

**Адкрываецца ж кніга ўступным артыкулам Я. Янушкевіча “Волат духу”, у якім прасочваецца жыццёвы шлях В. Ластоўскага, яго праца ў розных галінах дзейнасці. Аўтар прыходзіць да высновы, што “Вацлаў Ластоўскі выйшаў з роду волатаў духу. Гэта значыць, быў народжаны для несмяротнасці, бо ўсё жыццё рупіўся пра скарбы, якія моль не паточыць, іржа не з’есць. Гартаваў дух нацыі, упарта аднаўляючы памяць пра мінуўшчыну. Імя Вацлава Ластоўскага ў летапісе нашай культуры захавалася не толькі дзякуючы яго мастацкай прозе, літаратурнай крытыцы, адметнай публіцыстыцы, нешматлікім вершам, але і шырокай чыннасці Власта як навукоўца і грамадскага дзеяча. Творы ж яго, несумненна, стануць хрэстаматыйнымі, зоймуць пачэснае месца ў будучых школьных падручніках, студэнцкіх дапаможніках”. В. Ластоўскі адным з першых у беларускай літаратуры задумваўся, як мы любім цяпер гаварыць, над лёсам гараджаніна ў першым пакаленні. Горад не прыняў Грыгора Лежню, але і вёска яго, можна сказаць, ужо адрынула. Ён чужы і там, і тут. Нездарма ў народзе гавораць: “Надломлены пірог не склеіш”. Для Лежні спроба вярнуцца ў вёску, няхай толькі ў думках, заканчваецца трагічна. Грыгор, пачуўшы ў горадзе народную песню, на момант страчвае кантроль над сваімі ўчынкамі. Ён забывае, дзе знаходзіцца. На крылах мрояў пераносіцца ў вёску, да крынічанькі, пра якую спяваў голас з расчыненага акна — Лежня побач падмятаў вуліцу, а потым:**

**“Цяпер здалося Грыгору, што гэта не на полі стаіць ён, а на парозе хаты сваёй, і маці не пяе, а плача, убіваючыся па ім, а з хмарнага неба падаюць ільдзістыя каплі на твар яму і Ганулі, што, як тая калінка, стаіць пад варотамі і плача. Маці на парозе крычыць нема: “Вярніся, вярніся!” А яму слёзы здушылі горла, і не можа адказаць ёй...**

**Гэта крычаў фурман карэты: “Эй, сцеражыся, сцеражыся!”**

**Грыгор не ўсцярогся. Прабегла праз яго парка каней, пераехала карэта. А яму здавалася, што ён падае на зямлю, каб яшчэ раз пацалаваць яе...”**

**Гэтае апавяданне меў на ўвазе М. Багдановіч, калі гаварыў: “...на апісаннях нашага шэрага жыцця адбіваецца лірычны пад’ём душы пісьменніка і ўплятае ў вянок нашай літаратуры свежы, яркі цвяток (гл. ап. “Лебядзіная песня”). У кнізе змешчаны і іншыя творы В. Ластоўскага: аповесці “Прыгоды Панаса і Тараса”, “Лабірынты”, апавяданні “Панас гуляе”, “Мост у Кутах”, “Сябра з каўбасой”, “Мікалай Галубовіч”... Багата прадстаўлены легенды, казкі, прыпавесці. Ёсць раздзелы “З навукова-педагагічнай спадчыны”, “Успаміны”.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ЮБІЛЕІ

# Любіў і верыў...

## 16 МАЯ Васілю ВІТКУ СПОЎНІЛАСЯ б 90 гадоў

**На жаль, Бог адмервае чалавеку не так і шмат на зямлі. Адно суцяшэнне, што добрыя справы не забываюцца, а памяць жыве ў наступніках. Яна тым больш моцная, калі гаворка тычыцца людзей, якія вельмі шмат зрабілі на карысць Бацькаўшчыны. А Цімох Васільевіч, як вядома, належыць да падобных рупліўцаў. Яго набыткі важкія ў розных галінах мастакоўскай дзейнасці. Але найперш Васіль Вітка зарэкамендаваў сябе яркім, цікавым дзіцячым пісьменнікам, стаўшы парадаўжальнікам тых традыцый, што былі закладзены ў беларускай літаратуры Янкам Маўрам. Многія маленькія чытачы выхоўваліся на такіх яго кнігах, як “Вавёрчына гора”, “Буслінае лета”, “Казка пра цара Зубра”, “Азбука Васі Вясёлкіна”, “Чытанка-маляванка” і іншых. Менавіта за кнігі “Чытанка-маляванка”, “Беларуская калыханка” і “Казкі” Цімох Васільевіч у 1972 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР. Праз шэсць гадоў да яго прыйшло яшчэ адно прызнанне: Васіля Вітку ўзнагародзілі міжнародным ганаровым дыпломам імя Андэрсена з занясеннем прозвішча пісьменніка ў Ганаровы спіс дацкага казачніка.**

**Да ўсяго Васіль Вітка і выдатны “дарослы” паэт. Ён выдаў кнігі “Гартаванне”, “Поўдзень”, “Вернасць”, “Паверка”, “Праводзіны лета”, “Вышыні святла” і іншыя. Надзіва плённа, застаючыся глыбока самабытным, працаваў у галіне сатыры і гумару — “Для дома, для альбома і трохі для эпохі”. Не кажучы аб творах, што змяшчаліся ў кнігах поруч з “сур’ёзнымі” творамі. Натхнёна авалодваў сакрэтамі драматургіі, паспяхова займаўся перакладам.**

**І, канечне ж, Васіль Вітка — выдатны педагог. Не па прафесіі, а па прызванні. Таму і атрымаліся ў яго такія непаўторныя творы для дзяцей, што Цімох Васільевіч, перш чым напісаць іх, цудоўна ведаў, разумеў запатрабаванні сваіх будучых чытачоў. А яшчэ ніколі не цураўся магчымасці сустракацца з імі. Аб гэтым яскрава засведчылі і тыя ўрокі, якія ён у свой час вёў у Мялешкаўскай школе на роднай яму Случчыне і трансліраваліся па тэлебачанні. Развагі В. Віткі-педагога і на старонках яго кніг “Дзеці і мы”, “Крокі”, “Азбука душы”. Дарэчы, Цімох Васільевіч быў і адным з аўтараў чытанак “Роднае слова” для першага, другога і трэцяга класаў.**

**Чалавек, улюбёны ва ўсё беларускае, пісьменнік, які тонка адчуваў хараство роднай мовы і заклікаў любіць яе, — Васіль Вітка заўсёды будзе ва ўдзячнай памяці нашчадкаў прыкладам самаадданага служэння Беларусі, а яго лепшыя творы будуць нязменна знаходзіць водгук у чытацкіх сэрцах.**

# Застаўся след у душы

***Сярод нямногіх, каго лічу сваім настаўнікам — Настаўнікам з вялікай літары, — адзін з першых ён, Васіль Вітка. Чвэрць стагоддзя Цімох Васільевіч уважліва сачыў за маёй творчасцю. І дапамагаў.***

***Шкада толькі, што пры жыцці я не паспеў (а лепей мовіць — не адважыўся) выказаць яму сваю ўдзячнасць. Раблю гэта са спазненнем, як бы наўздагон...***



### У рэдакцыі “Вясёлкі”

У студзені 1970 года першы раз я пераступіў парог рэдакцыі часопіса “Вясёлка”, якая месцілася тады ў доме № 40 па вуліцы Карла Маркса. У пакоі былі трое: Васіль Вітка, Алесь Пальчэўскі і Сяргей Грахоўскі.

Алесь Восіпавіч доўга і добразычліва аналізаваў мае “няспелыя” яшчэ апавяданні, даказваючы, чаго ў іх не стае, павучаючы, як зрабіць, каб яны былі цікавыя для хлопчыкаў і дзяўчынак, а значыць, і для “Вясёлкі”.

Цімох Васільевіч штосьці чытаў. Адклаўшы ўбок лісты, нечакана спытаў пра Сухамлінскага. Яшчэ ў інстытуце мы знаёміліся з педагагічнымі поглядамі Васіля Аляксандравіча. Многія газеты друкавалі ягоныя артыкулы пра Паўлышскую “школу радасці”.

—А ведаеце вы, што ён піша апавяданні для дзяцей? І паглядзіце, як піша!.. — хітравата ўсміхнуўся і працягнуў свежы нумар “Вясёлкі”, які яшчэ пах друкарскай фарбаю. На дзвюх старонках часопіса былі надрукаваны некалькі апавяданняў Сухамлінскага ў перакладзе з украінскай В. Віткі. Адно лепшае за другое. Я не адарваўся, пакуль не закончыў чытаць.

—Ну як? — пацікавіўся Цімох Васільевіч.

—Цудоўна! — прызнаўся я.

—Калі навучыцеся гэтак, тады можаце лічыць сябе дзіцячым пісьменнікам...

І цяпер, калі чытаю Віткавы словы пра Сухамлінскага: “Тонкае адчуванне паэзіі маленства, глыбокае пранікненне ў псіхалогію дзіцяці адразу ж выявілі ў ім талент дзіцячага пісьменніка”, мне здаецца: яны былі сказаны яшчэ тады, пры першай сустрэчы.

Роўна праз год, зноў на зімовых канікулах, я наведаў рэдакцыю “Вясёлкі”. Гэтым разам мяне сустрэў адзін Цімох Васільевіч. Ведаючы, што я прыехаў здалеку, прапанаваў сесці, сам размясціўся насупраць і папрасіў прачытаць, што прывёз.

Мае апавяданні расчаравалі яго, а казкі — зацікавілі. Асабліва першая, якая называлася “Зайцава футра”. Хоць у Цімоха Васільевіча адразу з’явілася заўвага:

—А чаму “Зайцава футра”? Футра — у лісы, у мядзведзя, а ў зайца — кажушок. Так-так, кажушок. Падумайце — “Зайцаў кажушок”, — і дзіўна прыцмокнуў языком, мусіць, ад сваёй знаходкі. — Дапрацуйце абедзве казкі і прысылайце ў “Вясёлку”.

“Зайцаў кажушок” неўзабаве з’явіўся ў часопісе, а пасля, з лёгкай Віткавай рукі, — і ў падручніку “Роднае слова”. Казка і дагэтуль вывучаецца ў школе.

Мы доўга гаварылі ў гэты дзень. Цімох Васільевіч распытваў пра маю працу ў школе. Мусіць, такая даверлівая гутарка дадала мне смеласці, і я расказаў, што ў Бастынскай сярэдняй школе Лунінецкага раёна за паўтысячы вучняў, а жывога пісьменніка ніхто з іх не бачыў...

На здзіўленне, Васіль Вітка адказаў:

—Я пагавару з Сяргеем Іванавічам і Алесем Восіпавічам. Калі яны не будуць супраць, то наведаем Бастынь, пра якую да вас не чуў ніколі. Пра наша рашэнне — напішам...

Сапраўды, недзе праз паўмесяца я атрымаў ліст ад Алеся Пальчэўскага. Ён пісаў пра намер вясёлкаўцаў прыехаць у школу, цікавіўся, як дабрацца ў Бастынь. Прыезд намецілі на май. Школа стала рыхтавацца да прыезду дарагіх гасцей.

Быў яшчэ адзін ліст ад Пальчэўскага. У самы пярэдадзень прыезду. “На вялікі жаль, — пісаў Алесь Восіпавіч, — наш Цімох Васільевіч захварэў і лёг у бальніцу. Ехаць без рэдактара нам няёмка. Давайце адкладзём сустрэчу на больш позні час...”

Сталася так, што наступны навучальны год я пачаў у Жабінкаўскім раёне. Паездка сарвалася. А шкада!..

### У Каралішчавічах

Двойчы выпала мне сустракацца з Цімохам Восіпавічам у Доме працы і адпачынку Саюза беларускіх пісьменнікаў, слухаць яго цікавы аповед пра майстэрства пісьменніка, і ў першую чаргу дзіцячага:

—Калісьці для малых куплялі адзенне навырост, бо за адзін год не зносіш. Для дзяцей і пісаць трэба гэтак жа: добра, як і для дарослых, але крыху з хітрынкай. Тады і бацькі, можа, што-небудзь возьмуць для сябе...

Мы слухалі заварожана: Віткавы вершы і казкі чытаюцца аднолькава цікава як малымі, так і дарослымі.

—Лірыкі, — казаў між тым Вітка, — праяўляюць сябе ў маладым узросце. Дзіцячыя ж пісьменнікі — як становяцца бацькамі. Гэта першая ступенька. Вышэйшая — як становяцца дзядамі, і найвышэйшая — як прадзедамі. Я пакуль не прадзед, а таму спадзяюся, што мая галоўная кніга яшчэ наперадзе. Гэта папершае. А па-другое, дзіцячы пісьменнік павінен мець багаты жыццёвы вопыт. Невыпадкова ж выхаванне маленькіх спрадвеку давяралі бабулям і дзядулям. А казка — тая народная педагогіка, якая будзе выхоўваць вечна. Хаця бываюць і выключэнні...

Цімох Васільевіч распавядаў пра П. Яршова, які ў васемнаццацігадовым узросце стварыў сваю несмяротную казку “Канёк-Гарбунок”, пра Янку Маўра, які і ў свае амаль дзевяноста гадоў па характары заставаўся дзіцем; пра сваю казку “Вавёрчына гора”, якая вызначыла далейшы, бадай, самы плённы Віткаў накірунак творчасці.

Цімох Васільевіч і пасля размовы заставаўся ў Каралішчавічах, браў удзел у абмеркаванні нашых твораў. Я бачыў яго ўсмешліва-радасны твар, калі вершы маладых падабаліся, і расстроены, калі адчуваліся фальш і падробка.

Варта было, аналізуючы апавяданні аднаго аўтара, сказаць, што задумкі ў іх ёсць, але мова падводзіць, як Цімафей Васільевіч рашуча заявіў:

—Не можа з’явіцца пісьменнік, калі чалавек не валодае мовай. А тут дзеці гавораць між сабою, як дзядзькі дарослыя, прымаюць пастановы. А чым яны будуць займацца, як вырастуць?.. — і як бы вынес свой вердыкт: — Аўтар — глухі да мовы!..

Заступіўся ён за Васіля Шырко, калі абмяркоўваліся казкі пра дзеда Манюкіна, пачутыя ў роднай вёсцы Чурылава на Уздзеншчыне. Многія гаварылі пра цікавыя сюжэты, добры гумар, сакавітую народную мову, вось толькі шмат чарцей, ведзьмаў і рознай іншай нечысці.

—А я таксама не баюся пісаць пра чарцей, — парыраваў адразу Вітка і прыгадаў пры гэтым казку А. Пушкіна, аповесці М. Гогаля.

Парадавала вершамі, пацешкамі, лічылкамі Ганна Іванова.

—Цудоўныя Ганніны вершы — ад добрага ведання творчасці Віткі, — сказала Эдзі Агняцвет, але Цімох Васільевіч з гэтым не пагадзіўся:

—Не, я думаю, творы яе ідуць ад саміх дзяцей. Дый гучаць яны так, як дзіцячыя лічылкі, вершы, і за тое, што выхоўваеце дзетак...

P. S. Прайшло амаль пяць гадоў, як не стала Віткі, але след яго ў беларускай літаратуры вялікі. Ён адным з першых, у адначассе з Янкам Маўрам, стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне дзіцячай літаратуры і першым сярод беларускіх пісьменнікаў атрымаў Ганаровы дыплом Міжнароднага журы па прэміях Андэрсена. Ёсць Літаратурная прэмія імя Васіля Віткі. Засталіся творы, і ў першую чаргу непаўторныя казкі, на якіх будзе выхоўвацца не адно пакаленне дзетак-беларусаў.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

*г. Маларыта*



*П. Панчанка, В. Вітка, С. Грахоўскі, А. Бачыла, А. Асіпенка, 1969 г.*

# Васілю ад Васіля...

ДВА ЭКСПРОМТЫ

Васіль Вітка сустракаў тады сваё 50-годдзе. І я, супрацоўнік газеты "Піянер Беларусі", ад імя юнага чытача рыфмаваў з тае нагоды віншавальныя радкі:

*Раз зайшла ў кнігарню мама,*
*Ну і я зайшоў таксама.*
*Мама просіць:*
*— Калі ласка,*
*Мне для сына дайце казку.*
*— Казкі любіць? Малайчына, —*
*— Кажа цёця з магазіна. —*
*Калі так — вазьміце Вітку...*
*Я ж,*
*Пачуўшы тое,*
*Прытка*
*Ад прылаўка шугануў:*
*Уявіў, як зараз віткай*
*Паласнуць цераз спіну.*
*Дома ўсё было іначай:*
*Калі кніжку я пабачыў —*
*Закрычаў:*
*— Ура! Ура!*
*Казка пра цара зубра!*
*І дарэмна ж я баяўся:*
*Вітка казачнікам стаўся!*
*Дзядзька добры, не сярдзіты,*
*Казкі дзядзькавы магнітам*
*Так прыцягваюць цябе,*
*Што не ўспомніш пра абед!*
*Сам я ў тым пераканаўся,*
*Бо з сябрамі зачытаўся*
*Аж да самага змяркання*
*Прачыталі ўсё дазвання*
*І сказалі сумнавата:*
*— Малавата?*
*— Малавата!..*
*Вось па кніжцы б*
*Кожны год*
*То было б наадварот:*
*Трыццаць казак, а не тры!*
*Тут усклікнуў я:*
*— Сябры!*
*Я ўжо знаю, што рабіць:*
*Тэлеграму трэ адбіць:*
*"Прачыталі ўсё адразу.*
*Дык чакаем новых казак!"*

*Атрымае дзядзька Вітка*
*І падзівіцца:*
*— Глядзі-тка,*
*Значыць, жэўжыкі чытаюць.*
*А раз гэтак —*
*Трэба баіць*
*І тады —*
*Святкуем свята:*
*Казак будзе ў нас багата!*

*22 красавіка 1961*

Адказаў Васіль Вітка — разам з падарункам: "Чытанкай-маляванкай", кнігай, цудоўна аформленай мастаком А. Луцэвічам. Кнігай, пра якую марыў Цімох Васільевіч: каб у ёй зліліся ў адно і паэзія, і мастацкае афармленне, і паліграфія, і чытацкае ўспрыманне. Задумана кніга — і чытаецца кніга:

*Ладачкі-ладкі,*
*лічылкі, загадкі,*
*байкі, самагудкі,*
*жарты, перакруткі,*
*казкі, пацешкі,*
*вясёлыя ўсмешкі...*

Гэта жанравае вызначэнне. А звыш яго — надпіс на кнізе:

*Васілю ад Васіля*
*Аддаю свой доўг і я.*
*Што раней аддаць не мог —*
*Вінаваты быў Цімох.*

*Тым прыемней удвая*
*Нам сказаць, што ён і я*
*Любім Вас адной душой*
*Хоць на двох, затое ўсёй.*

**Васіль Вітка,**
**Цімох Крысько.**

І ці трэба казаць, што мне радасней было шматкроць: пачуць гэтыя словы і ад Васіля і ад Цімоха (той, пра якога з хітрынкай сказаў Васіль: "вінаваты"... — кніжка выйшла праз дзесяць год — да 60-годдзя паэта)...

**Васіль ЗУЁНАК**

*Фота Ул. КРУКА*



В. Вітка ў гасцях у маці. Еўлічы, 1954 г.



В. Зуёнак, Я. Брыль, В. Вітка, 1983 г.

КНІГАРНЯ

# Едзе гром на калясніцы...

Часам дзіцячую кніжку хочацца прачытаць не толькі, так сказаць, па прафесійным абавязку. Убачыш на вокладцы знаёмае прозвішча і хутчэй бярэш яе ў рукі. Асабліва, калі да ўсяго з густам афармлена. А зборнік вершаў Паўла Савовіча "Гром на калясніцы", які нядаўна пабачыў свет у выдавецтве "Юнацтва", з шэрагу падобных кніг. Мастак Р. Цімохава пастаралася, каб у малюнках вобразна-насычана, непаўторна перадаць тое, пра што расказваецца ў творах. А што да П. Саковіча, ён апошнім часам выступае ў друку вельмі плённа. Не ў апошнюю чаргу на старонках "ЛіМа". Праўда, як чытач паспеў заўважыць, у асноўным з эпіграмамі, пародыямі. Аднак не цураецца і "дарослай" паэзіі. Нараджаюцца з-пад яго пяра і творы для дзяцей. Але адна справа, калі напаткаеш верш-другі ў перыёдыцы і куды іншая — кніга. Мала сабраць удалыя вершы, а і трэба размясціць іх так, каб ад твора да твора цікаўнасць маленькага чытача (ці слухача) не паслаблялася, а яшчэ больш узрастала.

Як жа справіўся П. Саковіч з падобнай задачай? Наколькі ўдалося яму застацца не толькі самастойным, але і напісаць такія вершы, што не згубіцца ў шэрагу твораў іншых аўтараў. Мушу з радасцю адзначыць: удача П. Саковіча-дзіцячага пісьменніка не абмінула. Прынамсі, у гэтым пераконваюць лепшыя вершы кнігі. Пачынаючы з "Маладзічка", паэт вядзе з дзецьмі даверлівую гаворку, знаходзячы адпаведныя інтанацыі, вобразы, ствараючы той асаблівы паэтычны лад, што пераконвае: верш напісаны па душэўнай патрэбе, а яна заключаецца ў тым, каб, па меры магчымасці таленту, зрабіць свет хлопчыкаў і дзяўчынак яшчэ больш непаўторным, прывабным, напоўніўшы ўсімі колерамі вясёлкі і прынёсшы ў яго тую магчымасць немагчыма з чаго, уласна кажучы, і пачынаецца дзіцячая паэзія, чым яна жыве.

Павел Саковіч глядзіць на навакольны свет вачыма дзяцей, поўнымі захаплення, таму і верш "Маладзічок" быццам напісаны адным з гэтых "чамучак" — настолькі ўсё шчыра, па-дзіцячы даверліва:

*Маладзічок смяшыць мяне,*
*Ён натапырыў рожкі,*
*Вось-вось Мядзведзіцу бадне,*
*Хоць страшнавата трошкі.*

Маладзічок у вершы — істота жывая. І адухоўленая. Ён у чымсьці нагадвае звычайнага хлапчука-свавольніка. Праўда, паэт выкарыстоўвае іншае параўнанне, але яно таксама да месца, бо дазваляе адчуць, які непаседлівы Маладзічок, як хочацца яму пагуляць: "Нібы гарэза казляня, // Такі малы няўклюда! // Ён хоча да пачатку дня // Яшчэ паспець усюды". Таму і знаходзіць сабе пастаянна занятак. То "аб хмарку чэшацца ілбом", "то Млечным Шляхам скача". А захоча траўкі — "на луг пачне садзіцца".

Бадай, не трэба шмат гаварыць, наколькі ўсё гэта не толькі абуджае, а і актывізуе фантазію дзіцяці, вучыць яго ўменню, пазнаючы навакольны свет, успрымаць пабачанае праз сістэму вобразаў.

У завяршальнай жа страфе Маладзічок яшчэ большы гарэза. Як хлапчук які, хоць і ведае, што за пэўны ўчынак могуць паўшчуваць, зробіць усё роўна па-свойму, ад задуманага нізашто не адыдзе:

*Хоць дзень амаль ужо відзён,*
*Маладзічок не ўцерпіць:*
*Збанок на плоце рогам ён*
*Яшчэ крадком падчэпіць.*

Дарэчы, адзін з такіх непаседлівых хлапчукоў, герой верша "Пра рыжых". У творы моцныя выхаваўчыя моманты. Праўда, ён напісаны так, што аўтар свайго дыдактызму не афішуе. Толькі калі з вершам пазнаёмішся цалкам, зразумееш, што меў на ўвазе паэт, расказваючы "пра рыжых". Добра вядома, як дзеці ставяцца да сваіх сяброў, а то і проста аднагодкаў, якія знешне выглядаюць інакш, чым усе. Могуць і пасмяяцца — незласліва, а могуць і з'едліва пакпіць. Прачытаўшы ж напісанае П. Саковічам, несумненна, шмат у чым зменяць сваё стаўленне да рыжага аднагодка. Больш таго — палюбяць яго:

*Рыжы ранак надыходзіць,*
*Сонца рыжае ўстае*
*І далонню рыжай водзіць*
*Па зрыжэлай скрозь траве.*

*Выйду з ценю на паляну —*
*Сонца хай не абміне.*





*З-пад рукі ўгару я гляну,*
*Лашчы рыжага, мяне!*

А колькі досціпу ў такім, здавалася б, тэматычна традыцыйным вершы, як "Дзед Мароз і Міхасёк"?! Нешта падобнае дзеці чыталі і ў іншых аўтараў, але ніводзін з іх не расказаў пра ўсё так непасрэдна, калі Міхаська даў драпака ад дзеда Мароза:

*Дзед Мароз такі старэнькі,*
*У яго баляць каленкі.*
*Ён ад хлопчыка адстаў*
*І... чапляцца перастаў!*

Асобныя вершы кнігі напісаны, як успамін П. Саковіча аб пэўных момантах свайго жыцця, звязанымі з гадамі маленства. Яны аднолькава цікавыя і для дзяцей, і для дарослых. Асабліва, калі вабіць не толькі настрой, у нечым элегічны, а і вобразна-насычаны паэтычны малюнак, як, для прыкладу, у вершы "Мроі":

*На сінім палатне нябёс*
*Аблокаў белыя карункі*
*Напамінаюць мне да слёз*
*Абрусаў матчыных малюнкі.*

*Яшчэ стрыжы у вышыні*
*Туд-сюд маланкаю мільгаюць,*
*Нібыта "крыжыкам" яны*
*Абрус той матчын вышываюць.*

Такое вяртанне паэта ў гады паэтавага маленства дазволіць сённяшнім дзецям з большай спагадай паставіцца і да сваёй матулі. На гэта "падштурхне" верш "Хлеб на далоні":

*Верасень халоднага туману*
*На ўвесь парк прыціхлы напусціў.*
*Я пад клёнам, каб сагрэцца стану —*
*Ён здаля мне свечкаю свяціў.*

*І лісток, да чырвані нагрэты,*
*Дакранецца галавы маёй.*
*Помню, макаўку матуля гэтак*
*Саграваля ўзімку даланёй.*

Трэцяя, заключная страфа прымусіць хлопчыкаў і дзяўчынак адкрыць для сябе і невялічкую таямніцу: ім абавязкова захочацца даведацца, як раней пяклі хлеб, які цяпер прыносяць з крамы:

*Чыстым ранкам да стала ад печы*
*Несла мама бохан на руках.*
*Думаў я з удзячнасцю хлапечай,*
*Што на хлебе гэтым след адвечны —*
*Роднай далані, а не лістка.*

Ёсць у зборніку і некалькі жартаў. Дасціпнасцю вылучаецца "Сціпласць памідора":

*Ён самай сціплай на зямлі пароды,*
*Бо чырванее раз і назаўсёды!*

Усмешку выклікае і жарт "Добры Джэк":

*Джэк мой добры — цераз край:*
*Хоча ў дружбе жыць і міры.*
*Толькі скажаш: "Лапу, дай!",*
*На спіну ён брык: трымай,*
*Не адну, а ўсе чатыры!*

І, канечне ж, прынясе маленькім нямала радасці верш, які даў назву кніжцы. Я знарок ні слова не сказаў пра яго, каб знаёмства з ім стала для чытачоў добрай неспадзеўкай. Ды і прыведзеных вышэй прыкладаў, думаецца, дастаткова, каб упэўніцца, што "Гром на калясніцы" П. Саковіча — добры падарунак маленькім чытачам.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Міжнародны семінар драматургаў

З 21 па 24 мая ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі пад патранажам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, пры ўдзеле Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, Міністэрства культуры і мастацтваў Украіны, Польскага інстытута ў Мінску, Беларускіх саюзаў пісьменнікаў, літаратурна-мастацкіх крытыкаў, тэатральных дзеячаў пройдзе міжнародны семінар драматургаў, у якім прымуць удзел прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы. Чакаецца прыбыццё вядучых драматургаў Расіі: Н. Птушкінай, К. Драгунскай, А. Яхантава, Р. Бялецкага. Украіну прадстаўляюць сакратар Нацыянальнага саюза пісьменнікаў, заслужаны дзеяч мастацтваў, вядомы драматург і празаік Я. Стэльмах, народная артыстка Украіны, драматург Л. Кушкова, галоўны рэдактар Міністэрства культуры В. Няволаў і група маладых драматургаў. Польскі бок будзе прадстаўлены галоўным рэдактарам польскага журнала "Тэатр" Я. Майхеракам і рэдактарам спецыялізаванага драматургічнага журнала "Дыялогі" М. Радзівонам. Сярод беларускіх майстроў сцэнічнай інтрыгі — А. Дудараў, А. Папова, А. Дзялендзік, Г. Марчук, С. Кавалёў, А. Ждан, П. Васючэнка і інш.

У праграме семінара экспрэс-паказ п'есы "Жанчыны Бергмана" М. Рудкоўскага, прэм'ера якой чакаецца ў хуткім часе, а таксама п'ес "Крыж" А. Дударава, "Вандроўнікі ў Нью-Йорку" А. Паповай, "Адэль" Я. Таганава. Над падрыхтоўкай экспрэс-паказаў працуюць рэжысёры: В. Анісенка, В. Катавіцкі, В. Грыгалюнас, В. Дудзін, С. Кавальчык, М. Кірычэнка. У першы дзень семінара плануецца правесці капуснік з удзелам Маладзёжнай студыі тэатра, які будзе прысвечаны сустрэчы гасцей.

**А. КАРЭЛІН**

## "Сучасная... крытыка..."

10 мая ў тэатральный зале Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў адбылася рэспубліканская навукова-творчая канферэнцыя "Сучасная літаратурна-мастацкая крытыка ў сродках масавай інфармацыі", у якой прымалі ўдзел У. Конан, Л. Саянкова, Р. Смольскі, Т. Дасаева, Т. Арлова, Н. Фральцова, В. Нячай, В. Салееў, В. Жук, Н. Крывашэева, Г. Шымелевіч, В. Дапкюнас, студэнты, аспіранты устаноў культуры.

У дакладах выступоўцаў асаблівая ўвага надавалася стану сучаснай беларускай літаратурна-мастацкай крытыкі на старонках айчынных газет і часопісаў, значэнню крытыкі ў творчых працэсах развіцця літаратуры, тэатра, кіно і тэлебачання, выяўленчага і музычнага мастацтва, узаемадзеянню мастацкай крытыкі са сродкамі масавай інфармацыі.

Арганізавалі рэспубліканскую навукова-творчую канферэнцыю Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларускі дзяржаўны універсітэт (кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі факультэта журналістыкі), Канфедэрацыя творчых саюзаў і культурных фондаў.

**Ларыса ІЎЛІЕВА**

## "Konsonans" і салісты

Старадаўнія велікодныя песняспевы, духоўныя творы Вацлава з Шамотул, Т. Траяноўскага, Ф. Наваейскага, А. Брукнера, М. Іпалітава-Іванава ды іншых кампазітараў маглі паслухаць наведнікі нядаўняга камернага канцэрта ў сталічным Доме дружбы. Усе гэтыя, пераважна малавядомыя шырокай публіцы, музычныя ўзоры прагучалі ў выкананні маладзёжнага хору "Konsonans" пад кіраўніцтвам Алены Ісайкінай.

Калектыву толькі-толькі споўнілася тры гады. Яго ўдзельнікі — студэнты мінскіх ВНУ і выпускнікі універсітэтаў, аб'яднаныя любоўю да польскай культуры, мовы. Рэпертуар мае вельмі багаты і разнастайны, што пацвердзіла і выступленне ў Доме дружбы. Тут і творы часоў барока, рэнесансу, музыка сакральная і свецкая, і не толькі кампазітараў польскіх. Хор дае канцэрты ў касцёлах; на фестывалях у Беларусі ды Польшчы адзначаўся дыпломамі, спецыяльнымі прызамі.

Годным працягам праграмы хору "Konsonans" было ў той вечар выступленне салістаў — лаўрэатаў міжнародных і нацыянальных конкурсаў, маладых "зорак" беларускага музычнага выканальніцтва. Эла Рыжановіч ды Таццяна Траццяк, Уладзімір Громаў ды Аляксандр Жукаў спявалі пад акампанемент Алега Лесуна хрысціянскую музыку І. С. Баха, В. А. Моцарта, С. Рахманінава, Г. Ф. Гендэля, Ф. Шуберта. Піяніст Віталь Стахіевіч іграў В. А. Моцарта, А. Месіяна...

Адметнасцю вечарыны сталася прэм'ера сучаснай аранжыроўкі традыцыйнай польскай велікоднай песні ў выкананні Э. Рыжановіч. Беларускі кампазітар Юлія Андрэева прымеркавала гэтую працу акурат да канцэрта ў Доме дружбы, зладкаванага, дарэчы, пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску.

**С. Б.**

ІМПРЭЗЫ

# Імянінны альбом

"Талентам Беларусі" — пяць гадоў. За гэты час больш як тысяча маладых людзей — музыкантаў, артыстаў, танцоўшчыкаў, дызайнераў, жывапісцаў, літаратараў, рэжысёраў — адчула падтрымку спецыяльнага фонду, створанага дзеля іх пад патранатам прэзідэнта краіны.

Многія творчыя і навучальныя калектывы, дзякуючы фінансавай дапамозе фонду "Таленты Беларусі", змаглі набыць музычныя інструменты, сцэнічныя касцюмы, матэрыялы для заняткаў выяўленчым мастацтвам, папоўніць свае бібліятэкі. 430 лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў атрымалі стыпендыі фонду.

Пяцігоддзе "Талентаў Беларусі" адзначана такімі падзеямі, як выданне каталогаў маладзёжных пленэраў і выставак, выпуск CD з запісамі стыпендыятаў фонду, плённае правядзенне першай творчай школы для юных музыкантаў і мастакоў (гл. "ЛіМ" за 27.10.2000 г. і 2.02.2001 г.).

І, відаць, невыпадкова на "раніцу года", на час правядзення Міжнароднага фестывалю "Мінская вясна" прыпала імянінная ўрачыстасць — прысвечаная пяцігоддзю фонду імпрэза ў Вялікай зале сталічнай філармоніі.

У фае разгарнулася выстаўка маладых жывапісцаў ды графікаў — талентаў з усяе нашай краіны, вучняў вясковых школ, абласных студый, мінскіх устаноў. А на сцэне давалі канцэрт і ўжо добра вядомыя, ганараваныя міжнароднымі конкурснымі лаўрамі, маладыя артысты, і ўзыходзячыя "зорачкі".

З прыгожых адухоўленых партрэтаў таленавітых дзяўчат і хлопцаў, Богам пацалаваных дзяцей, якія вызначыліся ў мастацкім жыцці, годна прадстаўляюць нашу краіну за мяжой, даюць надзею на росквіт беларускай нацыянальнай культуры ў новым стагоддзі, — з іх партрэтаў можна скласці ладны альбом. І альбом той будзе своеадметным летапісам першых творчых крокаў, перамог і прызнання, гадоў "мазольнай" працы і пошукаў, сталення, выбару. Сцвярджэння сябе.

У гэтым альбоме будуць і тыя, хто выступаў на нядаўняй урачыстай імпрэзе. Срэбнагучны ансамбль трубачоў "Інтрада", якім кіруе прафесар М. Волкаў. Залатаструнны — ён і называецца: "Залатая струна"! — ансамбль цымбалістаў Мінскага музычнага вучылішча (кіраўнік Г. Колесава). Дасціпныя, гарэзлівыя "Баламуты" (Беларускі універсітэт культуры, кіраўнік В. Трамбіцкая). Рамантычнае фартэпіяннае трыо пад кіраўніцтвам І. Галачкінай і артыстычнае трыо баяністаў, узгадаванае М. Булам. Навучэнцы Беларускага харэаграфічнага каледжа Вадзім Ільяш ды Дзіяна Лысенка (педагогі С. Пясцехін, М. Пятрова). Выдатны габаіст Павел Кундзянок — выхаванец Магілёўскага каледжа музыкі ды харэаграфіі (педагог І. Кундзянок), які паступіў у Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю і ўжо летась меў прэстыжны гастрольны тур з такімі "зоркамі", як У. Співакоў ды Г. Крэмер. Андрэй Паначэўны — першы беларускі піяніст, які пакарыў музычную эліту Амерыкі...

Не, усё-ткі марная гэта спроба — скласці да пятага дня нараджэння "Талентаў Беларусі" памятны імянінны (або імянны?) альбом. Яркіх маладых індывідуальнасцяў у нас, дзякуй Богу, столькі, што і пералічыць іх за адным разам не выпадае. І штогод раскрываюцца новыя. Многія імёны, многія натхнёныя твары знаёмыя чытачу паводле нашых публікацый. Таму сёння, зазірнуўшы ў рэдакцыйны фотаархіў, мы выбралі некалькі здымкаў розных гадоў. Знаёмыя твары? Гэта — лаўрэаты міжнародных конкурсаў. І — наша музычнае заўтра...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*Аляксей КІСЯЛЁЎ, Георгій АНІШЧАНКА, Уладзімір СІНЬКЕВІЧ.*


*Выхаванцы прафесара Мікалая Волкава.*


*Сяргей СМІРНОЎ — вучань Уладзіміра Няхаенкі.*


*Андрэй ПАНАЧЭЎНЫ (клас прафесара Юрыя Гільдзюка).*


*Раман ШЫМАНЕЦ (клас Яўгена Шыманца).*

МЕРКАВАННЕ

# "Перамога" — за еўрапейскае кіно

Сталічны кінатэатр "Перамога" — адзіны з дзяржаўных ў Беларусі з'яўляецца членам міжнароднай асацыяцыі Europa-cinemas. Гэта арганізацыя імкнецца падтрымаць кінатэатры, якія перадусім дэманструюць фільмы, створаныя на кінастудыях еўрапейскіх краін. Зусім нядаўна прадстаўнік кінатэатра "Перамога" Рыгор Крол вярнуўся з Парыжа, дзе ўдзельнічаў у V з'ездзе міжнароднай асацыяцыі Europa-cinemas. Р. Крол прадстаўляў Рэспубліку Беларусь на форуме, у якім бралі ўдзел чатырыста дэлегатаў з сарака краін свету.

— На працягу трох дзён, з ранку да позняга вечара, — расказвае **Р. Крол,** — дэлегаты абмяркоўвалі пытанні як, наколькі эфектыўна ідзе пракат еўрапейскіх фільмаў у краінах, што ўваходзяць уEuropa-cinemas; якое месца гэтыя стужкі займаюць у агульным рэпертуары кінатэатраў гэтых краін. Згодна падпісанай канвенцыі ў кіназалах павінна дэманстравацца не менш за 50% еўрапейскіх карцін, з якіх 20 % павінны быць французскімі. Сёлета ў Парыжы аналізаваліся звесткі аб праглядзе гледачамі еўрапейскіх кінастужак, прадуктыўнасць іх паказу ў суадносінах з карцінамі ЗША. (Дарэчы, па звестках даследаванняў "Еўрастата" — афіцыйнай статыстычнай камісіі Еўрасаюза — еўрапейскі кінапракат па-ранейшаму цалкам залежыць ад амерыканскай кінапрадукцыі, нягледзячы нават на тытанічныя намаганні кінематаграфістаў Старога Свету стварыць уласныя еўрапейскія блокбастары. Напрыклад, у Францыі за Галівудам 37 % пракату; у Германіі — 51 %; у Партугаліі і Грэцыі — 70 %, а ў Ірландыі — 75 %. Пры гэтым прыбыткі ад пракату ва ўсіх краінах, уключаючы Францыю, практычна цалкам забяспечвае галівудская прадукцыя. — **П. Г.**).

Многія дэлегаты форуму гаварылі пра тое, што ў буйных гарадах паспяхова дзейнічаюць шматзалавыя кінатэатры, якія мусяць прыносіць каля 70 % прыбытку. Дарэчы, гэты вопыт быў пераняты ў ЗША: падчас крызісу кінавытворчасці знаныя дзеячы Галівуда прапанавалі пабудаваць менавіта шматзалавыя кінатэатры. Цяпер такіх мультыплексаў там звыш 800. У Еўропе, напрыклад, у Бельгіі сёння працуюць чатырох-пяцізалавыя кінатэатры на 900 месцаў, а ў Нарвегіі ёсць чатырнаццацізалавы кінатэатр на 2310 месцаў! Вядома, усе яны цудоўна прыстасаваны для сервіснага абслугоўвання гледачоў. Гэта цалкам свабодныя аб'яд-



*Арцём ШЫШКОЎ (вучань Эдуарда Кучынскага) з Уладзімірам Співаковым падчас яго візіту ў Мінск.*



*Міхась ЛЯВОНЧЫК (клас Таццяны Сергеенкі).*

ТЭАТР

# Стваральнікі цуду

У Тэатры юнага гледача ў 100-ы раз быў паказаны спектакль “Стваральніца цуду” па п'есе Уільяма Гібсана (пераклад Уладзіміра Граўцова).

Адразу зазначым, што спектаклі-“доўгажыхары” ў тэатры — не рэдкасць. Тут і 300-я “Анчутка”, і 400-ы “Чыпаліна і яго сябры”, і 700-ыя “Кот у ботах” і “Шукай ветру ў полі”. Але ж усё гэта спектаклі-казкі, забаўляльныя, хаця і ў самым лепшым сэнсе слова). Зусім іншы — “Стваральніца цуду”. Гэта сур'ёзная псіхалагічная драма, якая вымагае ад гледачоў пэўных высілак, суперажывання. Ды і ідзе ён не больш за тры разы ў месяц, а каля двух гадоў наогул не ставіўся (нарадзілася дзіцятка ў актрысы, адзінай выканаўцы адказнай ролі). Так што гэты 100-ы спектакль — “дарагога варты”.

У п'есе амерыканскага драматурга У. Гібсана расказана праўдзівая гісторыя пра слепаглуханямую дзяўчынку Элен, якая, дзякуючы настойлівасці, дабрыні, моцнаму характару маладой настаўніцы міс Ані, абуджаецца да жыцця.

Спектакль паставіў (у 1994 г.) рэжысёр Уладзімір Салюк, сцэнаграфія Надзеі Бахвалавай, мастак па касцюмах Ларыса Рулёва. Настолькі дакладна, так у адпаведнасці з аўтарскай задумай была распрацавана ўся партытура спектакля, што і па прашэсці часу ён не разваліўся (7 гадоў у рэпертуары і не аднаўляўся). І зараз усе акцёры (без выключэння) працуюць у ім надзвычай старанна, вельмі чула ставяцца да сваіх герояў. Акцёры стараюцца захаваць не толькі мізансцэны, а і позіркі, дотыкі рук — тут настолькі ўсё ўзаемаўвязана, ну проста як “карункавая вязь” (лепш і дакладней за К. Малюціну, шматгадовага загадчыка трупы тэатра, і не скажаш).

У спектаклі няма так званых “прахадных” роляў — усе важныя. Кожны персанаж запамінаецца. Гэта перш за ўсё Элен і яе настаўніца міс Ані, ролі якіх нязменна выконваюць В. Кавалерава і Р. Астрадзінава і ад якіх найперш і залежыць поспех спектакля. Гэта і бацька Элен — капітан Келер (Л. Улашчанка), і яе маці Кэт (Л. Горцава, Г. Кухальская), і брат Джэймс (А. Кізіно, іграў яшчэ і Я. Піменаў), і цётухна Іў (Ж. Друцкая, К. Доўнар), а таксама служанка Вінэй (Т. Жданава) і яе сын Персі (А. Шабан). Кожная роля знайшла свайго выканаўцу. (У 100-м спектаклі, як і на прэм'еры, ігралі Л. Горцава і Ж. Друцкая). Адзначу, што акцёры вельмі любяць гэты спектакль. Іграюць яго заўсёды з натхненнем, хваляваннем. У спектаклі пануе надзвычай цёплая, добразычлівая атмасфера.

На жаль, старэюць дэкарацыі. А вось зладжаны акцёрскі ансамбль захоўваецца. Рэжысёр-пастаноўшчык па-ранейшаму працуе ў Маскве, але спектакль “даглядае” В. Кавалерава. (Нагадаю, што ў маі 1997 года “Стваральніца цуду” была паказана на міжнародным фестывалі “Славянскія тэатральныя сустрэчы”. За ролю Элен В. Кавалерава была ўганаравана прэміяй за лепшае выкананне жаночай ролі). Ужо ў 101-м паказе спектакля ролю Джэймса выканаў малады акцёр Віталь Казлоў, якога ўвяла В. Кавалерава.

Пасылы дабрыні, спагады, разумення, шчырасці і любові, што ідуць са сцэны, выклікаюць у адказ рэакцыю глядзельнай залы. Гісторыя пра амерыканскую дзяўчынку кранае душы нашых гледачоў. І нават самых, мякка кажучы, “неспакойных” (“культпаходных”), не падрыхтаваных да сур'ёзнага ўспрымання такой складанай п'есы. І яны не застаюцца абыякавымі. Паступова і іх захапляе дзеянне на сцэне, і яны аказваюцца ва ўладзе мастацтва тэатра.

У свой час пра спектакль даволі многа і па-добраму пісалі ў друку. Многа добрых слоў пра спектакль сказалі, напісалі і нашы гледачы. Вось што адзначыў у сваім водзыве вучань 10-га класа школы № 198 Віталь Пушкін: “Нягледзячы на даволі сур'ёзную тэму, спектакль... успрымаецца лёгкім і чыстым. Паглядзеўшы яго, зноў разумееш, што ўсім добрым і чыстым у нашым свеце кіруе толькі пяшчота і любоў. І калі... і акцёры, і рэжысёр, і аўтар п'есы прачыталі гэтую старонку жыцця, то можам з палёгкай на сэрцы сказаць, што яны таксама “стварылі цуд”.

**Дзіяна СТЭЛЬМАХ**



*Камерны аркестр Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра ПЕРЛІНА.*



*Калі “зоркі” былі “зорачкамі”...*

нанні, што самастойна вызначаюць рэпертуар, закупляць стужкі ў пракатных арганізацыях ці ў саміх вытворцаў, якія вельмі зацікаўлены ў зносінах з мультыплексамі: шматзалавыя кінатэатры даюць магчымасць хутчэй вярнуць грошы, выдаткаваныя на карціны.

З дапамогай Інтэрнэтнай сувязі ўсе сучасныя кіназалы Еўропы напрамую маюць зносіны з іншымі буйнымі кінатэатрамі, вытворцамі фільмаў. Яны даволі аператыўна дазнаюцца пра тое, якія стужкі карыстаюцца найбольшай папулярнасцю ў гледачоў, а г. зн. могуць прынесці добры прыбытак.

Спадзяюся, што ў хуткім часе кінатэатр “Перамога” ўвойдзе ў Інтэрнэтную сувязь, што дасць нам магчымасць мець зносіны з 340 кіназаламі свету, атрымліваць аператыўную інфармацыю пра вытворчасць цікавых еўрапейскіх фільмаў, пра іх пракат у кіназалах. Лічу, што нам неабходны закон, які б абмяжоўваў тэлевізійны паказ фільмаў, яшчэ не паказаных у кінатэатрах. Бывае, што тэлебачанне дэманструе стужкі раней за кінатэатры, тым самым адбіраючы ў нас гледачоў. У еўрапейскіх краінах ёсць дакладныя законы, якія разумна рэгулююць гэтыя пытанні.

На мой погляд, сёння наш кінатэатр найбольш падыходзіць для будаўніцтва ў ім шматзалавага мультыплекса. Акрамя ўсяго, “Перамога” знаходзіцца ў цэнтры горада. Дарэчы, два гады таму мы даслалі свае прапановы па гэтым пытанні ў Міністэрства культуры ды гарвыканкам, але дагэтуль не атрымалі ніякага адказу. Разумею, патрэбны вялізныя капіталаўкладанні ў гэтае будаўніцтва. Але, напрыклад, яго можна было б арганізаваць сумесна з Расіяй, калі на базе нашага кінатэатра зрабіць яшчэ і цэнтр расійскага кіно. Такія папярэднія распрацоўкі, зробленыя сумесна з амбасадай Расійскай Федэрацыі ў РБ былі таксама прадстаўлены на разгляданне. На жаль, ніякага адказу.

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

НОВАЕ

# “Весці” — гэта падзея!

У Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі з'явіўся свой навукова-тэарэтычны часопіс — “Весці”. Яго першы нумар пабачыў свет у знамянальны час: вядучая музычная навучальная ўстанова краіны рыхтуецца адзначыць сваё 70-годдзе.

Адкрывае новы часопіс прадмова рэктара БДАМ прафесара М. Казінца. Ён вітае “Весці Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі” як прыкметную падзею ў галіне навукі і культуры нашай краіны, “адлюстраванне высокага ўзроўню айчыннага музыказнаўства, значных дасягненняў і вялікага навуковага патэнцыялу Акадэміі музыкі”. Выказана таксама спадзяванне, што на старонках новага выдання будуць друкавацца лепшыя, найбольш значныя навуковыя даследаванні прафесараў і выкладчыкаў, матэрыялы, прысвечаныя музычнай адукацыі і культуры Беларусі, адлюстроўвацца гістарычныя падзеі і факты.

Галоўны рэдактар часопіса, першы прарэктар БДАМ, доктар педагагічных навук, прафесар, акадэмік В. Яканюк паведаміў нам, што “Весці” разлічаны на шырокую перспектыву. Тут будуць адлюстраваны ўсе напрамкі дзейнасці ВНУ, усе значныя навуковыя працы ў галіне музыказнаўства і музычнай адукацыі, дзейнасць беларускіх кампазітараў і выканаўцаў, адметныя падзеі жыцця акадэміі. А яшчэ плануецца наладзіць і пашыраць міжнародныя стасункі: запрашаць у якасці аўтараў прадстаўнікоў замежных вышэйшых музычных школ, вядомых даследчыкаў, музыкантаў-практыкаў і вучоных, чые працы, прафесійныя меркаванні былі б цікавыя і карысныя для развіцця нашай навукі, адукацыі, культуры.

Як падкрэсліў В. Яканюк, рэдакцыя “Весцяў” мае намер наладзіць працу ў дакладным рытме, што дазволіла б рыхтаваць новыя выпускі рэгулярна, адпаведна статусу перыядычнага выдання.

Першы ж нумар “Весцяў” сваім зместам і вёрсткай больш нагадвае навуковы зборнік, чым часопіс. У ім змешчаны працы 19 аўтараў, згрупаваныя паводле адпаведных раздзелаў: “Музычная адукацыя”, “Гісторыя і тэорыя беларускага музычнага мастацтва”, “Этнамузыкалогія”, “Гісторыя і тэорыя сусветнага мастацтва”, “Эстэтыка і філасофія музыкі”, “Гісторыя і тэорыя выканальніцкага мастацтва”. Асобная падборка знаёміць са зместам выданняў і дысертацый, выкананых у БДАМ.




Пагартаўшы “Весці”, няцяжка пераканацца, якое шырокае кола навуковых інтарэсаў у нашых ужо масцітых музыказнаўцаў, педагогаў ды іх маладых наступнікаў. Так, В. Яканюк піша пра вышэйшую музычную школу ў кантэксце рэформы адукацыі, закранаючы пытанні метадалогіі; В. Антаневіч разважае пра нацыянальнае самавызначэнне кампазітарскай культуры Беларусі; тэма працы Р. Аладавай — “Леў Талстой у музычна-харэаграфічнай інтэрпрэтацыі Г. Вагнера — А. Дадзішкіліяні” (балет “Пасля балю”); А. Гарахавік займаецца філасофіяй гуку паводле канцэпцый у індыйскай музыцы; А. Казлоўская шукае новыя акцэнты ў стылістыцы позніх твораў Д. Шастаковіча; В. Чабан звяртае ўвагу на месца народный музыкі ў акадэмічным выканальніцтве баяністаў. Зацікавяць чытачоў новыя працы Т. Ліхач, Т. Якіменкі, Ю. Златкоўскага, Н. Сцепанцовай...

Пажадайма новаму выданню, над якім шчыруе невялікі творчы калектыў (поруч з В. Яканюком — яго намеснік І. Галавач, адказны сакратар Т. Ліхач, рэдактар М. Казіміраў, рэдкалегія ў складзе вядомых вучоных Т. Шчарбаковай, Т. Цітовай, І. Назінай, А. Ладыгінай), дасканаласці ў працы, спраўджвання задум, добрых аўтараў і чытачоў.

**С. Б.**

# Прызванне — драматургія

ЛЬВУ КАРАІЧАВУ — 65

Родам Леў Сяргеевіч з горада Разань (Расія). Жыў з бацькамі ў вёсцы Рудакоў Хойніцкага раёна, а перад вайной сям'я пераехала ў Мінск. У 1953 годзе Л. Караічаў скончыў сярэднюю школу, працаваў тэхнікам-канструктарам у інстытуце "Белдзяржпраект" і вучыўся на вячэрнім аддзяленні будаўнічага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута (скончыў у 1960 годзе). З 1958 года быў тэхнікам-каструктарам, старшым архітэктарам, старшым інжынерам-канструктарам Інстытута будаўніцтва і архітэктуры АН БССР, кіраўніком групы тэхнічнай інфармацыі трэста "Аргтэхбуд", працаваў у Міністэрстве будаўніцтва БССР. Затым — загадваў рэдакцыяй тэхнікі, будаўніцтва, спорту "Беларускай савецкай энцыклапедыі", з'яўляўся карэспандэнтам газеты "Звязда", рэдактарам-кінадраматургам сцэнарнай майстэрні "Беларусьфільма", супрацоўнікам часопіса "Нёман", загадчыкам літаратурнай часткі Беларускага тэатра юнага гледача, быў прадстаўніком выдавецтва "Известия" па Беларускай ССР.

З 1958 года пачаў выступаць як публіцыст, тэатральны і кінакрытык, з 1967 — як драматург. Аўтар п'ес "І выхавай сына", "Зорныя ночы", "Слова гонару" і іншых, інсцэніроўкі "Гандлярка і паэт" паводле аднайменнай аповесці І. Шамякіна. Напісаў таксама шэраг кінаінсцэніровак, якія ставіліся на радыё, а таксама сцэнарыяў для аб'яднання "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм".

З 65-годдзем, шаноўны Леў Сяргеевіч! Доўгіх год жыцця Вам, новых творчых поспехаў!

# З лімаўскай кагорты

Родная вёска Сцяпана Ліхадзіеўскага некалі называлася Баслаўцы, а цяпер — Барок. Гэта жыццядайная слуцкая зямля, такая багатая на таленты. Сцяпан Іванавіч вучыўся ў Беларускім педтэхнікуме, у Беларускім дзяржаўным універсітэце, а вышэйшую адукацыю атрымаў у 1939 годзе ў Томскім педагагічным інстытуце (Расія), бо ў 1933 годзе быў рэпрэсіраваны і высланы на тры гады на поўдзень Казахстана. Перад гэтым працаваў у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва". А ў высылцы вучыўся, настаўнічаў. Пасля паступіў у аспірантуру Ташкенцкага педагагічнага інстытута імя Нізамі (Узбекістан). Быў выкладчыкам гэтага інстытута, дэканам факультэта, а з 1963 года загадваў кафедрай зарубежнай літаратуры Рэспубліканскага педагагічнага інстытута рускай мовы і літаратуры. Меў навуковае званне доктара філалагічных навук.

З першым вершам С. Ліхадзіеўскі выступіў у 1925 годзе ў часопісе "Беларускі піянер". Выйшлі зборнікі паэзіі "Чырванеюць вішні" (1931), "Рокаты дальняй прыстані" (1931), "Мы — маладая гвардыя" (1932), "Крывавыя знічкі на снезе" (1932), "Берасянка жывых трывог" (1962), "Вянкі камунарам" (1974), "Чырвоныя макі" (1981), а ў Ташкенце зборнік вершаў і перакладаў "Поиски сердолика" (1973). Вядомы і як крытык, літаратуразнавец, які выдаў па-руску некалькі кніг. Да ўсяго С. Ліхадзіеўскі перакладаў на беларускую мову паасобныя творы французскіх, нямецкіх, узбекскіх паэтаў. І што самае цікавае — за гады жыцця ва Узбекістане дасканала вывучыў узбекскую мову і нават пісаў на ёй.

9 мая з дня нараджэння С. Ліхадзіеўскага споўнілася 90 гадоў, а пайшоў ён у вечнасць 13 лютага 1979-га.

ПЕРАКЛАДЫ

Юкка МАЛІНЭН

З ФІНСКАЙ ПАЭЗІІ

## Блюз Перадзелкіна

*Але і ў надмагіллі Пастэрнака*
*патайна быў схаваны мікрафон,*
*падключаны калючым дротам; вершы*
*чыталі тут надрыўна; з асцярогай*
*маўчалі; маладыя лейтэнанты*
*дзяжурылі на тым канцы дратоў.*

*З сюжэтаў тых: мужык чырвонатвары*
*спыняе — з палкай! — дэкламуе: "Слухай!..*
*Радкі чатыры!.." Заклінальны голас*
*святлее, бы ў царкве, калі спяваюць,*
*і неба падключае мікрафоны... —*
*ад мужыка ратуе інтэрв'ю.*

*У восені пісьменніцкі пасёлак,*
*знямелыя бетонныя дарожкі,*
*і немачны сааўтар "Метраполю"*
*на слухавы ківае апарат,*
*а ў горадзе, там, у кальцы Садовым,*
*тры вершнікі: вайна, чума і смерць.*

*Звіняць званы — іх звон "братва" спансуе,*
*і "набеліст" гарэлку п'е "з гарла", —*
*Расея!.. Храм. Музей. А лес і поле*
*не перайсці... Скрозь даты, гадавіны*
*Раялямі расстроенымі, рэхам*
*Славутасцей уздыхі... Нафталін.*

*Габрэй самарскі з тварам валявым*
*спрабуе ўсё ж перакладаць славянам*
*Ашбера і Паасанена — тых,*
*што ўсё наконт пагромаў... Вочы Вольгі,*
*кахання ў дні ганенняў, звершавана,*
*з анёльскаю нясмеласцю глядзяць.*

*А з глебы сокі высмактаны... Ранай*
*асіна барвянее. "У нябёсах,*
*нібы ў смятане блін, слізгае поўня..."*
*О, Ганс і Грэтэль! Дзеці! Цёмны лес*
*і непраходны!.. Казак пра яго*
*бабуля вам дагэтуль не чытала.*

## Я Дантэ, ты Беатрычэ

*заслона ўсё ж аднойчы ўпадзе,*
*прамень заблукае ў кнігах, чытаючы*
*патаемнае*

*светлая Донна — дзе?..*
*чужога ў сваім свайму не стае,*
*сваё — узаемнае:*

*рук тваіх рух —*
*рух маіх рук*
*сплецены ветрам, як палёт Джэльсаміны*

*вінавата-бязвінна*
*скрозь стагоддзі ўсміхаюцца вочы*

*ружаў пялёсткі на ложы ночы*

*і так лёгка без слоў...*
*зноў*
*у ашчэпкі ўсе мары, задумы — ух,*
*куды ўзносіцца дух!..*

*а стаіш у зіме на вятрах гарадскіх*
*з плакатам,*
*чытаеш пра тых, якіх*
*у Аўшвіц вязуць — і канаеш пад коламі*

*на новай старонцы*
*транскрыпцыя полымя*

*транскрыпцыя духавых для клавішных:*
*усё так прыблізна, прыкладна...*
*гэта ўсяго толькі блюз ранішні*
*у вушах у мяне — у прывіда,*
*Беатрычэ...*

●

*ты ў пакінуты дом уваходзіш*
*у часе застойным*
*і зялёную лямпу ўключаеш,*
*гартаючы шэрага Бродскага*

*аркі строф і аркестр купалоў*
*ціхі шолах праскрыпцый*
*знемагаецца арфа, а зверху навіс імператар*
*над вогненным Рымам*

*над руінамі — чад і атрутная*
*плынь гераіну*
*скрыжаванне іголак у промнях рэнтгену*
*пад сонцам зваротным*
*павукамі напоўнена скрынка паштовая*
*павукамі герольдамі вечнасці*

●

*хмельныя дні і гады*
*на водмелі ўсе пахмеллі*

*патанае фрэгат*
*і замест карабля — ружаваты лікёр*
*небасхілу*

*а мужык ён мужык*
*галавой пакладзецца на рэйкі*
*і як толькі Вялікі цягнік загрыміць,*
*загрукоча,*
*адгрызе ён кавалак ад кола, што ўжо*
*наязджае*

●

*Заяц белы чаго бегаў?*

*Міг — рванулася з месца машына,*
*і дым асядае,*
*і матор, прахрыпеўшы, заглух:*
*stop, rolling stones.*
*Міг, нібы перадых напярэдадні мітынгу,*
*і затрымка дыхання —*
*што ўтрымаеш да выдыху:*
*штосьці з веры, са справы,*
*што для гармоніі выгадна?..*
*Пустата запаўняе імгненні клопатам.*

## One for arto*

*Пісьменнік пасяліўся ў нашай вёсцы.*
*Нікому гарадскому не ўявіць,*
*як я зларадні́чаў: бабулі каля крамы*
*штодня яму перамываюць косці.*

*Я ў ліпені там быў. Дом, дзе аптэка —*
*і ўсё, як і раней: калоны, дрэвы,*
*тэраса з белым мосцікам на сопку.*

*Але ўжо ў доме — скрозь communications.*
*І доўгі вечар, і наканаванасць*
*гаворкі пра свабоду, як заўсёды*
*тут, у Фінляндыі...*

*Вясной, як наплывае,*
*даўжэе дзень, разгортваеш газету —*
*і прыплылі: яго няма на свеце.*

**Пераклад Уладзіміра НЯКЛЯЕВА**

* Фінскі пісьменнік Arto Kytohonka, які скончыў жыццё самагубствам, сказаў: "Няма ў жыцці нічога, апроч свабоды".

# КРЫНІЧКА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)

—Гэта ж, дзядзька, мой даўні сябар Лявон, пра якога я табе не раз расказваў, — радасна ўскрыкнуў Кастусь, саскочыў з драбчака і кінуўся насустрач.

Сябры абняліся, пацалаваліся, доўга трымаючы адзін аднаго ў абдымках. Да іх нясмела падышлі Лявонавы браты Мікалай і Рыгор і сівы, згорблены ад старасці дзядок з кавенькаю — усе ўтрох у доўгіх кужэльных рубашках і шарачковых нагавіцах, закасанах па калені.

Лявонавы браты сарамліва стаялі непадалёк, а дзядок, іх бацька, як з даўнім знаёмым, павітаўся з дзядзькам Антосем і пачаў распавядаць пра свае геройскія ўчынкі на турэцкай вайне і па-вайсковаму адрапартаваў, што ён поўны Георгіеўскі кавалер. Былы грэнадзёр не прамінуў з гонарам пахваліцца і сваім сынам-паэтам, які і дзяцей сялянскіх грамаце вучыць, і зямлю абрабляе, і грошы за свае вершы атрымлівае, і супраць паноў выступае, за што на катарзе быў. Старыя яшчэ доўга гаманілі пра гаротнае сялянскае жыццё, нядобрым словам успаміналі сваіх паноў-дабрадзеяў. Нарэшцэ дзядок лагодна кажа:

—Няхай, чалавеча, хлопцы пагамоняць, ім ёсць пра што, а мы паедзем у сяло, да маёй хаты — я тут напрыканцы жыву, пасядзім у цяньку, пагамонім, пакуль на стол збяруць. Каторая пара ад ранку, — для пэўнасці ён прыклаў да лба далонь і зірнуў на сонца.

Дзядзька Антось з Лявонавым бацькам Сцяпанам селі ў драбчак, прагрукацелі коламі па драўляным мастку цераз ручай і падаліся ў вёску, да якой было рукой падаць.

—А твой стары хоць і ў гадах, але даволі жвавы, — зірнуў ім услед Кастусь.

—Дзве вайны прайшоў — крымскую і турэцкую, — некалькі разоў быў паранены, восемдзесят мінула, а як касілі нядаўна, дак нам, маладым, не ўгнацца. — адказвае з усмешкаю Лявон.

Мінулі масток і міжволі прыпыніліся. Кастуся ўразіла крынічка-фантан, якая даволі высокім струменем пульсавала з-пад мастка і падала ўніз, ператвараючыся ў напорыстую вірлівую плынь. На жолабе вісеў драўляны карэц.

Заўважыўшы зацікаўлены позірк сябра, Лявон прапанаваў:

—Паспытай, дружа, нашай жыватворнай вадзіцы. Яе спрадвеку пілі нашы дзяды і прадзеды, і нам з табой наканавана ёю наталіць смагу. — Ачэрпаў карцом бруістай, адвечнай моцы і падаў сябру, запэўніўшы: — З гэтай хвіліны ты назаўжды застанешся бессмяротным...

—Вялікі ты фантазёр, Лявоне, як і ўсе паэты, таму недарма такія цудоўныя вершы пішаш, — шчыра ўсміхнуўся Кастусь, паспытаўшы жыватворнай вадзіцы, і дадаў сур'ёзна: — Я неўзабаве збіраюся ў Вільню — перадам і твае творы ў "Нашу Ніву".

—Дзякуй табе, Кастуська, за ласку і за сустрэчу, — расчулена адказвае той, — а то мне, браце, як бачыш, не адарвацца ад сялянскіх клопатаў. Пішу пакрысе прыхваткамі: то раніцай нацямочку, то поначы, бо душа прагне ўздыму і волі. Багата напісана, а колькі хочацца яшчэ напісаць?! — роспачна ўздыхнуў і нечакана павесялеў: — Пара, Кастуська, і паабедаць — сонца на паўдні, жанкі з поплава даўно пабеглі кароў даіць.

Пакуль ішлі з поплава да Лявонавай хаты, ён распавядаў пра літаратуру, якую любяць і разумеюць не надта пісьменныя вяскоўцы, пра рэвалюцыйную дзейнасць як падпольшчыка, пра радовішча ўрадлівай солі ў сваім павеце, якую, на яго думку, людзі павінны ў недалёкім часе выкарыстоўваць.

Кастусь уважліва слухаў свайго даўняга сябра і дзівіўся эрудыцыяй простага з выгляду вясковага настаўніка, шырокімі абсягамі яго неўтаймаванай душы і высокім палётам думкі.

На двары, у цяньку, пад разгалістай старасвецкай бэрай сядзелі на лаўцы Антось са Сцяпанам і пра нешта заўзята гаманілі, пэўна, працягвалі распачатую на поплаве размову. Насупраць іх на новым нядаўна вычасаным дубовым шуле прымасціліся Лявонавы браты — з цікавасцю слухалі старых.

—Мы вас, браткі мае, і зачакаліся — абедаць жа пара, — надзвычай рухава выпрастаўся з лаўкі Сцяпан, запрашаючы гасцей і перш-наперш Антося.

Невялікая новая хата ўразіла Кастуся сваёй часцінёй і нейкай незвычайнай, казачнай утульнасцю. Падлога да жаўцізны вымытая, такі ж колер і чысціню мелі сцены, столь, лавы і ўслоны вакол стала, накрытага адбеленым у хлорцы, прыгожа вытканым кужэльным настольнікам.

Лявонава жонка, у белай паркалёвай кофце за кароткім рукавом, упрыгожаным узорнай вышыўкай, і доўгай, у хванды, крамнай спадніцы, падалася Кастусю надзвычай прыгожай і вабнай, быццам сышла з карціны невядомага прыгоннага мастака. Светлыя з буйнымі завіткамі валасы акуратна схаваны пад блакітнай у белыя гарохі касынкай; малады, загарэлы твар і бурштынавыя вочы свецяцца дабрынёй і непаўторнай пяшчотай. І голас яе, адпавядальны знешнасці, гучыць ласкава-чуйна, спагадліва:

—Сядайце, госцікі дарагія, за стол — мне Лявон пра вас часта расказваў. А цяпер пашчасціла і ўбачыцца.

На стале — халаднік са свежых гуркоў з цыбуляю і кропам, кілбаса, паляндвіца, кумпяк, сала — нарэзаныя шчодрай рукой тоўстымі кавалкамі, як укусіць. У дадатак — толькі выняты з клінка сыр, галушка масла, а каля іх, як прынада да гэтага, міска пахкага мёду з сотамі. А пасярод гэтай раскошы — з цёмнага шкла вінарка гарэлкі, пэўна, даўно прызапашаная прадбачлівым гаспадаром у кукавіцкага карчмара Еселя.

Зірнуўшы на ўсю гэту сялянскую раскошу, Кастусю напачатку падалося, што яго сябар Лявон з таго часу, як запрасіў у госці, толькі тым і займаўся, што знарок рыхтаваўся да сустрэчы. Аднак, згадаўшы сваіх бацькоў, дзядзьку Антося і іншых руплівых аднавяскоўцаў, успомніў, што на касьбу, жніво і іншыя цяжкія работы, як на свята, заўсёды пакідалі самыя лепшыя прысмакі. Вядома, што і для гасцей пастараліся гаспадары.

У застоллі, пасля чаркі, міжволі зноў пайшла гамана. У дзядзькі Антося са Сцяпанам пра адвечныя сялянскія клопаты, у Лявона з Кастусём пра літаратуру і будучыню. А Лявонавым братам, як маладзейшым, не дазволена ўлетку доўга бавіцца за сталом. Яны жвава паабедалі, ад уладарнага позірку бацькі борздзенька перахрысціліся на абразы і непрыкметна зніклі — паджгалі на сенажаць.

У шчырай задушэўнай размове час прамільгнуў незаўважна-хутка, быццам прамень святла. Сонца ўжо схілялася да захаду, калі дзядзька Антось зірнуў у канец вёскі, куды яно непрыкметна скочвалася на спачын, заспяшаўся:

—Дзякуем, добрыя людцы, за ўсё, а нас яшчэ дарога чакае. Прыязджайце і вы ў госці, як падходзіцеся з сенам.

Развітваючыся, Лявон перадаў Кастусю сшытак з вершамі і з несхаваным сумам у вачах зазначыў:

—Да наступнай сустрэчы.

Той, як нейкую надзвычай вялікую каштоўнасць, асцярожна паклаў сябравы вершы ў свой, паношаны ў настаўніцкую бытнасць, старэнькі партфель, суцешыў:

—Я табе з Вільні абавязкова напішу. І да хуткай сустрэчы, у нас, на Нёмане...

Гняды, застаяўшыся ў гасцях, весела каціў драбчак дадому, і дзядзька часам напінаў лейцы, каб суняць гарэзу. А Кастусь, уражаны і расчулены сустрэчай з сябрам, думаў пра новую, будучую. Ды сустрэцца ім ужо не давялося...

ВІНШУЕМ!

# Падводная частка айсберга

## Тэрэзе ГОЛУБ — 50

***Тэрэза Голуб — супрацоўнік аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат прэміі Максіма Гарэцкага. Яна з'яўляецца адным са складальнікаў Збору твораў М. Гарэцкага, П. Броўкі, Поўнага збору твораў Янкі Купалы. Ёй падрыхтаваны "Летапіс жыцця і творчасці А. Куляшова". Зараз даследчыца разам з калектывам тэкстолагаў працуе над падрыхтоўкай Поўнага збору твораў Якуба Коласа.***

***Тэрэза Станіславаўна — аўтар шматлікіх публікацый па праблемах літаратуразнаўства і пытаннях музейнай справы. Яе артыкулы надрукаваны ў навуковых зборніках, у часопісе "Полымя", "Роднае слова", "Беларуская мінуўшчына", на старонках рэспубліканскіх перыядычных выданняў: "Літаратура і мастацтва", "Голас Радзімы", "Настаўніцкая газета" і інш.***

***Віншуем Тэрэзу Станіславаўну з поўднем веку! Новых жыццёвых і навукова-даследчыкіх поспехаў Вам!***



Праца тэкстолага вельмі складаная, адказная і адначасова цікавая. Як трапна адзначыў Д.Ліхачоў, "тэкстолог — следапыт". І сапраўды, пры падрыхтоўцы да выдання спадчыны таго ці іншага пісьменніка тэкстолагу даводзіцца прайсці ўсімі жыццёвымі і творчымі сцежкамі мастака слова. Пры гэтым — вывучыць эпоху, у якую ён жыў, асяроддзе, якое яго акружала, высветліць, што натхняла на стварэнне таго ці іншага твора, як ішоў творчы працэс, ці адпавядае выдадзены тэкст апошняй творчай волі аўтара. У тэксталагічнай працы няма дробязяў: тут важны і колер чарніла, і структура паперы, выпраўленні ў тэксце і паметы на палях, творчыя планы і накіды, выдавецкія адзнакі і г.д. Кожны факт нясе ў сабе пэўныя звесткі, якія павінны быць вытлумачаны тэкстолагам. Часам гэта даволі складана. Асабліва тады, калі не захаваліся аўтографы пісьменніка, калі матэрыялы з яго творчай лабараторыі ў разрозненым выглядзе знаходзяцца ў розных архівах і музеях рэспублікі і за яе межамі. Таму, каб выдаць навукова-каментаваны Збор твораў таго ці іншага пісьменніка, неабходна правесці вялікую падрыхтоўчую работу па выяўленні, зборы і вывучэнні яго творчай спадчыны, патрэбна вырашыць шэраг тэарэтычных праблем тэксталогіі. Напрыклад, праблему выбару кананічнага тэксту, датавання, атрыбуцыі, кампазіцыі выдання, структуры навукова-даведачнага апарата і г.д.

У розныя часы сярод тэкстолагаў узнікала спрэчка, што ж такое тэксталогія (ці, як яе называлі раней, крытыка тэксту). Адны лічылі, што рамяство, другія, што мастацтва. Д.Ліхачоў падсумаваў спрэчкі наступным чынам: "Тэксталогія — гэта навука, але методыка работы тэкстолага настолькі ўскладнілася, што стала для яго ў пэўнай меры і мастацтвам. ...Поспех даследаванняў тэкстолага залежыць ад шырыні і разнабаковасці яго ведаў, ад яго ўмення ахопліваць факты і ад мастацтва, з якім ён прымяняе метадычныя прыёмы вывучэння тэксту".

Уласны вопыт падрыхтоўкі да выдання Збору твораў П.Броўкі, М.Гарэцкага, Я.Купалы, А.Куляшова, Я.Коласа паказвае, што ў працэсе працы ў тэкстолага назапашваецца шмат матэрыялу, які не заўсёды ўдаецца выкарыстаць у выданні, але які змяшчае ў сабе цікавыя звесткі, значна ўзбагачае творчы партрэт пісьменніка. Напрыклад, у час працы над "Летапісам жыцця і творчасці А.Куляшова" ў сямейным архіве аўтара давялося натрапіць на ліст Веры Уладзіміраўны Філімонавай, дзе адрасант пісала наступнае:

*"Уважаемый Аркадий Александрович!*

*Обращается к Вам жена полковника в отставке*

*Филимонова Аркадия Михайловича.*

*10 лет тому назад [ліст быў напісаны напярэдадні 30-годдзя з Дня Перамогі. — **Т.Г.**] мы узнали, что в одной из передач "Подвиг" С.С.Смирнов прочитал, заметку и Ваше стихотворение "Разгром", посвященное моему мужу. Недавно мне удалось найти и скопировать в библиотеке им.В.И.-Ленина эту газету... Дело в том, что мне хотелось бы сделать мужу подарок ко Дню Победы. Дорогой Аркадий Александрович! Если Вы окажете любезность и напишете какое-либо пожелание на этой копии, к сожалению в продаже нет Ваших книг, для нас это будет большим подарком.*

*И ещё, извините, пожалуйста, за такую просьбу: т.к. муж еще ничего не знает (ни о том, что я нашла копию и ни о том, что я пишу Вам) прошу написать мне на адрес сестры."*

**Ніжэй дадзены адрас сястры.**

Прачытанае выклікала жаданне больш падрабязна даведацца аб геройскім учынку Філімонава, як аднёсся А.Куляшоў да такой неардынарнай просьбы Веры Уладзіміраўны, дзе ўпершыню апублікаваны верш. Адказ на пытанні быў знойдзены толькі пасля вялікіх намаганняў. Ад сямейнага архіва А.Куляшова шляхі пошуку вялі да сховішчаў розных дзяржаўных устаноў. Шмат у чым дапамаглі перыядычныя выданні ваенных і пасляваенных гадоў, дзе сярод шматлікіх матэрыялаў друкаваліся творы Аркадзя Аляксандравіча, успаміны яго франтавых сяброў. Дзякуючы ўспамінам У.Фарберава — рэдактара ваеннай газеты "Знамя Советов", у якой працаваў А.Куляшоў, — стала вядома наступнае: *"у жніўні 1941 года, усе часці 11-ай дзеючай арміі Паўночна-Заходняга фронту абляцела вестка аб мужнасці 3-га знішчальнага супрацьтанкавага дывізіёна 396-га артылерыйскага палка, які займаў вялізныя пазіцыі каля вёскі Белы Бор, крыху на поўдзень ад станцыі Лычкова. Задача разліку заключалася ў тым, каб не прапусціць у глыбіню нашай абароны фашысцкія танкі.*

Вораг імкнуўся на ўсход. Перавага ў сілах была на баку працiўніка. Нягледзячы на гэта, нашы воіны некалькі дзён запар упарта адбівалі адну за другой варожыя атакі. Аднак сілы салдат слаблі, і фашысты, прарваўшы абарону, пачалі акружаць байцоў. І тут старшым лейтэнантам Філімонавым, які ўзначальваў разлік і камандаваў агнём, а таксама салдатамі, якія засталіся ў жывых, каб сумленна і да канца выканаць свой свяшчэнны абавязак, было прынята рашэнне — выклікаць агонь дывізіёна на сябе. Ніхто са смельчакоў не разлічваў застацца ў жывых. А немцы, не чакаючы такога ўдару, разгубіліся і падаліся назад. У гэты час падаспела наша пяхота і танкі перайшлі ў контрнаступленне. Да канца дня адважныя воіны вызвалілі вёску Белы Бор і захапілі ў палон групу фашыстаў."

Такім чынам высветлілася, што верш "Разгром" быў напісаны А.Куляшовым на канкрэтным жыццёвым матэрыяле і прысвечаны лейтэнанту Філімонаву і яго разліку. Твор упершыню надрукаваны ў газеце "Знамя Советов" 17 верасня 1941 года. Заканчваецца ён так:

***Враг далеко. Но из его орудий***
***Ему вдогонку смерть ребята шлют.***
***И все они — вчера простые люди***
***Их всех героями сегодня чтут.***

Даведацца, ці адгукнуўся А.Куляшоў на просьбу Веры Уладзіміраўны, можна было толькі з лістоў. Але ці існаваў адказ наогул? Як яго выявіць сярод шматлікай колькасці не сістэматызаванай карэспандэнцыі, што захоўвалася ў сям'і паэта? Некалькі месяцаў карпатлівай працы паказалі, што лістоў з рознага характару просьбамі да А.Куляшова вельмі шмат. Яго прасілі напісаць артыкул або верш для часопіса ці газеты, даць параду пачынаючым творцам, прыслаць кнігу з аўтографам. Апошняе было выклікана рознымі прычынамі: цікавасцю да паэзіі А.Куляшова, зборам калекцыі аўтографаў, адсутнасцю пэўнага выдання ў магазіне, стратай кніжкі настаўніцы і г.д. Ёсць і такі ліст, дзе Аркадзя Аляксандравіча проста просяць прыслаць грошай. Многія звярталіся па дапамогу да яго як да дэпутата.

Інтуіцыя падказвала, што былы салдат-франтавік не мог пакінуць просьбу Веры Уладзіміраўны без увагі. І сапраўды, прадчуванне не падвяло. Пошукавая праца дала плён: была выяўлена паштоўка, у якой Вера Філімонава віншавала Аркадзя Аляксандравіча са святам Перамогі і дзякавала за падарунак (У склад падарунка, як высветлілася пазней, уваходзіла таксама адна з кніг А.Куляшова з аўтографам).

На першы погляд, здавалася б, зусім нязначны факт у жыццёвай і творчай біяграфіі народнага паэта Беларусі. Аднак гэта не так, бо ён у дадатак да таго, што мы ведаем пра А.Куляшова як таленавітага творцу, гаворыць пра яго яшчэ і як пра высакароднага чалавека, уважлівага, чулага, вернага салдацкай дружбе, удзячнага тым, хто мужна абараняў родную зямлю ад фашызму.

Праца ў архіўных фондах патрабуе ад тэкстолага ўседлівасці, цярпення, настойлівасці. Даволі часта жаданы вынік прыходзіць не адразу. Часам выяўлены аўтограф пісьменніка (ці які-небудзь дакумент) не дае гатовага адказу на тое ці іншае пытанне, а з'яўляецца толькі падказкай для роздуму, пэўных меркаванняў. Так, напрыклад, у архіве М.Гарэцкага, што захоўваецца ў фондзе Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі (ф-7), ёсць перапісаны рукой пісьменніка тэкст раманса М.Лістова "Я помню вальса звук прелестный". Безумоўна, вопытны тэкстолаг не абміне гэтую знаходку і абавязкова пастараецца знайсці тлумачэнне: навошта М.Гарэцкаму спатрэбілася запісаць тэкст раманса? Перш за ўсё можна дапусціць, што раманс яму падабаўся і, паколькі пісьменнік меў добры музыкальны слых, іграў на балалайцы, дудцы, гармоніку, любіў спяваць, то тэкст яму неабходны быў для асабістага карыстання. Але, калі ўзнятае пытанне паставіць у звязку з перакладчыцкай дзейнасцю пісьменніка, то напрошваецца іншае меркаванне.

Як вядома, 4 сакавіка 1920 года на старонках газеты "Беларусь" М.Гарэцкім змешчана падборка "перапрацовак і вольных перакладаў песеннага матэрыялу для пяяння па-беларуску" на словы Э.Губера, М.Андрэева, А.Пляшчэева, А.Фета, Бенардакі, К.Аленіка і інш. У якасці прыкладу прывядзём зроблены М.Гарэцкім пераклад неапалітанскай песні на словы Дж.Капурра (М.Гарэцкаму яна была вядома як народная) і музыку Э.Капуа "Маё сонейка":

***Як ясна свеціць после буры сонца!***
***Чароўна каса ўсё ажыўляе,***
***Да новага жыцця травіцу рушыць.***
***Як ясна свеціць после буры сонца!***

***Як дзіўна свеціць сонца на заходзе,***
***Святлом чырвоным ўсё, ўсё заліваe***
***шле вітанне нам, нас пакідае...***
***Як дзіўна свеціць сонца на заходзе!***
***Як знаю сонца святлей яшчэ!***
***Ты, дарагая, сонейка маё!***
***Адна, ах, дарагая, сонейка,***
***Ты — сонейка маё!***

Апублікаваныя М.Гарэцкім пераклады песень у газеце "Беларусь", як і зробленая ім апрацоўка многіх беларускіх народных песень, даюць права на існаванне версіі, што і тэкст рамансa "Я помню вальса звук прелестный" быў таксама перакладзены М.Гарэцкім. Аднак сам пераклад пакуль не адшуканы. Сказанае вышэй, думаецца, цікава не толькі для даследчыкаў творчасці М.Гарэцкага, але і для знаўцаў музычнай культуры таксама.

Узаемасувязь тэкстолагаў з роднымі і блізкімі пісьменнікаў, творчая спадчына якіх выдавалася ці рыхтуецца да выдання, можа быць тэмай асобнай гаворкі і закранаць самыя розныя аспекты. Хацелася б засяродзіць увагу толькі на адным з іх: той канкрэтнай дапамозе, без якой тэкстолаг не заўсёды здольны самастойна пракаментаваць адпаведны тэкст ці ўдакладніць пэўныя звесткі.

Пры падрыхтоўцы чатырохтомнага Збору твораў М.Гарэцкага, напрыклад, і двух дадатковых яго тамоў, даволі часта прыходзілася звяртацца па тлумачэнні да Галіны Максімаўны (дачкі пісьменніка) і Гаўрыла Іванавіча (брата). Г.Гарэцкая і зараз не перапыняе супрацоўніцтва з тэкстолагамі, заўсёды ахвотна адказвае на пастаўленыя ёй пытанні. Аднойчы ў фондзе І.Шутовіча давялося натрапіць на здымак М.Гарэцкага з дарчым надпісам: *"Паважанай і дарагой "Зорухне", пані Алёне, на добрую памяць, у прысутнасці жонкі пішу. 23/I-1921 г. Вільня. Максім Гарэцкі"*.



Зразумець змест напісанага дапамагла, безумоўна, Галіна Максімаўна. Яна даслала ліст, з якога стала вядома, што Алёна Кірылаўна Сакалова-Лекант (дзявочае прозвішча Залеўская) працавала разам з Леанілай Чарняўскай-Гарэцкай у пачатковых класах 1-й Віленскай Беларускай гімназіі, была хроснай маці Лёні Гарэцкага. І яшчэ яна расказала пра цяжкі лёс гэтай жанчыны, чым пашырыла нашы ўяўленні пра людзей, што ў свой час мелі цесныя стасункі з М.Гарэцкім і яго сям'ёй (Зараз гэты матэрыял апублікаваны Г.Гарэцкай у газеце "Голас Радзімы", 2001, 11 красавіка). Яшчэ можна прывесці шмат прыкладаў цеснага супрацоўніцтва з жонкай і дачкой А.Куляшова, сынам П.Броўкі, роднымі Я.Купалы, Я.Коласа і г.д.

Кожнаму з тэкстолагаў ёсць пра што расказаць. Бо вынік іх карпатлівай працы — выхад пэўнага выдання — падобны на айсберг, значная частка якога застаецца нябачнай, яле з'яўляецца трывалай асновай, каб яго надводная паверхня была дасканалай, глыбока змястоўнай, па-сапраўднаму навуковай.

**ТэрэзаГОЛУБ**

## “Роднае слова”, № 4

Артыкулы галоўнага рэдактара “Роднага слова” М. Шаваркіна “Літаратура — павучальныя праграмы — асоба” і В. Ляшук “Вывучэнне беларускай літаратуры метадам Дальтан-плана ў 20-я гады XX стагоддзя” прадстаўлены ў раздзеле “Школа і нацыянальнае Адраджэнне”. М. Тычына аналізуе працэсы, што адбываліся ў беларускай літаратуры XX стагоддзя (“На павароце”). Змешчаны артыкулы Л. Тарасюк “Імпрэсіянізм у беларускай літаратуры”, Т. Федарцовай “Трыялет у сучаснай беларускай літаратуры”, У. Конана “Арфічныя матывы і хрысціянскія архетыпы ў паэзіі Францішка Багушэвіча”, В. Максімовіча “Умоўна-рэалістычная тэндэнцыя і праблема духоўнага сінергізму ў паэзіі Францішка Багушэвіча”, заканчэнне артыкула А. Гурскай “Шчодрасць паэтавай асяніны”, у якім разглядаецца жыццё і творчасць А. Зарыцкага. “РС” працягвае знаёміць з анталогіяй старабеларускай літаратуры. І. Саверчанка прадстаўляе М. Сматрыцкага. Друкуецца тэкст “Казання на пахаванне Лявонція Карповіча”, а З. Паўлавец (“Рупнасцю “мнагагрэшнага мніха Мялеція”) разглядае “Граматыку...” М. Сматрыцкага. Пра функцыянаванне юрыдычных тэрмінаў разважае Т. Салаянчык (“Прафесійны ці прафесіянальны?”). Індывідуальна-аўтарскія наватворы ў тэкстах сяброў Таварыства вольных літаратараў у цэнтры ўвагі Л. Сом (“Цьмяніць ліхтыр...”). Пазаслоўнікавую лексіку беларускай мовы аналізуе А. Каўрус (“Словы без прапіскі”). Чытача зацікавяць і матэрыялы “Літаратурныя ўзаемасувязі: заканамернасці і характар развіцця” Г. Адамовіч, “Слова як аснова лексічнай сістэмы” В. Краснея, “От быў чалавек...” (асоба Ф. Багушэвіча вачыма сучаснікаў і нашчадкаў) У. Содаля, “Русіны — чацвёрты ўсходнеславянскі народ?” М. Новіка, “РС” прадстаўляе разам з мастацкім кіраўніком ансамбля “Бяседа” Л. Захлеўным спявачку А. Макараву і змяшчае песні з яе рэпертуару. “Вялікі знаўца Палесся, чалавек-энцыклапедыя” — слова Л. Салавей пра этнографа Ч. Пяткевіча. Ёсць магчымасць пазнаёміцца з яго даследаваннем “Вялікдзень на Беларусі”. І. Чыгрын (“Яшчэ адзін вырай з нашых слоў”) праводзіць узоры лексікі вёскі Чамяры Слонімскага раёна. М. Ермаловічу споўнілася б 80 гадоў. Пра выдатнага пісьменніка-гісторыка прамаўляюць У. Крукоўскі і Г. Далідовіч, а Г. Бураўкін прапанаваў падборку вершаў, напісаных М. Ермаловічам у 1960—1970 гадах (“Табе патрэбна воля”).

## “Беларускі гістарычны часопіс”, № 2

Нумар адкрываецца артыкулам У. Сідарцова “Сучасныя метадалагічныя праблемы гістарычнага пазнання”. Апублікаваны матэрыялы М. Мчэдлідзе “Угліцкая справа”, А. Курылы “Ідэі Французскай рэвалюцыі: паміж гісторыяй і палітыкай”, В. Пілецкага “Падабенства і адрозненне ў школьнай адукацыі Беларусі і Францыі падчас Французскай рэвалюцыі”. В. Ляйко “Адлюстраванне імперскага мыслення ў брытанскай сацыялістычнай ідэалогіі”, І. Святліцкага “Заработная плата ў святле гістарычнай практыкі”, В. Каранеўскай “Умовы развіцця беларускага перыядычнага друку ў міжваеннай Польшчы (1921—1939 гг.)”, Р. Платонава “Пад пятой германскага кайзера”, В. Грыгор'евай, А. Філатавай “Пратэстанцкая царква ў Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XX стст.”, С. Ішчанкі, Д. Марухінай “Дрыкганты Уладзіміра Караткевіча і верхавыя коні Рэчы Паспалітай”, А. Рогалева “Паходжанне назвы горада Ігумен”, М. Белямука “Пячатка Усяслава Чарадзея”, В. Кушнера “Стваральнік беларускай школы гісторыі дзяржавы і права” (да 80-годдзя І. Юхо), В. Кушнера, І. Канапацкага, В. Лукіна “Са шляхетнага роду Ясінскіх” (да 50-годдзя А. Лютага) і іншыя.

# Шлях пераадолення страху

Галіна ТЫЧКА

З'ЯЎЛЕННЕ Юрыя Станкевіча ў беларускай літаратуры было наколькі нечаканым, настолькі і заканамерным. Нават сёння, калі яго імя і ягоныя творы на слыху: друкуюцца, і што найважней, чытаюцца, — адносіны да пісьменніка і яго творчай практыкі — неадназначныя. Адны захапляюцца ледзьве не кожным новым радком, што выходзіць з-пад пяра Ю. Станкевіча, іншыя ж наадварот — не хаваюць іранічна-скептычнай усмешкі. Гэта назіраецца нават у адносінах да найбольш значнага на сёння твора пісьменнік — рамана “Любіць ноч — права пацукоў”.

У чым карані такіх супроцьлеглых падыходаў? Можа быць, у сферы нармальнага творчага саперніцтва, а можа, — у кансерватыўнасці нашай мастацкай свядомасці, фармаванай на працягу дзесяцігоддзяў на аснове традыцыйных эстэтычных стэрэатыпаў.

Паводле сваіх творчых памкненняў, Ю. Станкевіч належыць да мала распаўсюджанага ў нашай айчыннай літаратуры тыпу мастакоў, якія дзеля самабытнага мастацкага выяўлення выбіраюць цяжкі і няўдзячны шлях пошуку, пракладвання новых нязведаных яшчэ накірункаў эстэтычнага засваення навакольнага свету. У гэткім разе заўсёды існуе пагроза памылак і паражэнняў. І нават настойлівая праца на працягу дзесяцігоддзяў не заўсёды здольная прывесці да пажаданых вынікаў. У рэчышчы засвоенай мастацкай традыцыі працаваць заўсёды прасцей. Пры пэўных прыродных здольнасцях, не так ужо і складана абнаўляць на адпаведным прафесійным узроўні распрацаваныя жанры, застаючыся ў межах дасягнутых папярэднікамі светапоглядных арыенціраў.

Юры Станкевіч выбраў іншы шлях. І яго першым, можа быць, і не цалкам свядомым крокам сталася разбурэнне дакладна вызначанай у літаратуразнаўстве, і адпаведна ў мастацкай свядомасці чытача, мяжы паміж рознымі відавымі формамі літаратуры.Калі нават размыванне межаў паміж паэзіяй і прозай, паэзіяй і драматургіяй, размыванне, амаль афіцыйна замацаванае ў літаратуры нашага часу, успрымаецца ўсё ж скоса, то што казаць пра паяднанне рэалістычнай прозы з фантастыкай і містыкай, псіхалагічнай аповесці з жанрам масавай поп-культуры — дэтэктыву? Тым не менш Ю. Станкевіч рызыкнуў зрабіць спалучэнне такіх розных элементаў. І што адразу зазначаеш — гэта не пайшло на шкоду яго светапогляднай канцэпцыі даследавання беларускай самасвядомасці.

Як вядома, вялізная папулярнасць рознага кшталту бульварных раманаў дасягаецца коштам займальнага сюжэта, нетрадыцыйных драматычна-трагічных абставін і такога ж нетрадыцыйнага містычна-казачнага, праўда, палегчанага вырашэння праблем.

А што мы маем у дадзеным выпадку?

Зразумела, Ю.Станкевіч далёка не першы пісьменнік у сусветнай і нават у беларускай літаратуры, хто імкнецца ў імя высакароднай мэты выкарыстаць згаданыя якасці займальнай літаратуры. Гісторыя сусветнага мастацтва ведае псіхалагічныя дэтэктывы Ф. Дастаеўскага, містычныя навелы Э. По, нашыя ж чытачы добра памятаюць “Лабірынты” В. Ластоўскага, “Дзве душы” М. Гарэцкага, яго містычныя апавяданні “ Роднае карэнне”, “Што яно?”, подступы да незвычайнай нетрадыцыйнай прозы ў рамане “Млечны шлях” Кузьмы Чорнага.

Нават форма ўнутранага маналога з поўнай адсутнасцю знакаў прыпынку ў канцы сказаў, што так раздражняе прыхільнікаў традыцыйнага мастацтва, у рамане “Любіць ноч — права пацукоў” зусім не адкрыццё самога Ю.Станкевіча. Усё гэта ўжо было, так альбо інакш, у сусветнай ці айчыннай мастацкай практыцы.

Але затое там не было і не магло быць іншага. Той адметнай канцэпцыі беларускай нацыянальнай ідэі, беларускага шляху ў тым выяўленні, якія яны набылі напрыканцы II на пачатку III тысячагоддзяў, і ў той інтэрпрэтацыі, што прапануецца пісьменнікам...

Займальнасць сюжэта, нязвыкласць тэматыкі, стылёвыя эксперыменты паслядоўна і арганічна скіраваныя менавіта ў гэтым філасофска-канцэптуальным накірунку — на выяўленне жыццёва важных, быційных праблем беларускага грамадства, беларускага этнасу. Пастаноўка філасофска-адцягненых, “вечных” пытанняў у даступнай для масавай свядомасці форме якраз і дае свой эстэтычны плён.

Большасць твораў, якія склалі новую кнігу пісьменніка, — напісаны на працягу апошняга дзесяцігоддзя і зўяўляюцца своеасаблівымі подступамі да рамана “Любіць ноч — права пацукоў” (1998), дзе найбольш выразна і арганічна выявілася аўтарская канцэпцыя “беларускага шляху”...

Возьмем, напрыклад, аповесць “Прузі”. Сюжэт твора, як гэта звычайна бывае ў Станкевіча, насычаны таямнічымі загадкавымі здарэннямі, непрадказальнымі сітуацыямі. Героі тут нават нетыповыя, аднак яны жывуць і дзейнічаюць у цалкам рэальнай будзённай атмасферы беларускай правінцыі. Фабула твора разгортваецца імкліва. Непадалёк ад звычайнай беларускай вёскі плыў па рацэ кацер і перавярнуўся, са сталіцы прысылаюць эколага-вадалаза Германа Ліневіча, які павінен адшукаць ў рацэ сумку, што згінула ў выніку аварыі. Што знаходзіцца ў гэтай сумцы да пары да часу не ведаюць ні герой, ні чытачы. Таямніцы, аднак, з гэтым толькі пачынаюцца. У вёсцы герой знаёміцца з мясцовым настаўнікам Мазурам — былым сталічным інжынерам, які, баючыся старасці і хвароб, хоча, каб хтосьці дапамог яму пакінуць гэты свет, бо як веруючы чалавек не можа ўчыніць самагубства. Атмасфера невядомасці і небяспекі запаноўвае ў творы з першых старонак. Рэальныя і ірэальныя сілы задзейнічаны ў яе нагнятанні. Гэта і нашэсце саранчы, што прадвяшчае экалагічную катастрофу, і таямнічая смерць Мазура, і шпегаванне за пошукамі Ліневіча, якое вядуць нібыта канкрэтныя зямныя асобы, але за імі тым не менш “стаіць Ён”, той, хто “з'яўляецца пад заслону” і супроцьстаіць вышэйшай Боскай сіле.

Постаць настаўніка Мазура выразна сімвалічная. У яго вусны ўкладвае аўтар свой роздум над праблемамі сучаснага жыцця, вытлумачэнне іх і магчымыя варыянты вырашэння. Мазур пераканаы,” што ў свеце існуюць сілы, якія накіраваны на тое, каб перасекчы нашы сувязі з Небам”, праявай гэтых сіл ён лічыць “паморкі, нашэсці, паводкі, пажары, землятрусы і смерчы”, далучаючы сюды і чарнобыльскую трагедыю. Лёс Беларусі і яе народа, паводле канцэпцыі героя, прадвызначаны, яна асуджана на выміранне, “бо на зямлі , дзе нават мовай сваёй пагарджаюць” свядомы, нармальны чалавек не можа жыць. Для сябе асабіста герой выбірае смерць, але тым, хто застаецца, — перш за ўсё Ліневічу і ўласнай дачцэ з сімвалічным імем Надзея, наказвае, каб яны “не адхіляліся ад Шляху”.

“Не абмяжоўвайце шлях сабе не ведайце ні схільнасці ні шчасця ні пагарды...”, — гэтая перадсмяротная запіска героя, як і ягоныя развагі пра “Боскую ідэю разумнага жыцця ў Сусвеце”, пра “папярэджанне, якое пасылае Ён у выглядзе шкоднікаў, катастроф, хвароб і землятрусаў”, даволі цьмяныя паводле свайго сэнсу, але разам з тым і шматзначныя. Яны могуць тлумачыцца як заўгодна, выклікаючы і ўзвышана-абстрагаваныя алюзіі адносна лёсу чалавека і Чалавецтва, беларуса і Беларусі, і з'едліва- іранічную недаверлівую ўсмешку.

Праўда, скептыкаў можна адаслаць да сенсацыйнай публікацыі расійскай газеты “Труд”, надрукаванай у 2001 годзе, на некалькі гадоў пазней з'яўлення твора Ю. Станкевіча. “Тверда ли твердь планеты” — пад такім загалоўкам выданне змясціла інтэрвію кіраўніка Цэнтра інструментальных назіранняў за навакольным асяроддзем і прагнозу геафізічных працэсаў, кандыдата геолага-мінералагічных навук Ігара Яніцкага. Нагодай для публікацыі стаў дакумент пад інтрыгуючым падзагалоўкам “Метадалогія сумоўя з Богам”, накіраваны Цэнтрам вышэйшаму кіраўніцтву расійскай дзяржавы. Сутнасць дакумента заключаецца ў тым, што “фізікі прыйшлі да доказаў існавання Бога, гэта значыць Абсалютнага розуму, паводле задумы якога ўладкаваны свет”. Галоўны высока-духоўны аспект апошніх адкрыццяў фізікаў у тым, што “ калі ў двухтысячагадовую “мінусовую” фазу быцця, якая зараз заканчваецца, чалавек мог так-сяк жыць з якасцямі, што супярэчылі гармоніі Космасу, то да апагею перыяду, што надыдзе, дойдуць толькі індывіды і грамадствы, якія “ачысціліся”. Выснова, якую робяць вучоныя, дзіўным чынам супадае з канцэпцыяй беларускага пісьменніка :” Цывілізацыя, што заснавана на заганным антрапацэнтрызме (які пакуль пераважае) не можа супроцьстаяць комплексу “фактараў помсты (возмездия)”. Актыўным спосабам абароны можа служыць толькі змяненне, “акультурванне” светапогляду з антрапацэнтрычнага на зыходнае — касмічнае”.Да “фактараў помсты” адносяцца між іншым і тыя прыродныя і надпрыродныя сілы зла, якія так ці інакш прыгаданы ў аповесці Ю. Станкевіча.

Характэрна, што пісьменнік свае гіпотэзы будуе не на абстрактным, а на рэальным матэрыяле беларускай рэчаіснасці, актыўна выкарыстоўваючы замацаваныя ў нацыянальнай самасвядомасці архетыпы. Такім спрадвечна-традыцыйным для беларускай ментальнасці выступае архетып шляху (згадаем ідэю “беларускага шляху”, культываваную беларускімі адраджэнцамі). Гэты архетып пісьменнікам заакцэнтаваны ў згаданым творы (і ў пазнейшых таксама) вельмі дакладна. Канешне ж, гаворка ў “Прузі” ідзе найперш пра беларускі шлях, пра далейшы лёс беларусаў як этнасу ў гістарычна часавай прасторы XXI стагоддзя.

Вобраз настаўніка Мазура з яго філасофіяй прадвызначанай асуджанасці беларускага этнасу — свядомая аўтарская палеміка з традыцыйным тыпам нацыянальнага беларускага героя, як пасіўнай ахвяры вышэйшых непадуладных яму сілаў зла. Прымусіўшы свайго настаўніка Мазура, беларуса старэйшага пакалення, сысці са Шляху, памерці паводле як сваёй, так і нейчай іншай волі — аўтар падкрэслівае гэтым, што такая дарога, дарога філасофскіх рэфлексій і пасіўнага чакання — тупіковая. Герой павінен вызваліць Шлях для іншых, якія менш рэфлексуюць, а больш дзейнічаюць, не баючыся, шукаюць выйсця з самых складаных сітуацый. Такім чалавекам выступае ў аповесці Герман Ліневіч, і акурат яму Мазур перад смерцю наказвае трымацца Шляху.

Гісторыкі і філосафы, даследуючы вытокі беларускіх этналагічных праблем, падкрэсліваюць негатыўны вынік рэпрэсій, якія абрынуліся на нашую нескансалідаваную нацыю ў XX стагоддзі, выклікаўшы пачуццё страху, якое ўкаранілася ў свядомасці людзей ледзьве не на генетычным узроўні. Ды і ў мастацкай літаратуры апошніх гадоў выявіўся матыў прадвызначанай ахвярнасці, бессэнсоўнай і бясслаўнай гібелі герояў. (“Чырвоныя пятліцы” і “Ваўчыная яма” В. Быкава, “Смерць на парозе” В. Адамчыка, “Бацька” А. Кудраўца і інш.).

Зрэшты, пісьменнікі ў дадзеным выпадку толькі адлюстроўваюць аб'ектыўную рэальнасць, а яна дае больш чым дастаткова прыкладаў пасіўнага прыняцця зла...

Юры Станкевіч ідзе іншым шляхам, ён стварае сваю рэальнасць, адрозную ад сапраўднай толькі тым, што тут пераадольваюцца спрадвечныя беларускія пакорлівасць і страх, “Беларусі мужыцкай адвечнае гора” (М. Гарэцкі). Ён, са сваімі героямі, перакананыя, што “людзі, якія не ўмеюць не баяцца, не здольныя ні на што вартае”. Характэрнай у гэтым плане з'яўляецца яго аповесць пад вымоўнаю назвай “Збіральнік страху”(1996). Галоўны герой твора навуковец Марка Валынец, як і шмат хто ў наш час, мяркуе, што “народ, які дазволіў вынішчыць цэлае пакаленне,(... ) дасюль не можа пазбавіцца страху”. А каб дамагчыся незалежнасці, страх павінен быць пераадолены, таму Валынец праводзіць свае эксперыменты са страхам, якія ў святле апошніх дасягненняў навукі, рызыкоўна называць псеўданавуковымі. Сутнасць іх заключаецца ў тым, каб навучыцца кіраваць пачуццём страху, падпарадкоўваць яго інтэлекту і пераводзіць у іншыя якасці. Напісаная на аснове крымінальнага сюжэта, з адступленнямі ў галіну парапсіхалогіі, аповесць цікавая менавіта пастаноўкай праблемы страху.

Выразная схільнасць пісьменніка да нетрадыцыйных, неспазнаных і невытлумачальных ці мала вытлумачальных для сучаснай навукі з'яў светаўладкавання дае падставы меркаваць пра свядомую звышзадачу пісьменніка — пра яго паслядоўнае і мэтанакіраванае стварэнне вобраза новага дзейснага нацыянальнага героя, тыпу бясстрашнага героя змагара і пераможцы. Гэтыя намаганні зусім не выглядаюць абсурднымі ў святле навуковых даследаванняў уздзеяння мастацкага слова на фармаванне грамадскай псіхалогіі.

Якраз такога героя-змагара, героя-пераможцу і выводзіць Ю.Станкевіч у рамане “Любіць ноч — права пацукоў”. Гэта сталічны інтэлігент, канструктар-будаўнік Даніла Прусак, у прозвішчы якога аўтар, здаецца, свядома падкрэслівае балцкія карані этнагенезу беларусаў. Рашучы і смелы, як і колішнія далёкія продкі, Даніла Прусак прыязджае ў родны правінцыйны гарадок Янаўск, устрывожаны пісьмом сястры-настаўніцы Любы. У родным доме ён знаходзіць запалоханага і недагледжанага пляменніка, “што нарадзіўся з хваробай Даўна па той простай прычыне, што быў зачаты там, дзе дазіметры паказвалі больш як пятнаццаць кюры”, а ў хлеўчыку на мяжы ўласнай сядзібы і суседскага двара, дзе зараз жывуць чужыя наезджыя людзі, — забітую сястру. Падкупленая міліцыя не хоча шукаць забойцу і Даніла Прусак адзін ( бо тутэйшыя людзі, за выключэннем былога палітзэка Кнігі, баяцца яму дапамагаць) уступае ў няроўнае змаганне з чужынцамі, вінаватымі не толькі ў гібелі яго сястры, але і ў свядомым і мэтанакіраваным вынішчэнні мясцовых жыхароў шляхам маральнага разбэшчвання і наркаманіі.

Такім чынам, цёмныя містычныя сілы набываюць у творы зусім рэальнае аблічча — чужых, наезджых людзей, галоўная мэта якіх захапіць мясцовую тэрыторыю. Супроцьстаянне сваіх і чужынцаў, тутэйшых і прышлых, якія, выкарыстоўваючы раз'яднанасць, пасіўнасць і страх аўтахтонаў перад нахабствам і сілай, фізічна, духоўна і генетычна вынішчаюць іх — галоўны змест твора. (Зазначу ў дужках: праблема гэтая пазначылася ў беларускай літаратуры на пачатку мінулага стагоддзя, у трагікамедыі Янкі Купалы “Тутэйшыя”.(1922). Тут, згадаю, на сцэну выходзяць —прышлыя, чужынцы. Гэта заакцэнтавана ў самой назве твора —“Тутэйшыя”, якая сама па сабе выклікае алюзію нетутэйшых —прыхадняў, чужых. Вылучэнне гэтай праблемы адпавядала рэальнасці, бо якраз на пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя на Беларусь пачынаецца актыўнае, думаю не памылюся, калі ска-

*Юры Станкевіч. Любіць ноч — права пацукоў. — Мінск, “Маст.літ”., 2000.*

жу, — нашэсце чужынцаў, якое дасягае потым свайго апагею ў нашыя часы.

Раз'яднанасць, фрагментацыя, пасіўнасць нацыі, абыякавасць да свайго лёсу, якія так трывожылі ў свой час вялікіх беларускіх адраджэнцаў, знайшлі адлюстраванне ў рамане Ю. Станкевіча. Аднак, што характэрна, галоўную сваю ўвагу ён імкнецца скіраваць не на выкрыццё агульнавядомых заганаў нацыянальнага характару, а на тыя, хай сабе і нешматлікія стваральныя сілы, што яшчэ захаваліся ў здэградаваным грамадстве. Ён выводзіць галоўным героем ужо згаданага Данілу Прусака, які, рэалізуючы на практыцы біблейскую запаведзь:" Стукайце і вам адчыняць", змагаецца і перамагае. Істотна, што ў гэтым змаганні ў героя зўявіўся саюзнік, "стары з дзіўнаватым прозвішчам Кніга, які жыў у доме адзін,(...) ён быў жоўты і нездаровы з твару, не меў ніводнай валасіны на шышкаватым чэрапе,але ў вачах яго раз-пораз бліскала іскра паразумення, калі ён патлумачыў мужчыну, што сеў адразу пасля выйшаў чэрапе,але ... і цягнуў поўны "чырвонец", бо ў вайну пайшоў маладым яшчэ хлопцам у атрад самааховы, за што з прыходам бальшавікоў "атрымаў па рагах"...

Мастакоўская інтуіцыя не падвяла Станкевіча нават у выбары прозвішча. Кніга — з аднаго боку, тыпова беларускае і досыць распаўсюджанае прозвішча, а з другога, — яно падкрэслівае характэрную асаблівасць падобнага тыпу людзей, іхнюю адданасць кніжнай культуры, іхнюю глыбокую і непаказную эрудыцыю, якая ў правінцыйнай глушы робіцца для іх ледзьве не адзінай духоўнай ратавальніцай.

Зрэшты, сімволіка ў рамане Ю.Станкевіча (як і ў іншых яго творах), хоць і празрыстая, але зусім ненавязлівая, натуральная. Яна нібыта падказана самім жыццём, і надзвычай паспяхова працуе на рэалізацыю пісьменніцкай задумы. Да ліку творчай удачы аўтара адносіцца, безумоўна, вобраз хворага дзіцяці — даўнёнка Улі, рахманага, ціхага хлопчыка, які "размаўляе з птушкамі, пчоламі, восамі, чмялямі, трусом у клетцы..." Даўнёнак Уля — гэта ...ывал хворай спакутаванай паслячарнобыль...кай Беларусі, што здолела захаваць для будучыні найлепшыя рысы сваёй духоўнай самасці адно ў такім, набліжаным да першапрыроднага выглядзе.

Празрыстым і натуральным сімвалам выглядае і звыклы плот, што аддзяляе былую фралоўскую сядзібу ад саду Данілавай сястры. Чужынцы, невыпадкова атабарыўшыся ў доме былога расійскага вайскоўца, які таксама не мае каранёў на гэтай зямлі, пачынаюць сваё ўварванне ў чужое жыццё менавіта з разбурэння плота. І датуль, пакуль яны застаюцца суседзямі, усе намаганні Любы і яе брата Данілы аднавіць гэты плот, адгарадзіцца ім ад іхняга жыцця і іх саміх застаюцца марнымі.

Сімвалічнае значэнне ў сучаснай беларускай літаратуры набыло і слова "сцяна" — як знак непераадольнай перашкоды. (Згадаем быкаўскую "Сцяну" ці "Сцяну" С. Яновіча). Ю. Станкевіч таксама выкарыстоўвае ў сваім рамане гэты сімвал, але трактуе яго інакш. Яго Даніла Прусак, трапіўшы ў зняволенне, каб уратавацца, пачынае разбіраць турэмную сцяну,"часам не даючы сабе веры, што яго намер можа мець поспех, але ж у гэтым свеце, у ...тым краі ўсё можа быць, думаў ён, як можа ...быцца здзек, гвалт, здрада, нечаканае ўзвышэнне адных і падзенне іншых, беззаконне і напад тых, каго залічваюць у службі дўябла, а іх трэба асцерагацца найбольш і не пасаваць перад сцяной, якая б яна ні была (...), а сцяну трэба ці ўзмацняць, ці разгойдваць, бо сказана: пастукай — і табе не адкажуць, зноў пастукай — і табе не адчыняць, тады ўзламай перашкоду, і ты пабачыш, што за ёй пустата, а шлях свабодны..." Нацыянальная самасвядомасць звыклася з думкаю, што за сцяною будзе яшчэ адна сцяна, і таму свабодны шлях за сцяной — гэта цалкам новая для беларускай ментальнасці ўстаноўка, якая таксама, паводле аўтарскай задумы, можа даць свой добры плён.

Герой Ю. Станкевіча пераадольвае сваю сцяну, ён адваёўвае свой дом, сваю сядзібу, але не перамагае зло. Чужынцы проста перамяшчаюцца на іншую тэрыторыю, у сталіцу, дзе "зоймуць спачатку дом, які ўжо раней быў імі прыгледжаны, а потым і купляны, і як пацукі да раніцы ўладкуюцца ў ім, і ўсё пойдзе ў іх там, як і тут да сённяшняй ночы — толькі з большым імпэтам: пацягнуцца да іх у цэнтру таксі за "дур'ю" і "шмалем", пойдуць на вуліцы іх дзеці, але ўжо не дзеля таго, каб прыкідвацца жабракамі, а з пакецікамі парашку, які будуць у іх купляць на тых жа вуліцах напаўапантаныя недавяркі, зрушаныя на дурной модзе, шматлікія расчараваныя ў жыцці, розныя няўдачнікі і проста апушчэнцы дзе хворыя на замаскіраваны суіцыд, а да лаўкі перад брамай іх кубла пацягнуцца мясцовыя дзяўчаты і стануць манерна адстаўляць пальцы і хіхікаць юрліва

хе-хе-хе-хе

а потым зацяжараць і народзяць мяшанцаў, і гэта будзе працягвацца ва ўсё большых і большых памерах..."

І ўсё ж аўтарская канцэпцыя беларускага шляху і беларускае будучыні далёкая ад безвыходнага песімізму. Паняцце Радзімы, Бацькаўшчыны ў Ю. Станкевіча класічна канкрэтнае: гэта — твой дом, твая сядзіба, твая сямўя. Пераадолей страх, здолей уратаваць свой дом, сваю жанчыну, сваіх дзяцей — і тым уратуеш сваю нацыянальную самасць, уратуеш свой край.

# пошукі ісціны

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)

Якою ж будзе дзяўчына стагоддзя дваццаць першага?

## Нявестка

Свякруха вельмі не любіла адну сваю нявестку, колькі разоў падбівала сына развесціся з ёю. А жыццё павярнулася так, што іменна гэта нявестка даглядала свякруху ў старасці, а потым хадзіла на могілкі і прыбірала яе магілу.

## Сэрца

Яно прымае на сябе ўсе нашы пакуты, усю нашу бяду, яно баліць ад кожнага неасцярожнага дотыку, ад кожнага неасцярожнага слова. Але яно ўсё трывае і апошнім пакідае нас перад дарогаю, адкуль не вяртаюцца. Пакуль б'ецца сэрца — чалавек жывы, хоць ён, можа, і сам не разумее ўжо гэтага. Толькі з апошнім яго ўдарам пакідае чалавека жыццё. Ён жыве — пакуль б'ецца сэрца — далікатнае, кволае, ранімае і разам з тым трывучае, магутнае.

## Дзядуля

Выхавацелька ў садку пытаецца ў Наташкі:

—Ну, дзе ты была летам, як гуляла?

—Я была на дачы ў дзядулі, — адказвае Наташка.

—А хто твой дзядуля?

—Ён пісьменнік, але ён акучвае бульбу і ходзіць у вельмі брудных штанах.

## З першых вуснаў

—Пакуль жывы быў Сталін, то мы ў калгасе не мелі права рэзаць скаціну і пакідаць сабе мяса, усё здавалі дзяржаве. А калі Сталін памёр, то нам ужо дазволілі. І бацька зарэзаў цялушку, маці паклала мяса ў чыгунок і паставіла ў печку. Я па сённяшні чую пах таго мяса, яго смак.

## Расія

З якой тканіны саткана Расія, што тканіна гэта рвецца, распаўзаецца то тут, то там? Колькі ні спрабуюць залатаць, умацаваць, дагледзець — яна не паддаецца рамонту. Быдта нячыстая сіла лунае над абшарамі Расіі і колькі ні стараюцца яе перамагчы — яна мацнейшая за ўсіх цароў і прэзідэнтаў.

## Голад

На прылаўках, хоць і дарагія, але розныя кілбасы, вяндліна, сыры. Хлеб, хоць і дарагі, але ёсць у магазінах. А мне часам робіцца боязна — раптам усё гэта знікне і прылаўкі зноў ашчэрацца пустатою? Перажыўшы голад у час вайны, у пасляваенны час, баішся, каб тое зноў не вярнулася. І я разумею незабыўнага Юрыя Нікуліна, які, перажыўшы блакаду ў Ленінградзе, не мог трываць, калі дома канчаўся хлеб, бег купляць яго хоць сярод ночы.

## Дыялог

—Малады чалавек, на выгляд здаровы, і жабруеце

—А што больш сорамна, красці ці жабраваць? Я ў чужыя кішэні не лезу, мне людзі самі падаюць.

—Не вельмі, бачу, і падаюць, няма дурных.

—На мой век хопіць...

## Абыякавасць

Пра беларусаў кажуць — разважлівыя, талерантныя. А па-мойму, ніякая гэта не талерантнасць, а звычайная раўнадушша, абыякавасць. Наш народ у сваёй масе абыякавы да свайго ўласнага лёсу, да лёсу сваёй радзімы. Калі свядомыя беларусы хочуць нешта перайначыць у краіне, то натыкаюцца іменна на гэту абыякавасць. Не ведаю ніводнага народа на зямлі, які так абыякава ставіўся б да свайго.

## Вышэйшыя сілы

Мы часам дзівімся з паваротаў нашага лёсу, не разумеем, чаму сцежка нашага жыцця некуды збочыла альбо наогул завяла ў тупік. І як некалі першабытныя людзі прыпісвалі ўсё з'явы жыцця і прыроды багам, так і мы пачынаем верыць, што нашым жыццём кіруюць вышэйшыя сілы, пачынаем верыць ва ўсемагутнасць гэтых сіл, перад якімі мы зусім бездапаможныя.

## Кіно

Зіма — чорна-белае кіно. Лета — кіно каляровае.

## Пенсія

Мне павялічылі пенсію на пяць тысяч. Але ў дзесяць разоў павялічылі плату за камунальныя паслугі, у два разы — плату за электрычнасць, кожны дзень даражэюць прадукты. Так што нават тыя пяць тысяч узялі з маёй жа кішэні і пенсія ў мяне не павялічылася, а паменшылася.

## На прыпынку

На прыпынку тралейбуса сабралася трое мужчын-пенсіянераў. Тралейбуса доўга няма, і яны паспяваюць разгаварыцца. І вось галасы іх размовы:

—Ельцына, Шушкевіча і Краўчука трэба расстраляць — такую краіну развалілі!

—Шушкевіч помсціў за свайго бацьку!

—Пры Сталіне такога не было б!

—І гэтыя яўрэі — яны прыклалі рукі да развалу Саюза, яўрэі і Амерыка!

Пры размове высвятляецца, што ўсе трое камуністы і некалі займалі высокія пасады. І не ў галаве ім тром, што Саюз развалілі не Ельцын з Шушкевічам ды Краўчуком, а яны самі і такія камуністы, як яны, — сваёю тупою палітыкай, тупою ідэалогіяй, цемрашальствам і бескультур'ем.

## Здзек

Ідуць дружнаю грамадою маладыя дзяўчаты, маладыя хлопцы, прыгожыя, энергічныя, вясёлыя. І думаецца — гэта ж усе яны некалі будуць старыя, а потым, некалі, усе палягуць у зямлю. І робіцца крыўдна, што прырода ўтварыла такі здзек з чалавека.

## Белы туман

Глыбокая восень. Нават зіма, бо на вуліцы снежань, але тэмпература паветра вышэй нуля і над зямлёю вісіць белы туман.

На могілках ціха і пустынна, паблізу ніводнага чалавека. Магілы — дзе прыбраныя, дагледжаныя, з кветкамі, а дзе закінуты лісцем, відаць, даўно не бывала тут родная душа, а можа, усе яны ўжо — "там" і няма чаго ім рабіць на зямлі.

Я завіхаюся каля ўласнай магілы, так, уласнай, некалі і мяне тут пакладуць, на помніку мужа я напісала і сваё прозвішча.

І раптам у гэтых цішыні і бязлюддзі пачулася мяўканне. Аднекуль выйшла і падалася да мяне котка — рудая, тоўстая, можа, цяжарная. І поўсць на ёй была не гладкая і бліскучая, як звычайна ў катоў, а хутчэй нагадвала валасы даўно не мытага чалавека. Яна глядзела на мяне жоўтымі вачмі і патрабавальна мяўкала. Мяўкала не так, як коткі, што жывуць пад апекаю гаспадароў, і нават не так, як мяўкаюць бяздомныя коткі нашага двара — лісліва і жаласна. Котка на могілках мяўкала агрэсіўна, патрабавальна, выстаўляючы дробныя вострыя зубкі. У мяне не было чаго ёй даць, і колькі я ні тлумачыла ёй гэтага, яна не адыходзіла, а наступала. Яе мяўканне рабілася нават пагрозлівым, быдта ўсялілася ў яе нечая злосная душа і блукае тут, між магіл.

Котка доўга круцілася вакол мяне, а потым, мусіць, зразумеўшы, што чакаць тут няма чаго, пайшла сярод магіл, у белы туман, цяжка несучы сваё цела, шукаючы, мусібыць, іншую жывую душу, якая б ёй паспагадала.

Котка нагадала мне бамжа, які беспрытульна блукае па свеце.

## Хустка

Сорак сёмы год. Зіма марозная. А ў мяне, студэнткі філфака, толькі куртачка, падшытая ветрам, ды лёгкі берэцік, што тырчыць на макаўцы. Холадна. Але я і не дзіўлюся — на тое ж зіма, каб было холадна.

Выйшла неяк так, што падвечар у нашым інтэрнацкім пакоі не аказалася хлеба. І выйшла неяк так, што па хлеб выпала ісці мне. Апранула я сваю куртачку, начапіла берэцік, узяла ў рукі авоську. Адна мая каляжанка глянула на мяне і кажа:

—Гэта ты так пойдзеш? На дварэ мароз дваццаць градусаў!

—А што? — спыталася я, не разумеючы, чаго яна дзівіцца.

—Закруці хоць маю хустку!

Я закруціла тую хустку, выбегла на вуліцу. І божа мой, як жа мне зрабілася ўтульна ў гэтай хустцы! І падзівілася: аказваецца, і зімою, у моцны мароз можа быць цёпла!

## Унук

Гаворыць знаёмы мужчына:

—Я ў маладосці не баяўся смерці, лез усюды на злом галавы, прыходзілі нават думкі пра самагубства. А цяпер, на старасці, не хачу паміраць, бо як падумаю, што ўнук будзе плакаць...

## Унучка

Дзяўчынцы ў школе задаюць розныя заданні, і бабка ператрасае ўсе кнігі, шукаючы на тыя заданні адказу, звоніць знаёмым, каб дапамаглі тое заданне рашыць, бо ўнучцы, бачыце, "няма часу".

## Пахваліла

Папрасілі ў "ЛіМе" напісаць рэцэнзію на новую кнігу аднаго даволі вядомага празаіка. Напісала. Але не ведала, што пахваліць гэтага пісьменніка — азначала моцна ўзлаваць другога. Потым не ведала — адкуль каменні сыплюцца і завошта.

## Валюта

У час вайны ў Беларусі пра долары ніхто не чуў і ніхто іх не бачыў, асноўнаю валютаю было сала — за сала можна было купіць усё. Прыязджалі заходнікі і за кілаграм сала маглі купіць паліто ці швейную машынку.

А ў блакадным Ленінградзе асноўнаю валютаю была, мусібыць, пайка хлеба.

## Пяшчота, адзінота

Мая знаёмая на старасці гадоў засталася адзінокай, толькі з сабачкам Тузікам. І жаліцца, што сабачка нічога не дае ёй рабіць, круціцца пад нагамі, лашчыцца і да сябе патрабуе пяшчоты. То калі сабачку так патрэбна пяшчота — што казаць пра чалавека.

У маіх суседзяў сабака такса, і калі яны пакідаюць яе ў кватэры адну, яна жаласна скавыча і вые. То калі сабака так не любіць адзіноты — што казаць пра чалавека. Толькі жывёліна адкрыта выказвае свае пачуцці, як і дзіця, а дарослы чалавек — трывае.

## Яшчэ раз пра мыльныя оперы

Іх часам варта глядзець, каб пачуць хаця б такое:

—Ты што, пасварылася са сваёю нявесткаю?

—Мне дзевяноста гадоў, у такім узросце не сварацца, бо не ведаеш, ці хопіць часу памірыцца.

## Хто разумнейшы?

Той, хто прыдумаў легенду пра Хрыста і ўсю рэлігію, ці той, хто прыдумаў легенду пра камунізм? І ў тую, і ў тую шмат хто верыў, але першая жыве дасюль, а другая, па-мойму, лопнула, як мыльны пузыр. То хіба "тады" людзі былі разумнейшыя?

## Метамарфоза

Яна вельмі шмат працавала, была энергічная, заўсёды на людзях і здавалася прыгожаю і зусім маладою. Аднак калі, вельмі стомленая, яна садзілася ў крэсла, заставалася сама з сабою і расслаблялася, то вельмі мянялася, і было відаць, што не такая яна і прыгожая, і зусім не маладая жанчына.

## Адкрыццё

Кожнаму чалавеку ў маладосці здаецца, што жыццё, сусвет адкрывае толькі ён, толькі ён упершыню бачыць харастово неба і сонца, месяца і зор, толькі ён упершыню пазнае слодыч кахання. І першы крок свайго дзіцяці, першае яго-нае слова — гэтыя дзівосы — успрымае як адкрыццё, зробленае толькі ім. І толькі потым зразумее, што ўсе гэтыя пачуцці да яго перажывалі мільёны людзей і яшчэ будуць перажываць мільёны.

## Баланда

Трагікамедыя... Хабарнікі і махляры, якія маюць рахункі за мяжой у шмат мільёнаў долараў, якія маюць свае вілы і палацы, гадамі сядзяць у турмах і ядуць турэмную баланду.

## Чалавекі

Вадзіцель у трамваі абвяшчае прыпынкі па-беларуску і шмат каму прыемна чуць родную мову ва ўжытку. Але вось да вадзіцеля падскоквае пасажыр.

—Ты чего говоришь не по-человечески, может, я тебя не понимаю!

На погляд гэтага пасажыра, гаварыць "по-человечески" — гаварыць па-руску. І наогул чалавекі — толькі рускія, астатнія — хахлы, кацапы, касавокія, чучмекі, чарназадыя і гэтак далей.

## Зло

Зло твораць няшчасныя людзі. Шчаслівыя людзі зла не могуць тварыць.

ГАСЦЁЎНЯ

# Сябра парадоксаў



***Аркадзь ГУРСКІ — карыкатурыст. Нарадзіўся ў 54-ым, з 61-га жыве ў Мінску. Друкуецца ў газетах “Знамя юности”, “Литературная газета”, “Комсомольская правда”, “Известия”, часопісах “Вожык”, “Крокодил”, “Новое время”, “Магазин”, “Красная бурда”. Удзельнік выстаў карыкатур у Балгарыі, Бельгіі, Польшчы, Югаславіі, Італіі, Турцыі. Словам, чалавек ледзьве не сусветна вядомы. Праўда, вуліца Гурскага ў Мінску названа пакуль не ў яго гонар (Ілья Гурскі — даваенны рэдактар нашага тыднёвіка “Літаратура і мастацтва”). Але Аркадзь не крыўдуе. Тым больш што з “ЛіМам” яго звязвае вельмі многае.***

— Адзін з першых маіх малюнкаў, — расказвае ён, — быў надрукаваны менавіта ў “ЛіМе”, у 80-ым годзе...

**— А калі ўвогуле пачаў маляваць?**

— З шасці год. Мы тады ў Оршы жылі. Бацька гэтым крыху займаўся, ягоны брат таксама. Не прафесійна, а для душы. Пачаў штосьці крэмзаць і я. Знаёмы з дарослых неяк заўважыў — ухваліў. З гэтага моманту ўсё і распачалося.

**— Калі не памыляюся, Аркадзь, спецыяльнай адукацыі ў цябе няма?**

— Не памыляешся. У свой час закончыў Беларускі політэхнічны Інстытут па спецыяльнасці (ты не паверыш!) — рухавікі ўнутранага згарання. Тэхнар! Працаваў на трактарным. Адначасова і вельмі нясмела маляваў. Самахоць курсы пры Акадэміі мастацтваў наведваў. Паступова любімы занятак стаў асноўным і прафесійным. Так што чаго толькі ў жыцці не бывае! Але мне, перакананы, проста пашчасціла.

**— Мастак Алег Карповіч, даведаўшыся, што бяру ў цябе інтэрв'ю, зазначыў, што Гурскі на Беларусі — незапатрабаваны. Калі ласка, твае каментары.**

— Ну, не ведаю, што Алег меў на ўвазе. Мо тое, што я й па сёння не сябра Саюза мастакоў? Справа не жыццёва важная, але кожнаму творцу не пашкодзіла б прызнанне і на нейкім афіцыйна чынавенскім узроўні... На секцыі мастакоў, дзе абмяркоўвалася мая кандыдатура па прыёме ў саюз, мне катэгарычна зазначылі: “Ты ж не мастак, а журналіст!” Так, мая графіка ў большасці публіцыстычная. Але ўпэўнены, што публіцыстыка, даведзеная да адпаведнага мастацкага ўзроўню, не такі ўжо і вузкі, толькі газетны жанр. Аднак пакуль афіцыйна мастака Гурскага няма. Ну, ды не бяды! Ад гэтага менш ды горш маляваць я не стаў. Затое, калі ў рэдакцыі заходжу, адразу чую: “А вось і Гурскі прыйшоў!” Ведаюць і вераць!

**— Дарэчы, а з якой “прадукцыйнасцю” працуеш? Крызіс жанру не замінае?**

— Не. Ідэй процьма! Дзесьці 180 малюнкаў у год “на-гара” выдаю. А папярэдніх накідаў і эскізаў, якія ідуць у сметнік, — проста тоны!

**— У расійска-крыўскім слоўніку Ластоўскага пазначана, што карыкатура — гэта малюнак, які па змесце сваім выражае насмешку. Згодны?**

— Часткова. Мне цяжка вызначыць жанр, у якім працую. Гэта ні ў якім разе не палітычная сатыра. Не забаўляльны гумар з абавязковай падтэкстоўкай... Я вельмі люблю парадоксы. Шмат вакол сітуацый, прадметаў, іншых праяў чалавечага жыцця, на якія імкнуся глядзець не вачамі шараговага і занядбанага побытам абываццеля (ён — лайдак, і цікавяць яго збольшага толькі рэчы празаічныя і канкрэтныя), а вачамі чалавека, які не стамляецца здзіўляцца, для якога ў кожным руху — свая, няхай і прыхаваная, філасофія, у кожным прадмеце — свой, нябачны на першы погляд, характар і сэнс... Так што ў мяне хутчэй не карыкатуры атрымоўваюцца, а гэткая іранічная графіка з нейкімі парадыйнымі адценнямі. Сімбіёз высокага з заземленым. І нікога тут я не высмейваю. Не, сапраўды так. Фіксую на паперы нечаканыя, а таму парадаксальныя сітуацыі. Адну са сваіх выстаў назваў па гэтай прычыне таксама іранічна: “Граафіка”.

**— Дацкі мастак Бідструп казаў: “Маляваць карыкатуру цяжка. Тут не дапамогуць ні лінейка, ні вугольнік...” Што дапамагае табе?**

— Вельмі люблю Бідструпа. Цудоўны майстар адлюстравання жыццёвых, бытавых камічных сітуацый... Што мне дапамагае? Напэўна, тое, што вельмі люблю маляваць. Іншым разам проста жыву гэтым. Калі працую, мэта мяне не надта цікавіць. Усё ў падсвядомасці. Усё робіцца не дзеля канчатковага выніку, а дзеля самога працэсу. Вельмі падабаецца постмадэрнісцкая літаратура. Пісьменнікі гуляюць у словы, я ж адначасова думаю і забаўляюся з дапамогай тушы. Чорным па белым — гэта заўжды канкрэтна і выразна... Іншым разам мне нават здаецца, што сапраўднае жыццё менавіта на маіх графічных аркушах, а не навокал, у так званай рэальнасці, дзе, апрача абсурду, зашмальцаваных думак і заштампаваных учынкаў, проста нічога няма. Вось і існую ў гэтым сваім “рэальным” графічным жыцці. І на пытанні “Слухай, дзядзька, а што ты гэтым творам хацеў сказаць?” прынцыпова не адказваю. Бо іншым разам проста не ведаю, што адказаць (смяецца).

**— Як думаеш, каму па душы твае малюнкі?**

— Відаць, людзям, якія маюць адвагу думаць, якія па прафесіі сваёй таксама звязаныя з творчасцю. Думаю, аднадумцаў вакол шмат. Прынамсі, вельмі б хацелася ў гэта верыць...

**Гутарыў**
**Яўген РАГІН**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД “ЛіМа”

## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

**аб'яўляе прыём студэнтаў у 2001 годзе**

У Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі для атрымання бясплатнай вышэйшай адукацыі (калі яна атрымліваецца ўпершыню) прымаюцца на падставе сярэдняй адукацыі і на конкурснай аснове грамадзяне Рэспублікі Беларусь і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Таджыкістан, а таксама асобы, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь або маюць статус бежанца.

Абітурыенты, якія станоўча здалі ўступныя экзамены, але не прайшлі па конкурсе на планавыя месцы, грамадзяне іншых (акрамя пералічаных) дзяржаў СНД, якія станоўча здалі ўступныя экзамены, могуць быць залічаны ў акадэмію па кантракце на ўмовах поўнай кампенсацыі выдаткаў на навучанне ў межах колькасці месцаў для платнага навучання, вызначаных прыёмнай камісіяй па кожнай спецыяльнасці і спецыялізацыі. Калі колькасць заяў на платнае навучанне перавышае колькасць выдзеленых месцаў, паміж абітурыентамі праводзіцца конкурс па выніках уступных экзаменаў.

Прыём ажыццяўляецца па спецыяльнасцях “Музыказнаўства” (спецыялізацыі музыказнаўства; музычная беларусістыка); “Кампазіцыя”: “Дырыжыраванне” (спецыялізацыі харавое дырыжыраванне, оперна-сімфанічнае дырыжыраванне); “Інструментальнае выканальніцтва” (спецыялізацыі фартэпіяна, скрыпка, альт, віяланчэль, кантрабас, арфа, флейта, габой, кларнет, фагот, саксафон, труба, валторна, трамбон, туба, ударныя інструменты, баян-акардэон, цымбалы, домра, балалайка, гітара); “Спевы” (спецыялізацыя акадэмічныя спевы).

Абітурыенты здаюць наступныя экзамены: спецыяльнасць; беларуская або руская (па выбары) мова і літаратура (пісьмовы пераказ).

Экзамен па спецыяльнасці складаецца з раздзелаў, кожны з якіх ацэньваецца асобнай адзнакай: выкананне праграмы (выканальніцкія спецыяльнасці, харавое дырыжыраванне, оперна-сімфанічнае дырыжыраванне); выкананне ўласных твораў (кампазіцыя); музычная літаратура (музыказнаўства); гармонія (усе спецыяльнасці, акрамя спеваў); элементарная тэорыя музыкі (спевы); сальфеджыа (усе спецыяльнасці); калёквіум (усе спецыяльнасці); фартэпіяна (музыказнаўства, кампазіцыя, харавое дырыжыраванне).

Уступны экзамен па мове і літаратуры праводзіцца па праграмах, якія складзены ў адпаведнасці з вучэбнымі праграмамі агульнай сярэдняй адукацыі і зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Замест здачы экзамену па беларускай або рускай мове і літаратуры могуць быць залічаны вынікі цэнтралізаванага тэсціравання па беларускай або рускай мове, пацверджаныя сертыфікатам цэнтралізаванага тэсціравання.

Права на залічэнне маюць асобы, якія вытрымалі ўступныя экзамены і прайшлі па конкурсе. Залічэнне на ўсе факультэты праводзіцца па большасці набраных балаў на раздзелах экзамену па спецыяльнасці.

Асобы, якія скончылі сярэднюю, сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову з дыпломам “з адзнакай” або з медалём, лаўрэаты і дыпламанты міжнародных юнацкіх і дарослых конкурсаў па выканальніцкіх спецыяльнасцях (у якасці салістаў), па кампазіцыі; лаўрэаты нацыянальных конкурсаў па выканальніцкіх спецыяльнасцях (рангам не ніжэй конкурсу сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, у якасці салістаў), па кампазіцыі (перамогі на вышэйпералічаных конкурсах павінны быць атрыманы ва ўзросце не маладзей за 16 гадоў) здаюць раздзел экзамену па спецыяльнасці “выкананне праграмы” або “выкананне ўласных твораў”. Пры атрыманні адзнакі “пяць” яны вызваляюцца ад наступных экзаменаў; пры атрыманні адзнакі ніжэй за “пяць” яны здаюць усе астатнія экзамены. Да ўдзелу ў конкурсе на спецыяльнасць “Кампазіцыя” дапускаюцца толькі абітурыенты, якія атрымалі на раздзеле экзамену па спецыяльнасці “выкананне ўласных твораў” адзнаку “чатыры”, “чатыры з паловай” або “пяць”.

Абітурыенты, паступаючыя на спецыялізацыю “харавое дырыжыраванне”, якія скончылі сярэднюю, сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову з дыпломам “з адзнакай” або з медалём, пры атрыманні адзнак “пяць” на раздзелах экзамену па спецыяльнасці “сальфеджыо”, “гармонія”, “выкананне праграмы” вызваляюцца ад наступных экзаменаў. Абітурыенты, паступаючыя на спецыяльнасць “Музыказнаўства”, якія скончылі сярэднюю, сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову з дыломам “з адзнакай” або з медалём, вызваляюцца ад экзаменаў па мове і літаратуры пры атрыманні адзнак “пяць” па ўсіх раздзелах экзамену па спецыяльнасці.

Пераможцы (I, II, III месца) міжнародных і рэспубліканскіх прадметных алімпіяд па мове і літаратуры, праведзеных Міністэрствам адукацыі ў бягучым навучальным годзе, вызваляюцца ад здачы ўступнага экзамену па мове і літаратуры з выстаўленнем ацэнкі “пяць”.

Прыём на падрыхтоўчае аддзяленне спеваў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з “Приемными требованиями по специальным дисциплинам для поступающих в Белорусскую государственную академию музыки”, зацверджанымі Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. Абітурыенты здаюць адзін экзамен па спецыяльнасці. Экзамен складаецца з двух раздзелаў, кожны з якіх ацэньваецца асобнай адзнакай; першы раздзел — у класе, другі — у канцэртнай зале.

Паступаючыя на падрыхтоўчае аддзяленне кампазіцыі прадстаўляюць асабістыя творы, якія ацэньваюцца адзнакамі: “пяць” (5), “чатыры з паловай” (4,5), “чатыры” (4), “тры з паловай” (3,5), “тры” (3), “два” (2). Залічваецца абітурыент, які атрымаў найбольш высокі бал.

**Абітурыенты прадстаўляюць у прыёмную камісію наступныя дакументы:**

заява ўстаноўленага ўзору на імя рэктара; дакумент дзяржаўнага ўзору аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале; сертыфікат цэнтралізаванага тэсціравання па беларускай або рускай мове і літаратуры ў арыгінале або яго натарыяльна завераная копія ці ксеракопія; медыцынская даведка па форме 086У (абавязковым з'яўляецца праходжанне ўсіх прышчэпак); даведка ўрача-фаніятра (спецыяльнасці “Спевы”, “Харавое дырыжыраванне”); выпіска з працоўнай кніжкі (для тых, хто працуе); даведка службы занятасці насельніцтва (для тых, хто знаходзіцца на яе ўліку); 6 фотакартак памерам 3 на 4 см; дакументы, якія пацвярджаюць перамогі ў музычных конкурсах у арыгінале; пашпарт або іншае пасведчанне асобы, выдадзенае органамі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

Абітурыенты, якія паступаюць не ў год атрымання сярэдняй адукацыі, абавязаны прадставіць дакументы, якія пацвярджаюць іх вучобу ці работу за гады, што папярэднічалі паступленню (дыплом, выпіска з працоўнай кніжкі або даведка службы занятасці насельніцтва, іншае).

Прыём дакументаў на дзённую форму навучання — з 18 па 30 чэрвеня з 10.00 да 16.00, акрамя нядзелі.

Прыём дакументаў на завочнае навучанне і на спецыялізацыю “оперна-сімфанічнае дырыжыраванне” — з 10 па 15 верасня з 10.00 да 16.00.

Кансультацыі для абітурыентаў дзённай формы навучання — з 28 па 30 чэрвеня.

Уступныя экзамены на дзённую форму навучання — з 4 па 19 ліпеня.

На перыяд уступных экзаменаў абітурыентам дзённай формы навучання прадастаўляецца інтэрнат (з 28 чэрвеня) з аплатай кошту пражывання.

Уступныя экзамены на завочную форму навучання і на спецыялізацыю “оперна-сімфанічнае дырыжыраванне” — з 17 па 24 верасня; кансультацыі для абітурыентаў завочнай формы навучання — 14—15 верасня. На завочную форму навучання маюць права паступаць толькі асобы з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, працуючыя па спецыяльнасці. Паступаючыя на месцы мэтавага прыёму павінны мець накіраванні абласных упраўленняў культуры.

Азнаёміцца з парадкам прыёму ў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі і атрымаць кансультацыю па іншых пытаннях можна па адрасе: г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Тэл. прыёмнай камісіі 206-59-60.

**БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ**
**ажыццяўляе таксама прыём**

на Педагагічны факультэт акадэміі ў г. Магілёве па спецыяльнасцях: “**Дырыжыраванне**” (спецыялізацыя харавое дырыжыраванне); “**Інструментальнае выканальніцтва**” (спецыялізацыі фартэпіяна, скрыпка, духавыя інструменты, баян-акардэон, домра, балалайка, цымбалы). Умовы і тэрміны прыёму, як выкладзена вышэй. *Адрас факультэта: 212000, вул. Крыленкі, 12. Тэл. (0222)25-28-14.*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2806
Нумар падпісаны ў друк 17.5.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2775

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12